З ПРЫЧЫНЫ ПЕРАХОДУ ЧАСОПІСУ

„НАШ КРАЙ“

НА САМААПЛАТУ

з І-га студзеня 1927 году

РЭДАКЦЫЯ СПЫНЯЕ

ДАРМОВУЮ ВЫСЫЛКУ ЧАСОПІСУ

---

КАБ НЯ БЫЛО ПЕРАПЫНКУ Ў РЭГУЛЯРНЫМ АТРЫМАНЬНІ ЧАСОПІСУ

РЭДАКЦЫЯ ПРОСІЦЬ

СВАЯЧАСОВА

ПРЫСЫЛАЦЬ ПАДПІСКУ НА

„НАШ КРАЙ“

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК

Цэнтральнага Бюро Краязнаўства

ПРЫ

ІНСТЫТУЦЕ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

№ 10-11 (13-14) Кастрычнік—Лістапад 1926 г.

ВЫДАНЬНЕ
Інстытуту Беларускае Культуры
МЕНСК—1926



# СТУДЭНТ, ПАЗНАЙ СВОЙ КРАЙ!

Вялізная большасьць нашых краязнаўцаў па ўсёй сетцы краязнаўчых таварыстваў і гурткоў—настаўнікі і вучнёўская моладзь (больш за 90%). Гэта болей усяго тое настаўніцтва і тая моладзь, якія знаходзяцца ў акругах, раёнах і вёсках. Кожны з іх, па меры магчымасьці і здольнасьці, праводзіць на месцы краязнаўчую працу ўва ўсіх яе рознастайных галінах—ад археолёгічна-гістарычных досьледаў, зьбіраньня матар'ялаў народнай творчасьці да дасьледваньня нашай сельска-гаспадарчай вытворчасьці, нашых фабрык, саматужных промыслаў і г. д. і г. д.

У працягу апошняга лета ладзілася шмат экскурсій па розных галінах краязнаўства ў многіх мясцох БССР.

Ад кваліфікаваных спэцаў-профэсароў да школы-сямігодкі, усе ладзілі экскурсіі рабілі досьледы і зьбіралі матар'ялы, чытаючы жывыя старонкі краязнаўства з жывой вялікай кнігі нашага атачэньня, нашай прыроды, нашай краіны.

Уся многатысячная сям'я краязнаўцаў у большасьці альбо былыя альбо будучыя студэнты: настаўнікі і вучнёўская моладзь.

Каб зараз-жа павялічыць гэтую сям'ю, каб падрыхтаваць на зьмену старым новых маладых, поўных сіл і энэргіі краязнаўцаў, трэба каб ува ўсіх нашых вышэйшых вучэбных установах, тэхнікумах і рабфаках ладзіць краязнаўчыя гурткі. Гэтыя гурткі стануць як-бы жывымі практычнымі сэмінарыямі, якія ўзмацуюць тэорэтычныя веды студэнтаў, а разам з тым наша краязнаўчая справа ўзбагаціцца зараз-жа сьвежым складам працаўнікоў.

Нельга казаць, што да гэтага часу нашы студэнты зусім ня прымалі ўдзелу ў краязнаўчай працы. У некаторых вучэбных установах частка студэнтаў вывучае свой край, але гэтая праца носіць выпадковы характар.

Працуе, напрыкад, Віцебскі мастацкі тэхнікум, студэнты якога ўжо другі год зьбіраюць па вёсках матар'ялы па народным мастацтве.

Студэнты Горацкай С. Г. Акадэміі таксама робяць краязнаўчыя досьледы.

Ёсьць краязнаўчыя гурткі пры некаторых пэдтэхнікумах,

якія выяўляюць сябе хоць-бы зьбіраньнем па вёсках слоў жывой беларускай мовы і матар'ялаў народнай творчасьці.

Нават у Ленінградзе пры унівэрсітэце студэнты-беларусы маюць свой навукова-дасьледчы гурток, у якім працуюць па дасьледваньню Беларусі этнографы, лінгвістыя, экономістыя і г. д. Шэсьць беларускіх студэнтаў-этнографаў Ленінградзкага Унівэрсытэту былі сёлета накіраваны ў розныя акругі Беларусі для краязнаўчага дасьледваньня.

Што тычыцца Менскага Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту, дык хоць пры ім існуе краязнаўчы гурток, але ён бадай зусім сябе ня выявіў. Тое самае можна казаць і пра Музтэхнікум.

Каму, як ня пэдфакаўцам, нашым будучым настаўнікам, зараз-жа ў процэсе вучобы не павялічыць сваіх ведаў практычнымі досьледамі па краязнаўстве, каб пасьля пайсьці ў школу сталымі краязнаўцамі з багатым багажом ведаў у гэтай галіне, каб краязнаўчы ўхіл, які цяпер узяты ў школах, накіраваць на цьвёрды шлях. Бо трэба сказаць, што не ўва ўсіх школах гэта справа стаіць на належнай вышыні, з прычыны непадрыхтованасьці настаўніцтва.

Каму, як ня мэдфакаўцам вывучаць па вёсках, мястэчках і гарадох наша санітарна-гігіенічнае становішча, соцыяльныя хваробы і па гарадох і па вёсках, вывучаць народную мэдыцыну, зьбіраць лекавыя травы. Кожны доктар павінен добра быць знаёмым з бытам і акольным жыцьцём той мясцовасьці, дзе ён працуе.

Каму, як ня студэнтам факультэту права і гаспадаркі дасьледваць на мясцох наша звычаёвае права, новы быт, соцыяльныя ўзаемаадносіны і клясавае расслаеньне на вёсцы, сельскую гаспадарку, саматужную ды фабрычную прамысловасьць і г. д.

Каму, як ня студыйцам Музтэхнікуму—будучым тварыцелям беларускай музыкі, вывучаць на мясцох народныя песьні мэлёдыі, танцы і наагул быт беларускага селяніна. Ці была наладжана хоць адна экскурсія ў вёску?—хіба што не.

Тое самае можна казаць і аб студэнтах іншых вучэбных устаноў. Кожны па сваёй спэцыяльнасьці, па сваёй галіне навукі павінен, апрача лекцый і кніг, практывацца ад першага-ж курсу на жывых краязнаўчых досьледах.

Толькі пры гэткіх умовах цяперашні студэнт пасьля сканчэньня навукі будзе не аўтоматычным чыноўнікам, а будзе займацца жывой творчай працай, зробіцца досьледчыкам, выведае грунтоўна галіну сваёй навукі на жывых прыкладах.

Такім чынам будзе ўтвораны моцны грунт для падняцьця краіны і экономічна і культурна.

Мы на новы вучэбны год клічам беларускага студэнта.

Студэнт, пазнай свой край! Усе сто процантаў студэнцтва павінны працаваць па дасьледваньні мінулага і сучаснага нашага краю!

Студэнт, карыстайся дзеля дасягненьняў у навуцы нашай найбагацейшай бібліотэкай—жывымі ілюстрацыямі нашага краю на яго бязьмежных прасторах!

Цэнтральнае Бюро
Краязнаўства.

---



М. Кіркевіч.

# Перапіс насельніцтва [1]).

На тэрыторыі сучаснай БССР шчыльны перапіс насельніцтва адбыўся ў 1897 годзе. Усеагульны перапіс 1920 г., які адбываўся ў надзвычайна цяжкіх умовах, ахапіў толькі частку Беларусі, а перапіс 1923 г. адбыўся выключна ў гарадох. Такім чынам, для падліку сельскага насельніцтва і, асабліва, яго складу прыходзіцца браць пад увагу даныя 1897 г. Апошнія, апроч сваёй трыццацігадовай даўнасьці, ня могуць адпавядаць сучаснаму становішчу яшчэ і таму, што ў гэты прамежак часу адбыліся такія падзеі, як вайна і рэволюцыя, якія ў складзе насельніцтва зрабілі значныя зьмены. Калі да падліку агульнай колькасьці насельніцтва можна падыйсьці яшчэ іншымі спосабамі, апроч перапісу, дык даныя аб родавым і ўзросным складзе насельніцтва, аб нацыянальнасьці і пісьменнасьці, аб социяльным, профэсіяналным складзе і г. д. могуць быць атрыманы толькі шляхам шчыльных перапісаў.

Звычайна ўва ўсіх Эўропейскіх дзяржавах перапісы насельніцтва адбываюцца кожныя дзесяць, а часам і пяць год. Прымаючы пад увагу неабходнасьць і сваячаснасьць вывучэньня колькасьці і складу насельніцтва, Савецкая Рэспубліка пастанавіла зрабіць перапіс насельніцтва. Перапіс будзе адбывацца па спэцыяльных асабовых лістках, сямейных картачках і асобных уладальных картачках.

У програме асабовага лістка, апроч звычайных пытаньняў дэмографічнага перапісу, асаблівая ўвага будзе зьвернута на выясьненьне профэсіянальна-социяльнага складу насельніцтва, а таксама і на беспрацоўе.

Перапіс, які мае адбыцца, дазволіць вывучыць родавы і ўзросны склад насельніцтва, а таксама, шляхам параўнаньня з данымі даваенага

---

[1]) Пашыраны пленум ЦБК ад 3-4 верасьня г. г. адзначыў патрэбнасьць прыняцьця актыўнага ўдзелу краязнаўчых організацый у дэмографічным перапісе, які мае адбыцца ў сьнежні г. г.

Для азнаямленьня краязнаўчых організацый з мэтамі перапісу зьмяшчаецца артыкул М. Кіркевіча.

ЦБК просіць краязнаўчыя організацыі ўвязацца з статытычнымі органамі на мясцох і дапамагчы правільнаму правядзеньню перапісу, які дасьць краязнаўству каштоўны матар'ял па ўсіх галінах вытворчасьці і гаспадаркі краю. ЦБК

часу, і тыя зьмены, якія адбыліся ў гэтым складзе пад уплывам вайны і рэволюцыі. Цяпер вельмі востра адчуваецца адсутнасьць даных аб узросным складзе, асабліва, сельскага насельніцтва. Пры вырашэньні такіх пытаньняў, як зьдзейсьненьне ўсеагульнага навучаньня, ліквідацыі няпісьменнасьці, пытаньняў профэсіянальнай адукацыі, утварэньня розных устаноў па ахове здароўя і г. д. прыходзіцца апірацца на стасунак паміж узроснымі групамі, устаноўлены на аснове выбарачных абсьледваньняў.

Яшчэ большае мае значаньне пытаньне аб нацыянальнасьці. Поўнае зьдзейсьненьне мерапрыемстваў у галіне нацыянальнай політыкі надзвычайна ўскладняецца адсутнасьцю сучасных і пэўных статыстычных даных аб нацыянальным складзе насельніцтва БССР, якія-б адпавядалі запраўнаму становішчу.

Трудна грунтавацца на даных перапісу 1897 г., бо ўмацаваньне нацыянальнае сьвядомасьці калісь прыгнечаных народаў, якое адбылося пад уплывам Кастрычнікавае рэволюцыі, мусіла-б адбіцца і на падзеле насельніцтва паводле нацыянальных адзнак. Пазьнейшыя даныя мала задаваляюць, бо яны атрымліваліся або адміністрацыйным шляхам праз сельсаветы, або зьбіраліся ў такіх умовах (перапіс 1920 г.), якія зусім не гарантавалі правільнага адказу на пастаўленыя пытаньні аб нацыянальнасьці.

У сучасны момант адбываюцца значныя перамяшчэньні насельніцтва па тэрыторыі: да рэволюцыі насельніцтва пасувалася з сельскіх мясцовасьцяй у гарады, з малазямельных раёнаў—у Сібір і іншыя месцы колёнізацыі, адбывалася эміграцыя ў Эўропу і Амэрыку; у час вайны адбываўся вялізарны рух як з захаду на ўсход, так і наадварот; галодныя гады выклікалі імкненьне з гарадоў і фабрычных цэнтраў у вёску, з Паваложжа ў мясцовасьці не захопленыя голадам; з пачаткам адбудоўчага пэрыоду адзначаецца новы наплыў у гарады. У Беларусі, у зьвязку з упадкам дробнага прыватнага гандлю, адбываецца рух з мястэчак у гарады. У час усіх гэтых перамяшчэньняў значная частка насельніцтва асядае на сталае жыцьцё. Для выясьнненьня пытаньня аб падзеле насельніцтва на сталае і прышлае і для выясьненьня меры даўнасьці пражываньня ў даным месцы, у асабовым лістку зьмешчаны пытаньні аб месцы нараджэньня і часу пражываньня ў даным заселеным пункце. У зьвязку з адсутнасьцю рэгістрацыі ўсялякіх перамяшчэньняў насельніцтва, адказы на пастаўленыя пытаньні дадуць магчымасьць падыйсьці да высьвятленьня пытаньня аб кірунку перамяшчэньня, аб характары росту гарадоў і г. д.

Савецкая ўлада робіць вялікія высілкі, траціць шмат сродкаў на ліквідацыю няпісьменнасьці, але, для таго каб гэта змаганьне за пісьменнасьць адбывалася плянова, неабходна знаць лік няпісьменных і падзел іх па тэрыторыі і па ўзросьце. Між тым, гэтых даных няма і даць іх можа толькі перапіс, дзеля чаго ў асабовым лістку стаіць пытаньне аб пісьменнасьці, прычым выяўляюцца таксама напоўпісьменныя, г. зн. тыя, якія ўмеюць толькі чытаць. Пісьменнасьць адзначаецца ня толькі на роднай мове, але і на іншых мовах.

У выніку імпэрыялістычнай і грамадзянскай вайны застаўся вялікі лік калек і псыхічна хворых. Для выяўленьня гэтых ахвяр вайны, а таксама для выясьненьня ліку калек і псыхічна хворых ад ураджэньня і хворых ад розных іншых прычын, у лістку занатоўваюцца фізычныя і псыхічныя занядужаньні з паказаньнем, дзе і якім чынам яны набыты,

Калі да пералічаных пытаньняў далучыць пытаньне аб сямейным стане, дык гэтым вычэрпваецца дэмографічная частка лістка.

Другая група пытаньняў мае на мэце выявіць социяльны і профэсіянальны склад насельніцтва. Тут даецца характарыстыка трох катэгорый насельніцтва: самадзейных, несамадзейных і беспрацоўных. Суадносіны паміж гэтымі катэгорыямі будуць сьведчыць аб тэй ці іншай ступені добрабыту данага грамадзкага організму. Чым большы процант падае на долю самадзейных, чым менш, значыцца, кожнаму самадзейнаму прыходзіцца ўтрымліваць несамадзейных і беспрацоўных, тым больш значным будзе вытворчы эфэкт, і наадварот.

У пытаньнях аб самадзейнасьці насельніцтва высьняецца як галоўны занятак, які зьяўляецца асноўнай крыніцаю атрыманьня сродкаў да існаваньня, так і адзін з пабочных. Апроч выяўленьня з вельмі вялікай дэтальнасьцю назовы рамяства, промыслу, пасады, што дасьць магчымасьць падзяліць самадзейнае насельніцтва паводле профэсіі, дазволіць устанавіць ступень падзелу працы,—ставіцца пытаньне аб становішчы ў занятках. Адказ на апошняе пытаньне дазволіць падзяліць насельніцтва паводле клясавых адзнак, выявіць, якое месца ў нашай рэспубліцы належыць рабочым, служачым, адзіночкам, гаспадаром, якім дапамагаюць члены сям'і, і гаспадаром, якія карыстаюцца наёмнай працай. Дзеля таго-ж, каб падзяліць самадзейных паводле галін працы, г. зн. каб высьніць лік асоб занятых у сельскай гаспадарцы, прамысловасьці, гандлі, транспорце і г. д.,—ставіцца пытаньне аб назове ўстановы ці прадпрыемства, дзе працуе, служыць ці гаспадарыць даная асоба.

Адным з балючых пытаньняў сучаснасьці зьяўляецца пытаньне аб беспрацоўі. Усебаковае асьвятленьне гэтага моманту надзвычайна патрэбна і ня можа быць інакш вывучана, як толькі на аснове шчыльнага перапісу.

Беспрацоўнымі будуць лічыцца ня толькі тыя, якія зарэгістраваліся ў Пасрэдніцкіх Бюро, але і ўсе, якія ня маюць ніякай працы і шукаюць яе.

Для характарыстыкі арміі беспрацоўных, для вывучэньня яе профэсіянальнага і социяльнага складу і для падзелу паводле галін працы, у якіх гэтыя асобы працавалі да надыходу беспрацоўя, для кожнага беспрацоўнага, апроч пытаньняў аб даўнасьці беспрацоўя, будзе ставіцца таксама пытаньне аб занятках, якія папераджалі беспрацоўе, аб становішчы ў гэтых занятках і аб месцы службы.

Што датычыцца несамадзейнага насельніцтва, да якога адносіцца ўсё насельніцтва, што ня мае ніякіх заняткаў і жыве або на чужыя сродкі (дзеці, хатнія гаспадыні і г. д.), або на сродкі дзяржавы (утрыманцы, пэнсіянэры і г. д.), або, урэшце, на даходы ад капіталу, даходы ад дому і г. д., дык на аснове адказаў на пастаўленыя ў асабовым лістку пытаньні, іх можна будзе падзяліць на групы паводле галін працы.

Вось аб'ём перапісу, які мае адбыцца. Па гэтай програме будзе апісвацца ўсё насельніцтва, як гарадзкое так і сельскае, прычым на кожную асобу будзе складацца асобны асабовы лісток. У паселішчах гарадзкога тыпу, у лік якіх па БССР, апроч тых, якія афіцыяльна лічуцца гарадамі і мястэчкамі, увайшоў рад іншых паселішч: фабрычна-заводзкіх, станцыйных пасёлкаў і г. д., усяго 107 заселеных месц гарадзкога тыпу. У гэтых пунктах, апроч асабовага лістка, павінны быць запоўнены і сямейныя картачкі і ўладальныя ведамасьці.

Сямейная картачка складаецца на кожную асобную сям'ю. Укладаньне гэтай картачкі мае сваім заданьнем вывучэньне сучаснай сям'і, як з боку яе лікавага, родавага, узроснага і соцыяльна-профэсіянальнага складу, так і з боку умоў памяшканьня.

Цікавасьць і значаньне гэтых пытаньняў асабліва вялікія яшчэ і дзеля таго, што ў гэтых паселішчах падобнае абсьледваньне адбылося ў 1923 г.

Параўнаньне вынікаў перапісаў дазволіць выявіць дынаміку гарадзкой сям'і і кватэрных умоў за апошнія тры гады. Аб значаньні пастаноўкі пытаньняў, якія характарызуюць сям'ю, асабліва ў сучасных умовах, калі ёсьць адзнакі яе распаду, гаварыць ня прыходзіцца. Такое самае вялізарнае значаньне мае пытаньне і аб памяшкальных умовах. Увязваючы кватэрныя ўмовы з соцыяльным і профэсіянальным становішчам галавы сям'і, мы зможам падыйсьці да характарыстыкі кватэрных умоў жыцьця ў паасобных профэсій, соцыяльных групах і галінах працы.

Апроч асабовага лістка і сямейнай картачкі ў паселішчах гарадзкога тыпу на кожнае ўладаньне будзе складацца асобная ўладальная картачка. Апроч падзелу ўсіх уладаньняў на групы па форме эксплёатацыі іх, перапіс дасьць магчымасьць выявіць лік зруйнаваных будоўляў і тых будоўляў, якія цяпер будуюцца, і характарыстыку існуючых. Апроч пытаньняў, якія датычацца ўпарадкаваньня ўладаньня (вадаправод, электрычнасьць), уладальная картка падрабязна спыняецца на характарыстыцы фізычнага стану кватэр і ўсіх незаселеных памяшканьняў, якія знаходзяцца ў даным уладаньні. У цяперашніх умовах, у сувязі з вострым кватэрным крызісам і разьвіцьцём будаўніцтва, пры надзвычайна недасканалых спосабах падліку яго, пастаўленыя пытаньні асабліва сваячасны і маюць вялікае практычнае значаньне.

Перапіс насельніцтва, які мае адбыцца, будзе перапісам аднадзённым, г. зн. усе весткі, якія будуць зьбірацца прыстасоўваюцца да аднаго пэўнага дня—17-га сьнежня. Найбольш было-б мэтазгодным, каб дзень перапісу фактычна супадаў з часам абсьледваньня, аднак, з прычыны складанасьці програмы, адсутнасьці здаваляючага ліку падрыхтаваных рэгістратараў і г. д., крытычны дзень перапісу і час нагляданьня, звычайна, нават у найбольш культурных дзяржавах не супадаюць. А ў умовах Саюзу, наагул, і ў Беларусі, у васобнасьці, прызначаецца даволі значны час, у працягу якога павінна быць апісана ўсё насельніцтва, з тэй, аднак, неабходнай умовай, каб усе весткі зьбіраліся абавязкова на адзін пэўны момант. У сельскіх паселішчах перапіс будзе адбывацца ў працягу 14 дзён, а ў гарадзкіх—7 дзён. Нават пры такім прадоўжаным часе нагляданьня для сваячаснага заканчэньня перапісу вымагаецца ў сельскіх паселішчах каля 4.000 асоб і ў гарадзкіх—каля 1.550 асоб.

Набраць, у кароткі тэрмін навучыць і організаваць гэту армію працаўнікоў—ёсьць галоўная і асноўная праца. Калі гэта будзе добра выканана, дык і перапіс пройдзе добра.

Зусім зразумела, што такое складанае заданьне можа быць выканана толькі пры ўмове самай рашучай дапамогі з боку ўсіх устаноў і організацый, а таксама асабліва пры сьвядомых адносінах з боку ўсяго насельніцтва. Дзеля гэтага павінна быць праведзена самая шырокая агітацыя і пропаганда перапісу.

Агульнае кіраўніцтва перапісам у Беларусі даручана Цэнтр. Ста-

тыстычнай Управе, якая арганізуе рэгістратарскія вучасткі, інструктарскія раёны і перапісныя аддзелы і запрашае працаўнікоў.

Галоўная маса рэгістратараў і інструктароў будзе вербавацца з мясцовага насельніцтва—пераважна настаўнікаў, студэнтаў, членаў краязнаўчых таварыстваў, комсамольцаў, вучняў старшых клясаў і г. д. Рэгістратары будуць запрашацца за два дні да перапісу, а інструктары за 6-7 дзён.

Дзеля таго, каб па магчымасьці скараціць час перапісу, трэба правесьці вялікую падрыхтоўчую працу.

Асноўнай работай, без якой ня можа быць зроблены і сам перапіс, зьяўляецца складаньне сьпіскаў заселеных месц, а таксама папраўкі і дапаўненьне існуючых карт—трохвёрстак з абазначэньнем меж сельсаветаў. Гэтыя работы асабліва важны і патрэбны для Беларусі з яе вялізарным лікам вельмі дробных заселеных месц. Адсутнасьць сьпіскаў або іх недакладнасьць можа прывесьці да вялікіх пропускаў. Праца выконваецца праз раённых статыстыкаў і ўжо выканана на 95%. Папярэднія сьпіскі, правераныя ў процэсе перапісу, з паказаньнем асноўных момантаў, якія іх характарызуюць, зьяўляцца надзвычайна каштоўным матар'ялам як для справак, так і для вывучэньня расьсяленьня насельніцтва БССР.

Што датычыцца да паселішч гарадзкога тыпу, дык неабходна да моманту перапісу мець пляны, хаця-б схэматычныя і папярэднія сьпіскі ўладаньняў з паказаньнем колькасьці кватэр і насельніцтва.

Да ліку найбольш галоўных падрыхтоўчых прац належыць таксама перапіснае раёнаваньне, г. зн. абазначэньне меж рэгістратарскіх вучасткаў, інструктарскіх раёнаў і кіраўнічых аддзелаў. Асноўнай адзнакай, паложанай у васнову гэтых прац, зьяўляецца захаваньне меж існуючых адміністрацыйных адзінак, што неабходна для таго, каб зараз-жа пасьля заканчэньня перапісу можна было атрымаць папярэднія падагульваньні перапісу па кожнай адміністрацыйнай адзінцы. Папярэднія падагульваньні ліку насельніцтва ўсяе Беларусі з падзелам паводле роду будуць атрыманы і апублікаваны не пазьней сярэдзіны студзеня 1927 г.

Адначасна з перапісам грамадзянскага насельніцтва адбудзецца і перапіс Чырвонай Арміі, прычым парадак перапісу Чырвонай Арміі ўстанаўляецца асобна па згодзе ЦСУ з адпаведнымі вайсковымі ўстановамі.

У закрытых установах: у больніцах, прытулках, астрогах і г. д. перапіс будзе даручаны пэрсоналу гэтых установ пад беспасрэдным кіраўніцтвам інструктароў Цэнтр. Статыстычнае Управы.





Г. Аляксандраў.

# Чарговыя задачы школьнага краязнаўства.[1])

„На запытаньне, чым азначаецца зьмест пэдагогічнага працэсу ў савецкай сыстэме асьветы, мы адказваем так: з пункту гледжаньня агульнага кірунку работы—мэтамі школы; з пункту гледжаньня матар'ялу, з якога школа бярэ асобныя тэмы для сваёй дзейнасьці—жыцьцём раёну ў самым шырокім разуменьні гэтага слова." „Сучасная школа—гэта школа, якая будуе ўсю сваю працу на базе мясцовай грамадзка-неабходнай вытворчай працы як з пункту гледжаньня ўдзелу, ў гэтай працы, так з пункту гледжаньня вывучэньня яе."

Так азначае адзін з выдатных прадстаўнікоў сучаснай пэдагогічнай думкі А. Калашнікаў [2]) квінтэсэнцыю работы савецкай школы. Гэтае азначэньне, сьцьверджанае досьледам работы масавае щколы за апошнія гады па програмах Гус'у (Дзяржаўнага Вучонага Савету), у сучасны момант не патрабуе доказу і стала як-бы аксыомай працы настаўнікаў.

Ці зроблены, аднак, з гэтага азначэньня ўсе неабходныя вывады, ці адчувае масавы настаўнік, у першую чаргу вясковы, у сваёй штодзённай працы тое зрушэньне, тыя зьмены, якія павінен уносіць у школу мясцовы матар'ял, матар'ял, узяты з непасрэднага жыцьця раёну ўва ўсіх яго праявах—экономічнай, бытавой, ідэолёгічнай?

І зроблены—і не.

За апошнія гады ўва ўсіх частках нашага Саюзу, у прыватнасьці і ў БССР, была зроблена значная работа па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы масавага настаўніцтва для працы па новых програмах. Гэта праца ў большасьці насіла тэрміновы і кароткачасовы характар і па сваёй сутнасьці павінна была абмежавацца толькі распрацоўкаю пытаньняў, якія адносіліся да програм і да організацыі школы.

Поруч з гэтым, настаўнік разумеў, што новая школа толькі тады зойме належнае месца ў жыцьці, калі яна, новая па форме, стане новай

---

[1]) Асноўныя думкі гэтага артыкулу былі дадзены ў дакладзе „Краязнаўства і школа", зробленым на пашыраным пленуме ЦБК Інбелкульту 3 верасьня 1926 г.

[2]) Гл. яго артыкул: „Производственно-краеведческая основа советской системы народного образования", „Народный Учитель" № 4, 1926 г, стар. 5 і 6.

і па зьместу, інакш кажучы, перад настаўнікам паўстала пытаньне аб краязнаўчым матар'яле.

Гэта і зьявілася прычынай таго, што краязнаўчая праца знайшла шырокі водгук сярод- масавага настаўніцтва, чаму апошняе складае звыш 90% сяброў краязнаўчых організацый на мясцох, што слухачы нашых пэдагогічных вучэбных установ пэдтэхнікумаў і пэдвузаў, якія падрыхтоўваюць будучых настаўнікаў, выказваюць вялікую цікавасьць да гэтай працы.

Па якім шляху ішла праца настаўніцтва?

Паводле справаздач, а таксама на падставе непасрэднага азнаямленьня з становішчам на мясцох, амаль усюды краязнаўчая праца разьвівалася па пракладзенай дарозе зьбіраньня матар'ялаў—мясцовай прыроды, этнографіі, слоўнага матар'ялу, зьяўляючыся ў сутнасьці працай дапаможна-акадэмічнага характару. Як такая, гэта работа зьяўлялася пераважна справаю асобных мясцовых спэцыялістых і аматараў, якія не змаглі ўцягнуць у непасрэдную працу ўсю настаўніцкую масу. Апошняя не заўсёды разумела сувязь, існуючую паміж краязнаўчай працай і штодзённай школьнай; апроч гэтага, масавы настаўнік далёка не заўсёды адчуваў сябе добра падрыхтаваным да гэтай навукова-краязнаўчай акадэмічнай працы. Вынікам гэтага зьявіўся разрыў паміж мэтодычнай і краязнаўчай працай настаўніцтва: першая „апрацоўвала“ комплексныя тэмы, не напаўняючы іх, як агульнае правіла, мясцовым матар'ялам [1]), другая зьбірала мясцовы матар'ял і мала клапацілася аб пасоўваньні яго ў школьную практыку. Гэты разрыў можа і павінен быць запоўнены толькі адзіным шляхам—школьным краязнаўствам.

У чым сутнасьць і якія задачы школьнага краязнаўства? Па самай сваёй аснове, школьнае краязнаўства не зьяўляецца якой-небудзь новай спэцыяльнай галінай краязнаўчай працы, яна ня мае самастойнага, асобна ад другіх, об'екту вывучэньня—яно толькі па свайму абагульняе здабыты матар'ял, даючы яго школе ў форме больш дапасаванай з мэтодычнага боку. Школьнае краязнаўства ставіць сабе, галоўным чынам, практычную задачу мэтодычнай апрацоўкі мясцовага матар'ялу.

Гэтым азначаюцца і іншыя моманты школьнага краязнаўства.

Школьнае краязнаўства павінна абслугоўваць школу. Гэта значыць, што школьнае краязнаўства павінна сабе ставіць і пасвойму разьвязваць тыя самыя задачы, якія ставіць сабе наша сучасная школа—вытворчыя задачы. Краязнаўцы зьбіраюць матар'ял ня толькі як цэглу для „храма навукі“—гэта адзін бок справы; другі бок ня менш важны: зьбіраць матар'ял мясцовай прыроды, экономікі, быту, мовы дзеля таго каб на гэтым матар'яле вучыліся дзеці данага сяла, раёну, акругі.

Пасоўваючы краязнаўчую працу і яе вынікі ў школьную практыку, школьнае краязнаўства мэтодычна стыкаецца з усімі сваімі дысцыплінамі, якія ўваходзяць у вучэбны плян школы, з грамадазнаўствам, прыродазнаўствам, літаратурай, утвараючы для іх новыя выхадныя пункты для працы.

Ня спыняючыся цяпер на мэтодычных момантах школьнага краязнаўства, якім, з прычыны іх асаблівай важнасьці павінна быць адведзена спэцыяльнае месца ў нашай пэдагогічнай літаратуры, я хачу указаць у агульных рысах на некаторыя задачы, якія высоўвае школьнае краязнаўства перад ЦБК у сувязі з яго агульным плянам працы.

[1]) Гл. адносна гэтага кніжку Шацкага — „Программы Гус'а и местная работа над ними“—прадмова.

Першая задача, на якую неабходна ў бліжэйшы час зьвярнуць сур'ёзную ўвагу мясцовых, у першую чаргу, раённых організацый—утварэньне мясцовых краязнаўчых музэяў. Такія музэі павінны адбіваць „жыцьцё раёну ў самым шырокім разуменьні гэтага слова“ [1]). Неабходна вызваліцца ад яшчэ распаўсюджанага і здадзенага у вархіў уяўленьня, што мясцовыя музэі—толькі месца схову об'ектаў, прадназначаных для выпадковага агляду выпадковымі наведальнікамі. Калі ў умовах нашай сучаснай рачавістасьці, як падкрэсьлівае проф. Пакроўскі на зьезьдзе дзеячоў архіўных установ, нават архіў не павінен быць папяровымі могілкамі, а месцам чыннай працы, дык тым болей гэта можна дапасаваць да сучаснага мясцовага музэю. Такі музэй павінен мець у сабе об'екты і матар'ялы, якія ўсебакова характарызуюць жыцьцё раёну—яго прыроду, гаспадарчыя формы, быт. У такім музэі школа знойдзе мясцовы матар'ял для сваёй працы. З другога боку школа заўсёды будзе дапамагаць музэю ў сэнсе сыстэматычнага папаўненьня, шляхам прысылкі матар'ялаў школьнай працы, якія за рэдкімі выключэньнямі, гінуць з прычыны таго, што школа ня мае часу і магчымасьці клапаціцца аб захаваньні іх (фэнолёгічныя назіраньні, дасьледваньні мясцовай эканомікі-сельскагаспадарчай прамысловасьці і г. д.).

Другая задача—трэба, каб мэтодычная праца на мясцох была прасякнута краязнаўчым духам, каб яна не абмяжоўвалася перапісваньнем матар'ялаў з цэнтру і мэханічным выкананьнем задач апошняга. Трэба друкаваць справачнікі і іншыя падсобнікі. Гэтыя выданьні павінны быць ня толькі офіцыяльнага характару, але ў першую чаргу абслугоўваць мясцовую школу [2]).

Трэцяя задача—у вагульны плян падрыхтоўкі новых настаўнікаў і перападрыхтоўкі старых трэба ўключыць мэтодычна-краязнаўчую працу ў якасьці асобнай дысцыпліны ці спэцыяльнага курсу ў адпаведных вучэбных установах (пэдтэхнікумах, пэдкурсах і інш.). Трэба прыступіць да ліквідацыі „краязнаўчай няпісьменнасьці“, на якую заўсёды ўказваюць многія настаўнікі, шляхам організацыі лекцый на розных каротка-тэрміновых курсах, конфэрэнцыях і г. д. У некаторых мясцовасьцях РСФСР (Маскоўская губ., Ленінградзкая і інш.) такія спробы масавай мэтодычнай працы з настаўніцтвам у галіне краязнаўства ўжо адбываліся і далі добрыя рэзультаты (гл., напр., справаздачы ў часоп. „Народный Учитель“, № 4 за 1926 г., а таксама ў провінцыяльных пэдагогічных выданьнях).

Чацьвертая задача—трэба, каб настаўнік у сваёй працы меў магчымасьць знаёміцца з існуючай школьна-краязнаўчай літаратурай, якая з кожным днём расьце. Неабходна сыстэматычнае ўкладаньне бібліографічных паказьнікаў і зьвярнуць на гэта ўвагу Наркамасьветы і Саюзу Працасьветы на мясцох, пры папаўненьні пэдагогічных бібліотэк.

Зразумела, што тут намечаны бліжэйшыя, першапачатковыя задачы школьнага краязнаўства, якія патрабуюць хуткага зьдзейсьненьня. Галіна школьнага краязнаўства праз меру вялікая і няма магчымасьці дый няма патрэбы ў адным артыкуле вычарпаць усе задачы, якія ёю высоўваюцца,—„лепш менш ды лепш.“

---

1) Глядзі вышэйпамянёную цытату з артыкулу Калашнікава.

2) Гл. з гэтага поваду цікавую дыскусію аб краязнаўчай кнізе для 3-га году навучаньня Навасёлава і проф. Шэнбэрга ў зборн. „Современной школе—новый учебник“, 1926 г., № 5.

Для правядзеньня намечаных задач неабходна організацыя пры ЦБК школьна-краязнаўчай камісіі, якая будзе працаваць у згодзе з мэтодычным органам Наркамасьветы.

Прасоўваньне краязнаўчай працы ў школу бясспрэчна будзе карысна тым двум „контрагентам“, якія зьяўляюцца важнейшымі фактарамі нашай сучаснай рачавістасьці: з аднаго боку—настаўніку, які пачуе фактычную сувязь паміж штодзеннай працай і краязнаўчай; з другога боку—школе, якая ня толькі на паперы, а і на самой справе будзе запаўняць програму „мясцовым матар'ялам“. У гэтых пунктах сходзяцца задачы і мэты школьнага краязнаўства, тут ключ да ажыўленьня краязнаўчай працы і ўцягненьня ў яе ўсёй настаўніцкай масы.





Проф. В. І. Пераход.

# Беларускія бары-ягаднікі і „бары-верасьнікі“.

I.

Хто ня ведае родных хваёвых „бароў-ягаднікаў“, якія радавалі нас з маленства і прыцягвалі да сябе чарніцамі і брусьніцамі? Хто ня помніць таксама паху бэза-каляровага верасу, які цьвіце ў залатыя дні раньняй восені, ад якога і атрымаў сваю назву і месяц верасень?

Гэтыя два тыпы беларускіх бароў, якія сустракаюцца даволі часта па ўсёй Беларусі, і будуць служыць на гэты раз прадметам нашай увагі.

Ня з пункту гледжаньня натуралістага мне хацелася-б сказаць тут некалькі слоў аб найбольш распаўсюджаных у Беларусі тыпах хваёвых бароў, а з іншага пункту гледжаньня.

Катэдра лесаэканомікі падыходзіць да лесу з боку вывучэньня яго продукцыі, гэта значыць, назьбіраньня тэй драўлянай масы, якая вельмі патрэбна беларусу ў гаспадарцы для будынкаў, апалу і розных с.-г. прылад.

І яшчэ адно пытаньне зьяўляецца вельмі важным для лесаэкономікі—гэта цана тэй-жа драўніны і яе нарастаньне з узростам, у розных умовах.

Умовы мясцовасьці, ствараючы той ці іншы тып драўніна-расьліннага згуртаваньня, робяць уплыў ня толькі на продукцыю, але і на каштоўнасьць дрэвастанаў. Дзеля гэтага лесаэкономістаму часам прыходзіцца зрабіцца натуралістым, каб зразумець прычыны рознай продукцыйнасьці тых ці іншых дрэвастанаў.

Вышэйпаказаныя тыпы беларускіх хваёвых бароў даюць розную продукцыю, маюць у аднолькавым узросьце розную вышыню і таўшчыню. Дзеля гэтага мы і дазволім сабе сказаць ніжэй некалькі слоў з мэтай выяўленьня асаблівасьцяй нашых лясоў.

Хваёвы „бор-ягаднік“ займае лёгкія суглінкавыя і супяшчаныя вільготныя глебы на роўных або зьлёгка пакатых мясцох. Па складзе гэта хваёвыя дрэвастаны з прымешкай елкі, якая складае каля $^1/_{10}$—$^2/_{10}$ агульнай масы, у малым ліку сюды ўваходзіць таксама бяроза і асіна. Падрост складаецца звычайна з елкі; рэдка ў падросьце ёсьць хвойка і бяроза. Акрыцьцё глебы складаецца з зялёных мхоў (нурпіт) і поўхмызьнякоў: чарніцы, брусьніцы; да іх часам прымешваецца суніца, папаратнік.

Гэта—лепшыя хваёвыя дрэвастаны Беларусі. Напр., паводле матар'ялаў дыплёмнай працы В. Санькоўскага, 118-гадовыя хваёвыя дрэвастаны тыпу „бор-ягаднік“ даюць запас у 83 такс. саж. на 1 дзес. Модэльнае дрэва на спробе (падпілованае і падсечанае, на фотоздымку з левага і правага боку стаяць секачы) мае крону ў 17,2 арш., пры агульнай даўжыні ствала ў 49 арш. 4 в. (каля 50); аб'ём ствала—68,7 куб. фут.

Продукцыя „бароў-ягаднікаў“, якія звычайна належаць да першых клясаў бонітэту, такая:

| УЗРОСТ. | Лік дрэў на 1 гэкт. | Сярэдняя вышыня ў мэтрах. | Сярэдні дыямэтр у сантымэтрах. | Сярэдні запас ў куб. мэтрах, |
|---|---|---|---|---|
| 85 гадоў | 455 | 30,2 | 31,2 | 487,0 |
| 110 „ | 280 | 32,4 | 36,0 | 455,16 |
| 120 „ | 277 | 33,4 | 37,0 | 474,91 |



Бор-ягаднік (каля 120 гадоў).

Гэтыя лічбы атрыманы паводле спроб, зробленых Санькоўскім у Жорнаўскай лясной дачы.

Другі фотоздымак ілюструе 95-гадовыя хваёвыя дрэвастаны таго-ж самага тыпу (бор-ягаднік зеленамошнік) І-а бонітэту складам $^{9}/_{10}$ Х, $^{1}/_{10}$ Е, у іх у малым ліку трапляецца асіна і бяроза.

Запас (продукцыя) гэтых дрэвастанаў 65 такс. саж. на 1 дзясяц., дыямэтр модэльнага (выбранага, як узор) дрэва на вышыні грудзі 7,3 вяршка, пры вышыні $42^{1}/_{4}$ арш. паўната дрэвастану—0,8.

II.

Хваёвыя бары-ягаднікі, якія займаюць лепшыя глебы, на жаль, сустракаюцца, хоць і часта, у многіх лясных дачах БССР, але затое выцясьняюцца там, дзе гэта магчыма, ральлёю. Сельска-гаспадарчая культура зьяўляецца сталым прэтэдэнтам на гэтыя глебы, і добра захаваныя бары-ягаднікі, цяпер рэдка сустракаюцца.

Другі, вельмі распаўсюджаны і характэрны тып хваёвых лясоў Беларусі—гэта „верасьнёвыя бары“, якія займаюць больш бедныя глебы і з гэтай прычыны ня маюць такога моцнага конкурэнта з боку сельскай гаспадаркі.

На глыбокіх і бедных пяскох, займаючы больш высокія месцы, раскідваюцца „бары-верасьнікі“, заўсёды сухія, з смалістым пахам; яны добра абнаўляюца натуральным шляхам бяз культур (пасеву ці пасадкі), бо іх худая глеба ня так моцна зарастае травою, як у „барох-ягадніках“, і апаўшае хваёвае насеньне добра прарастае і дае ўсходжасьць.

Тып „верасьнёвага бору“ добра ўсім знаёмы, бо ён сустракаецца ў большасьці хваёвых лясоў Беларусі, і доўгабудзе яшчэ ўладарнічаць на занятай ім тэрыторыі. Нават можна сказаць, што гэта найбольш распаўсюджаны баравы тып (узгоркавы). Па складзе, гэта—хваёвы дрэвастан з прымешкай бярозы; падросту ці зусім няма, ці ён складаецца з хвоі; падлесак, галоўным чынам, ядловец, добра знаёмы беларусу; акрыцьцё глебы, пераважна, верас Calluvua (vulgaris) і асобнымі плямамі часам ляжыць лішайнік (Cladonia rangiferina).



Бор-ягаднік (95 год).

Продукцыя верасьнёвых бароў значна ніжэй, чым ягаднікавых бароў; гэта—больш кепскія бонітэты, якія даюць меншы запас і менш буйны сортымэнт драўніны.

Ніжэй даем наступныя матар'ялы, атрыманыя дыплёмантам Санькоўскім у Жорнаўскай лясной дачы, якая раней была „вучэбнай дачай“.

| УЗРОСТЫ. | Клясы бонітэту. | Лік дрэў на 1 гэкт. | Сярэдняя вышыня ў мэтрах. | Сярэдні дыямэтр у санты-мэтр. | Сярэдні запас у куб. мэтр. |
|---|---|---|---|---|---|
| 80 год | III-і | 823 | 20,0 | 20,0 | 236,12 |
| 90 „ | III-і | 568 | 21,3 | 28,0 | 254,87 |
| 100 „ | IV-ы | 425 | 18,5 | 28,5 | 181,73 |
| 110 „ | IV-ы | 394 | 20,6 | 28,5 | 234,75 |

Як бачым з гэтых даных „верасьнёвыя бары“ даюць меншы запас драўніны ў параўнаньні з запасам „бароў-ягаднікаў“; так, у 110 год першыя даюць запас каля 450 куб. мэтраў, а другія толькі каля 250 куб. мэтраў драўніны. Адсюль чарговая задача беларускіх лесаводаў—падняць продукцыю верасьнёвых бароў, як найбольш распаўсюджаных, шляхам навукі і тэхнікі.






Н. Зьбіткоўскі.

# Ражкі.

## Claviceps purpurea.

Расьліны маюць шмат ворагаў, ад якіх яны так ці інакш абараняюцца. Горкі смак, калючкі зьяўляюцца для іх добрай абаронай ад жывёлы. Але расьліны маюць ворагаў і спаміж расьлін; гэтыя ворагі нападаюць на здоровыя паасобнікі і заражаюць іх, выклікаючы хваробу. Такія расьліны зьяўляюцца чужаедамі. Асабліва шмат такіх шкоднікаў спаміж грыбоў. Некаторыя з іх, нападаючы на культурныя расьліны, могуць выклікаць няўроду. Але найчасьцей бывае так, што мы не зьвяртаем увагі на тую шкоду, якую робяць чужаеды, напрыклад, у збожжы; шукаем прычыны кепскага ўраджаю ў неспагадным надвор'і, сьпякоце і г. д. у той час, калі запраўднай прычынай кепскага ўраджаю зьяўляюцца чужаеды збожжа. Змаганьне з імі распачата— гэта ачыстка насеньня.

Спынімся на ўсім вядомых шкодніках жыта—ражкох.

Ражкі зьяўляюцца ў сярэдзіне лета на жыце (2). Іх лёгка можна заўважыць на калосьсі ў форме ненатуральна разрослых зернят, белых унутры на ўзломе, а зьверху сіня-фіолетавага, амаль чорнага колеру. Гэтыя ўтварэньні, якія ня маюць нічога супольнага з жытам, зьяўляюцца масай чужаеднага грыба, які жыве на жыце і паказваецца толькі тады, калі пачнуць дасьпяваць зерняты.

На жыта нападае пошасьць гэтага грыбка з тае прычыны, што ражкі трапляюць на глебу разам з зернем пры сяўбе або, хутчэй за ўсё, што ражкі выпалі з калосься на глебу яшчэ ў мінулы год.

Вясной ражок прарастае, г. зн. пакрываецца многалікавымі ножкамі, з якіх кожная заканчваецца галоўкай чырвонага колеру (3). Кожная галоўка (строма) прыносіць вельмі шмат каморачак размнажэньня— зароднікаў. Гэтыя апошнія пры дапомозе ветру або мух трапляюць на маладое калосьсе жыта, дзе зароднікі прарастаюць (б). Грыбок, які пачынае разьвівацца, пранікае ў маладую завязь зерня жыта; ніткі грыба аддзяляюць зьверху драбнюсенькія вытворчыя каморачкі (конідыі) (1), а пашкоджаная завязь жыта расьцягваецца з сярэдзіны грыбняй; яна ўсё разрастаецца, ад чаго робяцца шчыліны, з якіх выдзяляецца салодкі сок „мядзьвяная раса“. Гэты салодкі сок прываблівае да сябе шасьціножак, і яны пераносяць конідыі на іншыя каласы і, такім чынам,

зараза пашыраецца па жытнім полі. Урэшце, грыб прыносіць свой ураджай у выглядзе ражкоў.

Заўважана, што жыта больш хварэе ражкамі ў мокрае лета, чымся ў сухое.

Ражкі шкодзяць ураджаю, паніжаючы яго на некалькі процантаў, Ужываньне хлеба, сьпечанага з мукі, у якой знаходзіцца 5—10% размолатых разам з зярнятамі жыта ражкоў,—шкодна для здароўя. У ражкох ёсьць атрутная матэрыя „эрготын“, якая выклікае хвараблівасьць,




1. Нітка грыба, якая аддзяляе конідыі (α) (зароднікі).
2. Колас жыта з склероцыямі ражкоў
3. Прарослы склероцый з пладавымі целамі.
4. Пладовае цела з каморкамі для торбачак
5. Каморка для торбачак, α-торбачка, в-зароднік.

так званую „злую корчу“, а нават можа зусім атруціць. Апроч атрутнага эрготыну ражкі маюць у сабе тлушч. У мэдыцыне ўжываюць сьвежыя ражкі, г. зн. сабраныя толькі ў гэта лета. Ражкі, якія доўга ляжаць пасьля збору (больш 1/2 году) трацяць сваё лекавае значэньне і робяцца няпрыгоднымі для лекаў. Дзякуючы гэтаму, кожны год ражкоў партрабуецца вельмі шмат і асабліва шмат іх вывозілі заграніцу.

Найбольш прыгодныя для лекавага ўжываньня ражкі такія, якія зьбіраюцца на полі з нязусім яшчэ дасьпелага калосься жыта. Хоць сабраныя такім чынам ражкі цэняцца вышэй, аднак збор іх адбываецца болей усяго пасьля малацьбы.

Адбор ражкоў ад зерня адбываецца так:

1. Сіта падвешваюць да столі такім чынам, каб яно магло вярцецца. На гэтае сіта насыпаюць слой зерня і ўсё гэта пачынаюць вярцець. Тады зерняты жыта, якія цяжэй за ражкі, адлятаюць да краёў сіта, а ражкі зьбіраюцца на сярэдзіне, адкуль іх і адбіраюць.

2. У кадушку даліваюць 2 вядры вады і сыпяць туды 20 ф. солі. У рэшата насыпаюць жыта, якое ачышчаецца ад ражкоў, ня больш як на 2 пальцы таўшчыні і апускаюць рэшата ў кадушку з салёнай вадой. Зерняты жыта, як цяжэйшыя, тонуць разам з дном рэшата, а ражкі ўсплываюць наверх; іх зьнімаюць прадзіраўленай лыжкай (друшляком). Жыта прасушваюць пасьля на сонцы, а сабраныя ражкі палошчуць чыстай вадой і абсушваюць. Пасьля гэтага ражкі рассыпаюць ценкім слоем у ня надта гарачай печы або на сонцы. Высушаныя ражкі захоўваюць у зачыненых слоіках або ў сухім месцы ў торбачках.

Ражкоў у нас вельмі шмат. Ураджай іх можа прынесці карысьць, а ня шкоду толькі ў тым выпадку, калі іх аддзяліць ад насеннага або памольнага жыта. Заграніцай ражкоў мала, бо там жыта сеюць далёка менш, чымся ў нас, дый заядлае змаганьне з шкоднікамі расьлін там даўно ўжо адбываецца, таму і попыт на ражкі такі вялікі. У 1923 г. 1 пуд ражкоў каштаваў самае таннае 8—10 залатых рублёў.

Вывучэньне шкоднікаў расьлін—гэта заданьне фітопатолёгіі. Па вывучэньні іх у Беларусі яшчэ ня шмат зроблена і перш за ўсё няма матар'ялу, які характарызуе пашырэньне шкоднікаў. З гэтага боку вельмі каштоўны зборы спэцыяльна пашкоджаных расьлін. Засушваюць іх таксама як і для гэрбарыя, г. зн. у большай частцы сушаць іх у паперы.

---

М. Зьбіткоўскі.

# Морва ў Полаччыне.

Дарослыя дрэвы морвы я знайшоў у Полаччыне гэтым летам у 15 кілёмэтрах на поўнач ад гор. Полацку на хутары Малыя-दручаны Літвінаўскага сельсавету, Ветрынскага раёну. У садзе гэтага хутару ёсьць 4 асобна пасаджаныя дрэвы і адзін магутны „куст“ морвы. Гэты куст складаецца з вялікай колькасьці (да 30 ствалоў) морвы, якая расьце як-бы цэлаю кучаю.

Гісторыя гэтай пасадкі такая: у 1905 г. ўласьнік хутару грамадз. А. Казарын, прачытаўшы ў газэце заметку аб шаўкоўніцтве зацікавіўся культураю морвы з мэтай шаўкоўніцтва і выпісаў з Варшавы насеньне, якое затым было пасеяна на градзе сярод садовых дрэў. Нязначная частка сеянцаў абышла і была потым рассаджана, а рэшта была пакінута на месцы і ўтварыла гэты выдатны „куст“ морвы. Хоць дрэвы і ня мелі дагляду, аднак разрасьліся ў дрэвы з 2,5 саж. вышыні і 3,5 вяршк. таўшчыні ў дыямэтры. Даваць плады дрэвы пачалі ў 1911 годзе, г. зн. прыблізна з 7 гадовага ўзросту. З таго часу дрэвы штогодна даюць

плады, але прыкмячаецца ў морвы, як гэта бывае ў яблыні,—чаргаваньне вялікіх і малых ураджаяў. Сёлета якраз быў малы ўраджай, аднак, у часе майго нагляданьня, 17 жніўня, на дрэвах была некаторая колькасць „ягад“.

Вышыня (2,5 саж.), таўшчыня (да 3,5 вяршк.), пладавітасьць, а таксама знадворны выгляд дрэва—у поўнай меры паказвае на жыцьцёвасьць яго, ня гледзячы на адсутнасьць дагляду і на дэфэкты перасадкі (частка—між фруктовымі дрэвамі, частка расьце „кустом“).

Факт знаходжаньня дарослых дрэў морвы ў Полаччыне зьяўляецца новым пацьвярджэньнем поўнай магчымасьці культуры морвы і на поўначы Беларусі, а гэта, у сваю чаргу, дазваляе ўжыць да Полаччыны гэткае сьцьвярджэньне: „дзе расьце морва, там магчыма шаўкоўніцтва“. Значыць, у Полаччыне магчыма шаўкоўніцтва.

Гр. Казарын (б. уласьнік хут. Малыя Äручаны) гадоўляю шаўкоўнага вусеня не займаўся, хоць дзеля гэтага ім і была пасаджана морва; аднак, даведаўшыся аб карысьці морвы, як фруктовага дрэва, настолькі зацікавіўся, што думае ёю абсадзіць сад у новым сваім месцазнаходжаньні.

У часе маіх разьездаў па Полаччыне пры спатканьні з асобамі, якія маюць нахіл займацца досьледамі ў сваёй гаспадарцы, я наглядаў наступнае: гэтыя асобы, даведаўшыся аб шаўкоўніцтве і пераканаўшыся ў магчымасьці культуры дрэва і гадоўлі вусеня, звычайна дапытваліся, дзе ім дастаць насеньне морвы; тады я ім даваў з свайго запасу.

Апроч таго, у Полаччыне я асабіста бачыў „сеянцы“ морвы ў наступных месцах: 1) У Полацкім Лясным Тэхнікуме ёсьць 200-300 сеянцаў (рассады), пасеяных па ініцыятыве выкладчыка Заблоцкага з туркестанскага насеньня, атрыманага ад мяне і 2) у сялібе Ушацкага лясьніцтва дзесяткі два сеянцаў з насеньня, атрыманага з Горак.

Такім чынам, морва пачынае прышчапляцца ў Полаччыне—праўда, яшчэ занадта мала, але... цяжкімі бываюць толькі першыя крокі.

---

Праф. П. Салаўёў

# Шуканьне законаў пэрыодычнасьці масавага зьяўленьня кузурак.

Многалікавыя віды кузурак зьяўляюцца жывёламі, вывучэньне якіх вельмі цікава. Праца краязнаўцы, які займаецца вывучэньнем энтомафаўны, побач з тэорэтычнымі вышукваньнямі, павінна адпавядаць запытам практычнага жыцьця. У гэтым зацікаўленасьць краязнаўцы зьвязана з зацікаўленасьцю агронома і энтомолёга. Адшукваньне законаў пэрыодычнасьці ў масавым зьяўленьні асабліва шкодных кузурак будзе аднэй з удзячных задач, калі яна калі-небудзь здавальняюча вырашыцца. Вырашыць-жа гэту задачу можна шляхам адшукваньня гістарычнага, географічнага і статыстычнага характару. Як можна ставіць такое пытаньне, я пакажу на прыкладах, прычым увесь час буду мець на ўвазе Беларусь і яе тэрыторыю.

Паводле нагляданьняў Красільшчыка над пералётнай саранчой (Pachytylus migratorius L.) у паўднёва-ўсходняй Расіі, заўважана такая пэрыодычнасьць у зьяўленьні саранчы:

| Гады максімуму саранчы. | Даўжыня пэрыоду. |
|---|---|
| 1800—1801 | — год. |
| 1811—1812 | 12 „ |
| 1823—1824 | 12 „ |
| 1834—1836 | 12 „ |
| 1846—1848 | 14 „ |
| 1859—1862 | 14 „ |
| 1874—1875 | 12 „ |
| 1886—1887 | 12 „ |

Такім чынам, з табліцы, якая апохлівае пэрыод каля 100 гадоў, відаць, што праз кожныя 12-14 год трэба чакаць масавага зьяўленьня саранчы ў паўднёва-заходняй Расіі. Такія назіраньні на Каўказе далі пэрыод у 5-6 год.

У Беларусі толькі на паўднёвай мяжы (Гомель) заляцеўшая саранча можа размнажацца ў працягу некалькіх гадоў. У другую частку Беларусі (Меншчына, Магілеўшчына) саранча залятае рэдка, але на доўгі час; таксама яна залятала і больш на поўнач (Дзьвінск і Полацак у 1845 г.). Колькі часу тут можа трымацца саранча, ёсьць даныя ў летапісах: так, для Менскай губ. саранчовымі гадамі былі 1748 і 1882, для Магілеўскай—1748, 1882, 1892-1893, 1907.

Асабліва шмат саранчы было ў 1748 г., калі яна залятала праз Менск, Магілеў да Вільні, а затым шмат яе зьяўлялася ў 1882 г. У сьпісе кузурак Арнольда саранча паказана для Магілева каля Сьвятога Возера.

Амаль кожнаму вядома біолёгія майскага жука (Melolontha melolontha L.) з яго 4-годнім цыклем разьвіцьця. Аднак, у залежнасьці ад географічнага палажэньня месца (шырыні) 4-годні цыкль пераходзіць ў 3-годні (Швайцарыя) або ў 5-годні (Усходняя Прусія).

З паказных двух прыкладаў відаць, што гэтыя тры моманты павінны быць адзначаны: 1) географія, якая дае краязнаўчы напрамак пры вывучэньні энтомофаўны, 2) гісторыя, якая дапамагае акрэсьліць спрыяючыя пэрыоды для разьвіцьця кузурак, 3) статыстыка, патрэбная для самаго падліку кузурак.

Каб вырашыць поўнасьцю гістарычна-географічную базу для Беларусі, патрэбна шмат працы. Зараз я дам толькі некаторыя ўказаньні, якія ў далейшым павінны быць разьвіты краязнаўцамі.

I. Да майго прыезду ў Горкі шмат клопату прынёс у 1921 годзе мясцоваму насельніцтву вусень лугавога матылька або мяцеліцы (Phlyctae nodes sticticalis L.) з агнёвак (Pyralidae). Гэты сур'ёзны шкоднік, аб якім першыя весткі даў у 1855 г. проф. Графф (Кацярынаслаўскай губ.) і больш падрабязныя назіраньні ў 1867 г. проф. Ліндэман (Тульскай губ.), у 1901 г. прынёс страты на некалькі дзесяткаў мільёнаў руб. З прычыны гэтага вяліся спэцыяльныя досьледы (Сіланцьеў, Пасьпелаў, Красільшчык, Макржэцкі). Пакуль што можна дапусьціць на падставе няпоўных гістарычных даных, што ў 1941 г., а мо' і раней, лугавы матылёк можа ізноў зьявіцца ў нашай Беларусі ў вялікай колькасьці. Але трэба сказаць, што мэтэоролёгічныя назіраньні сеткі станцый усяго сьвету, якія маюць запас шматгодніх лічбовых матар'ялаў, да гэтага часу яшчэ ня могуць сказаць, калі напэўна зьявіцца лугавы матылёк. Для нашай мэты яшчэ толькі намячаецца патрэбнасьць фэнолёгічных назіраньняў, жывая сувязь назіральных пунктаў, праца станцый абароны расьлін ад шкоднікаў, учот перамены флёры і кармовых расьлін. Біолёгічная барацьба за існаваньне і ўдзел чалавека зьяўляюцца галоўнімі фактарамі, якія трэба мець на ўвазе пры азначэньні часу зьяўленьня шкоднікаў.

II. Пасьля майго прыезду ў Горкі ў 1922 г. ільняныя пасевы і некаторыя іншыя расьліны былі зьнішчаны вусенем соўкі-гаммы (Plusia gamme L.). Мне давялося ўлетку 1922 г. прыняць удзел у вабсьледваньні пашкоджанасьці ў Горках і даваць парады.

Зьвяртаючыся да гісторыі, мы знаходзім назіраньні д-ра Цэкерта ў 1833 г. ў Горках. Ён тут заўважыў, што кузурка гэта асабліва нападала на дзікую сурэпку і таму гэта шкодная расьліна шмат зьменшылася ў наступныя гады (журнал Министерства Госуд. Имущест. 1847 г.). Цікавыя назіраньні над гэтымі вусенямі ў аколіцах Горак (1871 г.). У пачатку ліпня, перш зрэдка, а потым усё больш і больш зьяўляліся чэрві ў яравых пасевах на сурэпцы, якой у тым годзе было шмат, у аўсе і ільне. Расьліны праз тыдзень былі зусім абгрызанымі: не засталося аніводнага лісточка, насенныя карабочкі абваліліся, засталося толькі засохлае сьцябло. Зьеўшы сурэпку, чэрві кінуліся на лён, ад якога таксама засталіся адны сьцяблы. Часткаю была зьедзена імі і іншая ярына. Наогул-жа была зьнішчана тая ярына, у якой было шмат сурэпкі. На чыстых палёх чэрві бываюць вельмі рэдка або іх нават зусім няма. Чарвей было так многа, што. пераходзячы па дарогах з аднаго вучастку на другі, яны напаўнялі сабою ўсе каляіны і ямкі глыбінёю больш 1/4 арш. Асабліва хуткаму зьяўленьню чарвяка спрыяла заўсёды сухое, гарачае надвор'е. Дажджы і холад у палове гэтага месяца зьменшылі колькасьць чарвей; іх знасіла дажджом у лужы і балоты ў такой колькасьці, што, ня бачыўшы, цяжка і паверыць (Порчанскі, 1880 г.).

У 1871 г. соўка-гамма шкодзіла засевам гароху і ільну ў Магілеўшчыне і Віцебшчыне. Тое самае было і ў 1878 г.

Такім чынам для Горак

| | |
|---|---|
| 1833—1871 | 38 |
| 1878—1922 | 44 |

Першы пэрыод будзе 38 г., другі—44 г. Такім чынам, 1963 г. зьяўляецца пры іншых роўных умовах трэцім пэрыодам.

III. Аб іншых кузурках ёсьць вельмі мала вестак:

1) Капусная соўка (Mamestra brassicae L.) паказана ў сьпісу Арнольда. VI. 97. У кніжцы Багданава-Кацькова (1919) пры вывучэньні распаўсюджваньня соўкі названа Магілеўшчына.

2) Азімы чарвяк (Agrotis segetum Schiff), паводле Росікава, быў у Беларусі з 1905 г. да 1908 г. Паводле Сакалова, невялікая колькасьць азімай соўкі была ў 1913 г. ў Вяліскім павеце ў Віцебшчыне.

3) Проф. Ліндэман (1883) кажа аб гесэнскай мусе (Cecidomyia destructor Say) у Чэрыкаве на поўдзень ад Магілева, аб збожжавым пілільшчыку (Cephus pygmaeus L.)—у Магілеўшчыне.

4) Аб збожжавым жуку—кузьку (Anisoplia austriaca) гаворыцца ў Арнольда, Ліндэмана і Кіпена на засевах жыта ў Магілеўшчыне.

5) Аб шчаўкунох-жуках (Aqriotes lineatus) Кепен кажа, што іх чарвячкі шкодзяць аўсу. Гэтыя назіраньні вяліся ў аколіцах Горак. Трэба адзначыць, што і цяпер тут шчаўкуны сустракаюцца даволі часта.

6) Аб баяршніцы (Aporia crataegi L.) Шрэйнэр (1908) піша: „Хаця маладыя вусені і ня шкодзяць у другой палове лета, затым што мала ядуць, але пры масавым размнажэньні яны аб'ядаюць на пладовых дрэвах лісьце, і таму сады здалёку здаюцца іржава-бурымі, як-бы пашкоджаныя агнём. У 1907 г. я заўважыў масавае размнажэньне гэтага матылька і шкоду ад яго вусеняў у Гомельшчыне.

7) Кепен аб земляным жучку-клопе (Cassila nebulosa) піша: У 1859 г. зьявіўся ў Магілеўшчыне на бураковых палёх Горацкай вучэбнай фэрмы. З гэтай прычыны Міхельсон кажа, што лебяда раней ніколі не зьяўлялася, а цяпер пачала расьці ў вялікай колькасьці ў 1858 г. і яшчэ больш у 1859 г. Разам з лебядой, размножылісі і

8) хваёвая соўка (Panolis piniperda) 1827 г. была ў Віцебшыне і спустошыла там 1.040 дзес. пасеваў.

9) Збожжавая муха зялёнавочка (Cohlrops taeniopus) назіралася ў Магілеўшчыне (Кепель) і, апісваючы яе, Парчынскі (1881) наогул кажа, што беларускі лес, дзе шкоднікі хаваюцца, бароніць ад іх наша поле.

10) На Беларусі заўважаецца яшчэ шэраг іншых шкодных кузурак: швэдзкая мушка (Oscinis Frit)—для Магілеўшчыны, бледнаногі вішнёвы пілільшчык (Cladius aldipes)—для Віцебшчыны, жук-друкар (Ips typographus)—для ўсёй Беларусі, іншыя жукі (Hylastes cuniculatus, Scolytus Ratzeburgi, Rostrychus stenographus, Xyloterus lineatus)—для лясоў Магілеўшчыны і (Hylesinus crenatus) — для Віцебшчыны.

Гэты кароткі нарыс паказвае нам, што зроблена і што трэба зрабіць, каб краязнаўчыя мэтоды абсьледваньняў маглі даць нам у рукі такія самыя матар'ялы, якімі карыстаюцца для сваіх вывадаў кліматолёгі.

Сувязь кліматолёгіі з біолёгічнымі выведваньнямі ў Беларусі можна растлумачыць хаця-б наступнай цытатай з Кепена аб майскім жуку: „У вельмі цёплую зіму здараецца, што некаторая частка жукоў выходзіць з зямлі значна раней. Так, аднаго разу ў Магілеўшчыне хрушчы зьявіліся зімой у вадлігу“.



М. Шчакаціхін.

# Замак у Рагачэве.

У самым канцы галоўнае вуліцы Рагачэву, на высокім беразе Дняпра, уздымаецца досыць вялікая старадаўняя камяніца, вядомая сярод мясцовага насельніцтва—пад назваю „замку каралевы Боны“. Месца, дзе знаходзіцца гэты будынак, зьяўляецца часткаю ранейшае замковае гары, якая стварала калісьці „рог“ паміж Дняпром і ўтокам Друці (адкуль узяў сваю назву, пэўна, і самы горад). У цяперашні час рэчышча Друці адступіла далей, пакінуўшы сваё старарэчча каля падножжа гары з паўднёвага боку, з поўначы-ж гара перарэзана штучнай шырокай выняткай, зробленай у часе пабудовы маста праз Дняпро, за якім пачынаецца праця̆г варшаўска-маскоўскага шосэйнага шляху, напрамкам на Прапойск і Чэрыкаў.

Самы „замак“ мае выгляд масыўнага, крыху прысадзістага, простакутнага ў пляне, двохпаверхавага будынку, перакрытага пазьнейшым чатырохскатавым жалезным дахам. Па рагох разьмешчаны магутныя контрфорсы на квадратовых асновах, якія на галоўным фасадзе, зьвернутым у бок Дняпра, падымаюцца вышэй на палову другога паверху, на заднім-жа дасягаюць толькі мяжы між паверхаў, абведзенай навакол усяго будынку вузкім патройным гзымсам. Другі гзымс, шырокі, ступенчаты, акаляе гару будынку пад дахам; трэці праходзіць зусім на доле, у выглядзе вузенькага ордынарнага паяска. Нічым не аздобленыя, гладкія муры, затынкаваныя паўзьверх трывалае цаглянае кладкі, маюць толькі шырокія выступы ў сярэдзінах усходняга (з боку Дняпра) і заходняга фасадаў, дзе зьмяшчаюцца ўваходныя дзьверы. Дзьверы знаходзяцца як у дольнім, гэтак і ў горнім паверхах, якія зусім ня злучаны між сабою. У першым паверсе з галоўнага фасаду (усходняга) досыць шырокі ўваход мае поўцыркульную перамычку; з задняга фасаду, насупроць яго, зьмешчаны простакутныя дзьверы, але зробленыя ў закладзеным пралёце з поўцыркульнаю аркай. Апроч таго, у паўночным фасадзе, каля самага паўночна-ўсходняга рагавога контрфорсу, ёсьць яшчэ адзін уваход, таксама з поўцыркульнаю перамычкаю, крыху падвышаны над зямлёй пры дапамозе невялічкага каменнага ганку з усходамі па пяць ступеняй; гэты ўваход вядзе беспасрэдна ў другі паверх, куды падымаецца ўнутраная драўляная драбіна, і з першым паверхам злучэньня ня мае; але магчыма, што ўваход гэты пазьнейшага пахаджэньня, паскольку беспасрэдна над ім у другім паверсе як з надворнага, так асабліва з нутранога боку, выразна відаць сьляды аналёгічнага па абрысах закладзенага пралёту, да якога, магчыма, калісьці

падымаліся надворныя драбіны, прыбудаваныя да бакавога фасаду; гэта тым болей праўдападобна, паскольки той увахад, што існуе цяпер, у кожным выпадку ў дольні паверх весьці ня мог, бо з нутранога боку якраз у гэтым месцы знаходзіцца ніша з поўкупальным скляпеньнем. Праўда, магчыма таксама, што ў гэтым месцы раней ня было наагул ніякага ўваходу, паскольки закладзены пралёт другога паверху можна вытлумачыць і ў іншы спосаб, што мы зазначым у далейшым. Другі ўваход у горні паверх знаходзіцца ў сярэдзіне задняга фасаду; да яго падымаліся калісьці цяпер зруйнаваныя ўсходы, пакладзеныя на ўмацаваныя ў мур жалезныя трамы; але нельга быць пэўным, што гэтыя трамы належаць да першапачатковае конструкцыі: магчыма, што ўсходы



**Агульны выгляд з паўднёва-заходняга боку.**

раней мелі іншы выгляд, і былі альбо складзены з цэглы, альбо зроблены з дрэва. Апроч уваходаў, муры будынку з усіх чатырох бакоў у вабодвых паверхах прарэзаны параўнальна невялічкімі вокнамі простакутнае прадоўжнае формы, з разьмяшчэньнем па горызонталі; пралёты іх у некаторых выпадках маюць жалезныя краткі; на пярэднім і заднім фасадах кожны паверх у бакавых частках мае па два вакны; у сярэднім выступе ўсходняга фасаду, над галоўным уваходам, ёсьць і яшчэ адно вакно іншае формы, але пазьнейшага пахаджэньня; на бакавых фасадах некаторыя вокны закладзены, маючы знадворку выгляд няглыбокіх глухіх простакутных ніш.

Нутраны лад будынку найлепей захаваны ў дольнім паверху. Галоўны ўваход (з боку Дняпра) вядзе ў папярочны корыдор, які перасякае ўвесь будынак з усходу на захад, канчаючыся на супроцьлеглым баку другімі дзьвярыма. Зараз-жа за ўваходам ён перакрыжаваны другім шырокім прадоўжным корыдорам, які, ідучы з поўдня на поўнач, стварае як быццам вэстыбюль будынку. Гэты другі корыдор перакрыты

карабовым скляпеньнем з аркамі, абапёртымі на пілястры; у паўднёвай частцы яго пілястры зьнішчаны; з паўночнага боку ён канчаецца нявысокай кантовай нішай, пакрытай поўкупальным скляпеньнем, якое прыходзіцца якраз пад вышэйпамянёнымі намі ўсходамі, што вядуць з бакавых дзьвярэй у другі паверх. Прыблізна ў самай сярэдзіне будынку першы корыдор перасечаны трэцім, роўналежным другому прадоўжным корыдорам, таксама з карабовым скляпеньнем, які падзяляе ўвесь будынак на дзьве паловы—усходнюю і заходнюю [1]). Па бакох яго знаходзяцца вялікія простакутныя памяшканьні, злучаныя з корыдорам шырокімі пралётамі з поўцыркульнымі аркамі, абапёртымі ў сярэдзінах на моцныя простакутныя ў пляне слупы. Кожнае такое памяшканьне мае перакрыцьцё з двох крыжовых скляпеньняў, з абапораю на гэтыя-ж нутраныя слупы і на бакавыя муры, без спэцыяльных пілястраў, альбо консоляй на гэтых апошніх. З усходняга боку гэтыя памяшканьні асьветлены вокнамі, якія праароблены ў нутраным муры і вядуць у першы прадоўжны корыдор, прычым, аднак, крайняе з поўначы вакно, якое зьмешчана вышэй скляпеньня канцовае нішы гэтага корыдору, выходзіць ужо на ўсходы, што вядуць на другі паверх. Памеры і форма гэтых вокан цалком аналёгічны надворным. У бакавых мурох вокны закладзены, апроч сярэдніх, што прыходзяцца па канцох цэнтральнага корыдору. З гэтай прычыны у цяперашні час абодва памяшканьні ўсходняе паловы будынку, зусім ня маючы надворных вокан, зьяўляюцца досыць цёмнымі; заходняя палова крыху сьвятлей, бо кожнае памяшканьне мае надворныя вокны ў заходнім фасадзе. Але і першапачаткова, калі бакавыя вокны яшчэ ня былі закладзены, агульная колькасьць іх і памеры ня зусім адпавядалі, напэўна, досыць значным памерам саміх памяшканьняў, якія, хутчэй за ўсё, ніколі ня мелі належнага сьвятла. Часткова ў сувязі з гэтым, а таксама і з агульным расплянаваньнем паасобных частак, першы паверх зусім ня робіць уражаньня жылога памяшканьня, што пацьвярджаецца яшчэ і поўнай адсутнасьцю абы-якіх сьлядоў пячэй ці комінаў, альбо наагул тых ці іншых прылад для апалу. На нашую думку, тут хутчэй было нейкае памяшканьне службовага характару,—магчыма, склад зброі ці провіянту, а мо‘ нават і стайні, паколькі разьмяшчэньне „пакояў“ і корыдораў упоўне гэта дазваляе.

Плян другога паверху ў агульных рысах адпавядае першаму. Памянёныя намі вышэй сучасныя драўляныя ўсходы ад бакавых дзьвярэй вядуць у шырокі прадоўжны корыдор, аналёгічны ніжняму „вэстыбюлю“. З сярэдзіны яго простастаўна ідзе другі папярочны корыдор, які канчаецца дзьвярыма на заходнім фасадзе. Другога прадоўжнага корыдору няма; замест таго, з папярочнага корыдору ў паўночны і паўднёвы бок расчыняюцца выхады ў вялікія памяшканьні без перагародак і нутраных слупоў, якія ствараюць два асобныя пакоі, па адным у кожнай палове будынку. Ранейшыя перакрыцьці ў гэтым паверсе нідзе не захаваліся, дый наагул увесь ён робіць уражаньне значна перабудаванага, паколькі ў шмат якіх мясцох выразна відаць сьляды закладак і падправак пры дапамозе пазьнейшае цэглы. Найболей перарobленым зьяў-

[1]) Зварочваем увагу, што нашыя азначэньні частак будынку па краінах сьвету—толькі прыблізныя, паколькі асноўная прадоўжная вось будынку, як гэта відаць і па зьнятым намі (з удзелам сяброў Рагачэўскага Т-ва Краязнаўства) пляне, не супадае з лініяй N—S, ухіляючыся ад яе к паўночнаму ўсходу прыблізна на 20°.

ляецца прадоўжны корыдор з усходняга боку. У цяперашні час ён мае па ўсходняй сьцяне шэраг вокан, сярэдняе з якіх, што знадворку прыходзіцца на выступ усходняга фасаду, з нутранога боку зьмешчана ў вялікай нішы з поўцыркульнай перамычкай; але гэтая ніша закладзена ў пазьнейшы час, ды, апроч таго, на ўсёй сьцяне відаць сьляды такіхжа перамычак, што паказвае, хутчэй за ўсё, на шэраг закладзеных пралётаў, да якіх дапасоўваецца і замураваны пралёт з паўночнага боку, над сучасным уваходам, аб якім мы пaмінaлi вышэй. Усё гэта робіць амаль бясспрэчным, што першапачаткова ўвесь корыдор меў выгляд адкрытае лёджыі з лёгкай аркадай на параўнальна тонкіх слупкох, якая выходзіла ў бок Дняпра, і можа быць мела надворны выхад і сходы з паўночнага боку [1]).



Паўднёва-заходні рог з контрфорсам

Такая конструкцыя, разам з агульным характарам усяго другога паверху, дазваляе лічыць упоўне магчымым, што гэты паверх, у процілегласьць ніжняму, служыў калі-небудзь жылым памяшканьнем, альбо ў кожным выпадку мог граць ролю, напрыклад, памяшканьня для замковае варты, з лёджыяй у якасьці назіральнае галярэі, зьвернутай на ўсход, г. зн. якраз у той бок, адкуль асабліва магла пагражаць небясьпека нападу. Але гэта, зразумела, нельга лічыць бясспрэчным, тым болей, што аналёгічна дольняму паверху тут няма ніякіх прылад для апалу. Магчыма, праўда, што гэтае памяшканьне ўжывалася толькі ў летні час, альбо, што тут былі зроблены калісьці часовыя прылады, якія да нашых дзён не захаваліся. Што-ж датычыць нутраной апрацоўкі гэтага памяшканьня, дык сучаснае яго становішча не дае падстаў, грунтуючыся на якіх можна было-бы вырашыць пытаньне аб яго прызначэньні ў той ці іншы бок. У цяперашні час скляпеньні дольняга паверху проста засыпаны зямлёй і пяском; але ў мурох відаць паглыбленьні для трамаў, што паказвае на існаваньне драўлянае пад-

[1]) Згодна гэтага дапушчэньня зроблена намі зьмешчаная тут спроба рэконструкцыі першапачатковага выгляду заходняга фасаду будынку, прычым дэталі яе ўзяты з некаторых віленскіх будоў XVI сталецьця, рэнэсансавы характар якіх быў магчымы і ў Рагачэве. Але дах умоўна пакінуты намі ў гэтай рэконструкцыі плоскім і без усялякіх аздоб (якія, напэўна, былі), паколькі мы ня лічылі магчымым выходзіць у нашай спробе за межы фактычных даных.

логі. Самыя муры не затынкаваны, і паверх цаглін няма ніякіх сьлядоў ранейшага тынкаваньня; у выпадку, калі памяшканьне гэтае хаця-бы часткова служыла для жылых мэт,—магчыма, што тут была ў свой час драўляная абшыўка муроў,—але об'ектыўных падстаў для такога зацьверджаньня мы ня маем.

Пералічаныя намі конструкцыйныя асаблівасьці зьяўляюцца досыць важнымі ў пытаньні аб датоўцы гэтага помніку, а таксама аб тым, якое месца займаў ён сярод даўнейшых будоў рагачэўскага замку. Як вынікае з ранейшых нашых уваг, будынак гэты, зразумела, ня можа лічыцца галоўным замкавым будынкам, і ў гэтым сэнсе пашыранае ў Рагачэве праконаньне, што ўласна тут калісьці жыла каралева Бона, ня мае пад сабой ніякага рэальнага грунту; будынак гэты бясспрэчна, быў адным з дапаможных будынкаў,—ня з ліку малаважных, праўда, як сьведчыць яго разьмяшчэньне на досыць выгодным і відным месцы, у той час, як галоўныя замкавыя гмахі знаходзіліся, хутчэй за ўсё, далей на поўнач, у тэй частцы замковае гары, якая цяпер зруйнавана. Між іншым, у Сямёнава правільна зазначана, што гэты будынак зьяўляецца толькі часткай (адным з будынкаў) былага рагачэўскага замку [1]). Але агулам кажучы, безадносна да мясцовага тлумачэньня, пашыранае паданьне, якое зьвязвае яго з імем каралевы Боны, мае пад сабою пэўныя падставы.



Трэці прадоўжны корыдор дольняга паверху

З актаў Літоўскае Мэтрыкі вядома, што ў 1524 годзе кароль польскі і вялікі князь літоўска-беларускі Жыгімонт I падараваў сваёй жонцы, каралеве Боне, замак у Пінску, разам з прыпісанымі да яго дварамі: Клецкам, Гарадком і Рагачэвым [2]). Ужыты ў докумэнце тэрмін „двор“ сьведчыць, мабыць, што ў гэты час у Рагачэве больш-менш значнага замку яшчэ ня было; гэта тым болей праўдападобна, што Рагачэў належаў раней прыватным асобам і толькі ў нядаўні час перад тым перайшоў з прыватнага ўладаньня да гаспадарскага скарбу [3]). Атрымаўшы

[1]) Россия, под редакцией В. П. Семенова, т. IX, СПБ, 1905, стар. 489.

[2]) Літоўская Мэтрыка: Кніга Запісаў II, аркуш 185. Цытуем па М. Любаўскім; Областное деление, стар. 25.

[3]) М. Любаўскі: Ibidem.

яго ў сваю ўласную маемасьць, Бона, магчыма, сама ніколі тут і ня бывала, і кіравала сваім рагачэўскім „именьемъ и грунтомъ“ праз спэцыяльных намесьнікаў—„дзяржаўцаў“ і „спраўцаў“, з ліку якіх вядомы: Іван Міхалавіч (стараста Пінскі, 1534-1539), Міхно Якубавіч (1545[1]), Павал Попельжынскі і Багдан Долмат[2]). Але ёсьць падставы лічыць, што ласьне ў гэты час тут былі распачаты тыя ці іншыя працы па пабудове сталага замку. У кожным выпадку у лісьце сваім з Петрыкава ад 1548 году, адрасаваным „Державцы рогачовскому“, Бона, разгляда-



Схэма сучаснага выгляду ўсходняга фасаду.



Спроба рэконструкцыі першапачатковага выгляду ўсходняга фасаду.

ючы скаргу жыхароў сяла Лучынскага на ўведзеныя дзяржаўцам новыя „павіннасьці“, і наагул пацьвярджаючы непарушнасьць іх старадаўніх праў, робіць з гэтага толькі адно выключэньне: „...который листъ они передъ нами старосты нашего пинского небожчика пана Ивана Михайловича, на чомъ они здавна

1) Słownik Geograficzny Królestwa Polskiego pod redakcyą Bronisława Chlebowskiego i Władysława Walewskiego. Warszawa, 1888. T. IX, стар. 687.

2) Акты Віленскага Земскага Суду, кн. 4214 за 1771-1773 г., арк. 845, № 183.—„Акты, издаваемые Виленскою Археографическою Комиссиею“, т. IX (Вільня, 1878), стар. 555-557.

осели, вказывали, мы ихъ правомъ при томъ листе заховываемъ, только гдѣ бы потреба вказывала, тогда они замокъ нашъ Рогачовский восполокъ из ыншою волостью нашою тамошнею робити и будовати повинни будуть" [1]). Праз нейкі час, у 1552 годзе, яна ўжо і ліст свой ад 21 сьнежня адрасуе ня проста „державцы рогачовскому", як раней, але „справцы замку нашого Рогачевского Богдану Матвѣевичу Долмату" [2]). Такім чынам, хутчэй за ўсё, рагачэўскі замак быў збудаваны ў палове XVI сталецьця. У далейшым ён памінаецца ў ліку „гаспадарскіх замкаў" і набывае пэўнае стратэгічнае значэньне, як сьведчыць, напрыклад, ліст караля Жыгімонта-Аўгуста ад 26 верасьня 1563 г. на імя дзяржаўцы рагачэўскага князя Багдана Васільлевіча Саламірэцкага „о острожности отъ Москвы на замку Рогачевскомъ" [3]); як стратэгічны пункт ён існаваў да 1780 году, пасьля чаго быў пaступова зьнішчаны, так што ад усіх ранейшых будоў засталася толькі адна захаваная да цяперашняга часу камяніца.

Ці можна лічыць, аднак, што гэтая апошняя належыць да першапачатковых будоў XVI сталецьця? Конструкцыя яе не супярэчыць такому дапушчэньню, хоць у сваім сучасным выглядзе, як мы ўжо зазначалі, яна зьяўляецца, бясспрэчна, вынікам пазьнейшае перaробкі. Вядома, напрыклад, што рагачэўскі замак ня раз разбураўся як у XVI, так і ў XVII сталецьцях, у часе войн з татарамі, з казакамі і з Масквою. Першапачатковы будынак мог быць пры гэтым часткаю зруйнаваны і потым адноўлены ў зьмененым відзе ў пазьнейшы час,—магчыма, у XVII сталецьці, паколькі сучасны выгляд яго мае нешта супольнае з тыповымі будынкамі гэтае эпохі ў Менску і ў іншых беларускіх местах. Але ў тым відзе, які ён хутчэй за ўсё меў спачатку, і які мы спрабавалі аднавіць у зробленай намі рэконструкцыі,—ён мае выразныя стылістычныя рысы архітэктуры XVI сталецьця, у тым яе адменьніку, які ў гэты час быў вядомы і ў іншых мясцох Беларусі. Уласна з прыездам Боны пасьля шлюбу яе з Жыгімонтам у Беларусі зьявіліся італьлянскія архітэктары і майстры, якія прынесьлі сюды тыповыя формы італьлянскага будаўніцтва эпохі Рэнэсансу, што адыгралі досыць важную ролю ў гісторыі разьвіцьця архітэктурнага мастацтва ў старадаўніх беларускіх местах. Гэтыя формы былі, напрыклад, ужыты пры пабудове віленскага Дольняга замку пасьля пажару 1530 году, а таксама ў некаторых іншых дзяржаўных і прыватных будовах Вільні. Пры будаваньні рагачэўскага замку, што адбылося ў той самы час, яны, натуральна, маглі зьявіцца і тут, асабліва, прымаючы пад увагу асабістыя густы Боны, якія маглі адбіцца ў надворных формах будоў яе ўласнага маёнтку. У даным выпадку, ранейшая конструкцыя ўсходняе часткі горняга паверху, што мела, як мы зазначалі, хутчэй за ўсё, від зьвернутае ў бок Дняпра адкрытае лёджыі з аркадай, зьяўляецца досыць характэрнай адзнакай, і дае ўсе падставы для дапушчэньня аб першапачатковым паходжаньні будынку ўласна з XVI сталецьця.

---

[1]) Кніга Запісаў Літ. XXXII, арк. 16 адв.—17 адв.—М. Довнар-Запольский. Очерки по организации западно-русского крестьянства в XVI веке. Киев, 1905. Приложения, № 25.

[2]) Акты Віленскае Камісіі, IX, 555.

[3]) Літоўская Мэтрыка: Кніга VII Публічных Спраў, №№ 56 і 86.—„Русская Историческая Библиотека, т. XXX. Литовская Метрика, отделы первый-второй, ч. III, т. I". Юрьев, 1914. Стар. 740-743 і 803.



М. Ламака.

# Рысы колектывізму сярод сялян.

## У дарэволюцыйныя часы.

Узаемадапамога сярод сялян пры розных выпадках жыцьця цягнецца з даўных часоў. Дапамога суседу бывае пры сьмяртэльнай небясьпецы для чалавека, альбо для жывёлы; у выпадках стыхійных альбо іншых няшчасьцяў: калі гаспадар, які дапамагае свайму суседу, гэтым-жа страхуе сябе на выпадак такога-ж няшчасьця; у выглядзе супрацоўніцтва (талака); пры правядзеньні сямейных урачыстасьцяй: хрэсьбін, вясельля, хаўтураў).

Калі пажар зьнішчыў сялянскі двор, сям'я пераходзіць у суседнюю хату, як кажуць, у „падсуседзі“ (Меншчына). Суседзі прыносяць пагарэльцам хлеба, стравы, альбо па чарзе заклікаюць да сябе на сьнеданьне, на палудзень. Запрагае пагарэлец свайго ці пазычанага каня і едзе на вёску зьбіраць „на пагарэлае“. Гэта ня зычайнае жабрацтва (аб жабрацтве гутарка ніжэй). І адносіны да пагарэлых іншыя, чым да жабракоў. Ім даюць збожжа цэлым каўшом ці гарцам, а то і рэшатам.

Будуецца пагарэлы. Высечы дрэва ў лесе для пагарэльца, прывезьці дрэва з лесу альбо перавезьці гатовы зруб, папрацаваць з сякераю дзень-два пры пабудове—гэта сьвяты абавязак кожнага аднасельца. Суседзі прынясуць па кулю саломы, а іншы і паплеціну (тонкая жэрдка) прыцягне—і памогуць накрыць будынак. Калі пагарэлы гаспадар жыў вельмі бедна і ня мае сродкаў купіць лесу, яму сяляне ў складчыну купляюць хату і іншыя будынкі (Случчына).

Купіў пагарэлы чалавек зруб у чужой вёсцы. Яму ня трэба наймаць хурманак. Яму толькі трэба абыйсьці хаты ў тэй вёсцы, дзе купіў зруб, і папрасіць хурманак. Ніводзін не адмовіцца. Назаўтрае цэлы ланцуг скрыпучых вазоў з бярвеньнямі пацягнецца ў вёску пагарэльца (Меншчына).

Калі згарыць цэлая вёска, дык такім-жа чынам памагаюць ёй суседнія вёскі.

Здох конь у гаспадара. Час рабочы, гарачы:—сяўба. У першую чаргу памагаюць сваякі, але і сусед не адстае, амаль ня кожны дасьць каня на дзень, на два, памагчы ўправіцца на полі.

Не хапіла селяніну насеньня. Няшчасьце якое з ім здарылася: зладзеі абакралі, ці град пабіў жыта... Няхай даведаюцца суседзі, што

няма ў чалавека ні насеньня ні грошай і паласа застаецца пуставаць—прынясуць па мяшочку насеньня. Хто пазычыць, хто дасьць на адработ, а хто і так дасьць на зусім. „Спажывай здароў“, скажа.

Ня любіць вёска гультаёў. Зьневажае страшэнна тых, хто прапівае насеньне альбо прадае салому, але некалькі першых гадоў памагае і такім людзям, пакуль не праканаецца, што чалавек апусьціўся вельмі нізка і на паправу няма надзеі.

Ва ўсіх такіх выпадках селянін ахвотна памагае суседу, з якім здарылася бяда дзеля таго, што калі з ім самім здарыцца такая-ж бяда, дык і яму суседзі дапамогуць. Гэта інстынктыўнае ўзаемнае страхаваньне ад няшчасных выпадкаў.

У гаспадарцы ёсьць нямала такіх работ, якія не пад сілу аднэй сям'і і якія робяцца пры дапамозе суседзяў „талакою“, па чарзе. Сёньня—аднаму, заўтра—другому і г. д. Тут затрачаная энэргія зараз-жа варочаецца ў гаспадарку ў поўнай меры. Такім чынам, напрыклад, мнуць лён. У восень гаспадыня разьлічвае колькі ёй трэба староньніх мяліц, каб зьмяць свой лён і „зацірае“ церніц. Зацерці церніцу, гэта значыць папрацаваць ноч з усёю талакою над ільном суседкі і такім чынам набыць сабе даўжніка дзеля гэткай-жа працы.

Доўга чакае кабета чаргі, каб пусьцілі ў сушню з ільном, бо часта адна сушня абслугоўвае ўсю вёску. Але вось чаканая пара надыходзіць. Вязуць лён у сушню—лазьню і калі лён высахне, склікаюць сваіх церніц. Усю ноч ляскаюць мяліцы; далёка чуваць дзявочы сьмех, хлапцоўскія жарты. Церці лён—вельмі цяжкая работа, але вясёлая. Пасьля працы гаспадыня выдае сьнеданьне сваім церніцам.

У вапошнія гады перад вайной паны любілі здаваць свае сенажаці „на часьць“. Тры капы пану, чацьвертая—„людзям“, а калі сенажаць дрэнная, то трэцяя капа ішла „людзям“. Кавалак сенажаці браў колектыў сямей 5-7-10. Уся работа вялася колектыўна і канчалася ўрачыстым складаньнем стога. Сяляне добра адчувалі ўсе выгады такой працы. Праца была больш продукцыйнаю, не гаворачы ўжо аб тым, што працаваць так, разам шмат ахватней, весялей. „Неяк выходзіць і лягчэй і спарней“—кажуць на Меншчыне. Для моладзі гэта запраўднае сьвята. Пасьля ўборкі сена „на часьці“ вельмі сумна было працаваць паасобку на сваіх вузенькіх шнурках.

У гаспадарцы не хапае працоўнай сілы, застаўся адзін шнурок на полі ці сенажаці і перашкаджае пасьвіць стадка. Зьбяруцца людзі, наладзяць талаку ды ўбяруць шнурок. „Няхай не дратуюць коні сенажаці, няхай ня сыплецца зярнё“.

Паляваньне (аблава), папраўка дарогі, пракладка грэблі, мосту робяцца колектыўна ўсёй вёскай, альбо некалькімі вёскамі.

Трэба ўсё-ж адзначыць, што калі іншы раз вёска дзівіць сваёю дружнасьцю, шчырасьцю ў дапамозе (асабліва пры няшчасьці), дык другі раз яна дзівіць сваім нядбайствам да агульнай грамадзкай справы, неразуменьнем выгады організаванасьці, колектывізму. Агульнае зьявішча: з году ў год коні грузнуць пры перавозе сена з сенажаці праз роў, праз топкае месца. Пакутуе ўся вёска. Кожны год на сходзе падымаецца пытаньне, каб зрабіць мосьцік ці грэблю. І працы мала. А выгада якая! Пагавораць, пагавараць, ды гэтым і кончыцца.

Асобнаю формаю ўзаемадапамогі трэба лічыць тую дапамогу, якую суседзі робяць пры такіх здарэньнях, як—сьмерць, вясельле, нараджэньне дзіцяці.

Радзілася дзіцянё. Маці-парадзіха ляжыць яшчэ слабая, яна патрабуе догляду і для сябе і для дзіцяці. Муж заклапочаны. Ён ня мае ні часу, ні сродкаў. Ён і дома мала бывае. Але суседкі не пакінуць кабеты. Наварыць баба ігруш з ягадамі, напячэ аладак, аздобіць іх макам, прыгатуе як умее, ды йдзе ў „адведкі" да парадзіхі.

Калі вясельле дзе ладзіцца, дык гэта вясельле ўсёй вёскі.

Перад самым вясельлем бягуць па вёсцы хлопчыкі—пасланцы, забягаюць у кожную хату і гавораць: „Просім бога і вас на заручыны" (Меншчына). Моладзь, як вядома, ня прымушае сябе доўга прасіць.

Памёр чалавек. Пахаваць яго памагае вёска. Калі няма дошчак, прынясуць дошчак. Абмыць нябожчыка, зрабіць труну, выкапаць яму дол—гэта справа суседзяў. За гэта адзіная плата,—хаўтурны стол!

На ўсякі баль, на хрэзьбіны, на вясельле, калі йдуць госьці, дык вязуць, нясуць з сабою пірагі, масла, сыры, пячонку і інш. Гэта таксама ўзаемадапамога. Бо дзе-ж было-б аднаму чалавеку накарміць усю плойму гасьцей, а накарміць трэба. Гэтага вымагае закон дзядоў і прадзедаў. Закон ня менш моцны ў сьвядомасці старога селяніна, чым закон прыроды.






А. В. Фядзюшын.

# Яшчэ аб ахове прыроды.

У папярэднім артыкуле „Ахова прыроды і школа“ („Н. Кр.“ № 8-9 г. г.) гаварылася, што ў справе зьдзяйсьненьня ў нас ідэі аховы прыроды пераважную ролю павінна адыграць новая школа, але ў тым выпадку, калі ў ёй будзе зьвернута належная ўвага на адпаведныя тэмы і заняткі.

Прыродазнаўчая конфэрэнцыя, якая адбылася пры пэдфаку Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту, у выніку майго дакладу па пытаньні аховы прыроды і ролі ў гэтым Савецкай школы, у сваіх рэзолюцыях адзначыла шэраг конкрэтных мер, накірава ных наразьвіцьцё ў моладзі добрых адносін да жывой прыроды (у час экскурсій і наагул у штодзённым жыцьці). З гэтаю мэтай у рэзолюцыі прапанавалася абсталяваньне „жывых куткоў“, організацыю „дзён аховы птушак“, гурткоў па ахове прыроды і г. д.

Як і заграніцай, так і ў нас, трэба думаць, мерапрыемствы па ахове жывых істот будуць мець сярод школьнай моладзі вялікі посьпех, але вельма патрэбна, каб пропаганда аховы прыроды праводзілася плянова і ўсюды. З ліквідацыяй няпісьменнасьці сярод сельскага насельніцтва праводзіць гэту працу будзе лягчэй і вынікі яе бясспрэчна будуць добрыя. Ва ўсякім выпадку, наўрад ці падымецца рука на так званыя помнікі прыроды, ці гэта стагодняе дрэва, ці рэдкая жывёла, або проста прыгожы куточак роднай прыроды, у пісьменнага селяніна, які ўжо ўбачыў у школе на прыкладах настаўніка і ва ўласнай школьнай працы захады ў справе абароны жывой прыроды з навуковай, экономічнай ці эстэтычнай мэтаю. І тады, трэба спадзявацца, ня будзе таго недарэчнага зьнішчэньня прыродных каштоўнасьцяй, якое мы, на жаль, бачым часамі і цяпер, як вынік нашае дзікасьці.

Ніжэйзьмешчаны малюнак паказвае прыклад дрэнных адносін вясковых хлопцаў-падросткаў да помніка прыроды—рэдкага экзэмпляру тысячагодняга дуба.

І калі-б, скажам, настаўнік суседняй сельскай школы меў „на ўчоце“ гэты помнік і ў час экскурсій пад гэтым дрэвам растлумачыў сваім вучням, што гэта дрэва памятае розныя падзеі з гісторыі Беларусі з самых даўных часоў да апошніх дзён, што гэты дуб шумеў ужо



Тысячагодні дуб (дыямэтр каля $1^1/_2$ саж.) у Вазяранскім лясьніцтве, Тураўскага раёну, спалены пастухамі ў 1918 г.

Фотогр. А. Фядзюшын.

шматвяковым волатам у час татарскіх набегаў і ў час казацтва і мо‘ даваў прытулак пазьней беларускім прыгоньнікам, якія бунтаваліся супроць паноў; што пад гэтым дубам пасьвіліся жывёлы, якія ў наш час ужо ня існуюць, так гэта старое дрэва і цяпер магло-б быць удзячнай тэмай для настаўніка і помнікам для будучых пакаленьняў.

Толькі новая школа і агульнае навучаньне дадуць пэўную і рашучую абарону нашай зьбяднеўшай і безадказнай роднай прыродзе.

# МАТАР'ЯЛЫ З МЕСЦ.

У. Уладзіміраў.

## Возера Пялік і яго аколіцы *).

Возера Пялік знаходзіцца на тэрыторыі Беларускага Дзяржаўнага Запаведніку. Яно ляжыць на поўнач ад г. Барысава і калі лічыць адлегласьць яго ад апошняга па рацэ, то налічваецца 75 вёрст, а калі па грунтавой дарозе, то 29 вёрст. Бліжэйшым паштовым аддзяленьнем зьяўляецца м-ка Зэмбін (раён) у 20-ці вярстах ад Пяліка.

Пачынаецца возера Пялік ад крутога завароту ракі Бярозы, якая ўліваецца ў возера, дзе апошняе адразу прымае шырокі від, і канчаецца на поўдзень ад утокі рэчкі Смалянкі вузкай паласой, якая паступова пераходзіць у рэчышча ракі Бярозы. Такім чынам, Пялік зьяўляецца як-бы пашыранай часткай Бярозы. У даўжыню яно мае больш чатырох вёрст, а ў шырыню — тры. Самым шырокім месцам возера зьяўляецца адлегласьць па лініі ўтокі рэчкі Чэрнік і Сялецкай грэблі, якая падыходзіць да самага берагу возера (гл. на карце). Возера Пялік займае плошчу больш за 600 дзесяцін.

Берагавая лінія возера малазьвіліста і толькі пры ўтоцы ў возера ракі Бярозы ўтварыўся цэлы шэраг пабочных адток, якія зьмяняюць характар абрысу возера ў гэтых мясцох. Напр., дзьве вузкія затокі па абодвых баках р. Бярозы ахопліваюць яе ўтоку. З паўднёва-ўсходняга боку ў возера ўпіраецца вялікі поўвостраў Бурчак. Абрыс возера троху мяняецца ў час разводзьдзя, бо некаторыя ўзьбярэжныя яго аколіцы, як Бурчак, Чэрнік, Бараўліньне — заліваюцца вадой, ровень якой паднімаецца да 1—$1^1/_2$ мэтра вышэй яго звычайнага роўню.

Пры сваёй значнай плошчы возера зьяўляецца надзвычайна мелкім. Пры прамерцы па лініі вёскі Пялік і ўтокі рэчкі Смалянкі, і па лініі ўтокі Мрайскага каналу і Валатоўская грэбля было знойдзена, што глыбіня возера не перавышае $3^1/_2$ мэтраў. Пры гэтым найвялікшая глыбіня выпадае на стрыжань ракі Бярозы, які прарэзвае возера. Дно возера роўнае, бяз ўсякіх абрываў. На дне няма ні камянёў, ні пнёў. На ўсходнім беразе возера дно пяшчанае, цьвёрдае і бяз ўсякіх перагінаў зьяўляецца працягам роўнага берагу. На іншых мясцох дно гліістае сьветла-шэрага калеру. Асабліва гліістымі зьяўляюцца месцы пры ўтоках р.р. Бярозы, Смалянкі і Чэрнік. Заходні бераг прадстаўляе напластаваньне ад частак перагною, якія прыбіваюцца ветрам і хвалямі. Возера пры гэтым беразе глыбей, больш мутнае і цяплей. Празрыстасьць вады роўна $1^1/_2$ мэтру, а каля заходняга берагу — 1 мэтру (правяралася дыскам з белай бляхі ў 5 вярш. дыямэтрам).

---

*) Гэты артыкул зьяўляецца справаздачай экскурсіі на возера Пялік, якая адбылася з 1 па 9 VII г. г. У экскурсіі прымалі ўдзел 8 настаўнікаў г. Барысава пад кіраўніцтвам настаўніка Уладзімірава,

Па ўсім возеры сустракаюцца палі вадаросьляй. Зусім няма вадаросьляй па лініі стрыжаня ракі. Каля ўзьбярэжнай паласы возера растуць: Nymphaea alba L., Nùphar lutéum Sm, Stratiòtes alòides L., Hydrócharis Morsus ránae L., Sprarganium ramosum Huds, Lemna minor L. Летам вада каля заходняга берагу возера прымае зялёны колер, дзякуючы зьяўленьню дробных зялёных вадаросьляй. На возеры няма ні астравоў, ні плацін.

Вадазбор возера Пялік складаюць рака Бяроза і невялічкія рэчкі: Смалянка, Чэрнік, Бурчак, Мрайскі канал і Лютчанка, якія ўлетку амаль што перасыхаюць, апроч р. Бярозы, і зацягваюцца вадаросьлямі і багавіньнем. Усе гэтыя невялічкія рэчкі выцякаюць з балот, якія аточваюць возера. Крыніц у раёне возера няма. На рэчцы Лютчанцы, амаль што пры самай утоцы яе ў возера, пабудована застаўка для падніманьня роўню вады ў час сплаву лесу. Рэчка гэта завецца сялянамі проста канавай. Асаблівых вадазбораў паблізу возера Пялік няма, а таму ў разводзьдзе возера толькі падымае свой ровень вады, ня злучаючыся з іншымі вадазборамі.

У возеры Пялік водзіцца рыба наступных парод: лешч, (Abramis brama), шчупак (Esox lucius), карась (Carassius vulgaris), лін (Tinca vulgaris), язь (Idus melanotus), вокунь (Perca fluviatilis), плотка (Leuciscus rutilus), судак (Lucioperca Sandra), сом (Silurus glanis), ёрш (Acerina cernua), мянтуз (Lota vulgaris), карп (Cyprinus carpio L.). У гарачую пару году рыба выходзіць з возера ў раку Бярозу і нават часткай вымірае. Ловяць рыбу сеткамі, жакам і нератам.

Мясцовасьць, у якой знаходзіцца возерах, наагул вельмі балотная. Балоты гэтыя прыблізна займаюць каля 2000 дзесяцін. Уся гэта прастора ня мае зусім узвышшаў і вельмі вільготна. Толькі невялічкімі астраўкамі падымаюцца ўрочышчы: Бурчак, Гарэлае, Лазавое, Верацея і інш. Узьбярэжная паласа возера пакрыта лесам, які чаргуецца з сенажацьцю. Гэта сенажаць ня мае куп'я і пакрыта высокімі травамі: асакой (Carex elongata L.), Glyceria fluitans R. Br. і інш.

Бурчак зьяўляецца менш балотным і мае астравочкі сухой сенажаці, дзе растуць пераважна такія травы і краскі: Càrex dioica L., Càrex praécox Schreb, Alectrolophus, Euphràsia stricta Host, Centaurea Jacea L., Lysimachia Nummularia L., Lysim. vulgaris L., Parnassia palustris L., Lychnis Viscaria L., Lythrum Salicaria L., Geum rivàle i G. urbànum L., Epilòbium angustifolium L., Veronica spicata L., Eriophorum Nastùrtium palùstre DC, Cardamine pratensis Z, Valeriana officinalis L., Hypericum perforatum, Geranium sanguineum i G. pratense L., Oxalis Acetosella, на краю лесу — Vicia Cracca L., Orobus vernus L., Epilobium roseum, па беразе — Ptarmica vulgaris Clus.

Далей на поўнач ад Бурчака знаходзіцца, так званая, Валатоўская грэбля. Гэта ёсьць шлях ад хут. Волатава да возера. Па бакох яго грунт балотны і пакрыт алешнікам і лазьняком. Узьбярэжныя месцы пры ўтоках рэчак Чэрнік і Лютчанкі таксама пакрыты алешнікам і часткаю маладымі бярозкамі, часамі сустракаюцца старыя дубы. З траў пераважваюць: Carèx elongata L., Iris Psesdàcorus L., Acorus Càlàmus L., Calla polustris і інш. Бераг возера ў гэтым раёне нізкі, але цьвёрды і толькі за хутар. Волатава, які знаходзіцца ў адным кілёметры ад возера, мясцовасьць некалькі ўзвышаецца. Яна пакрыта лесам з наступных парод: Pinus silvestris L., Picea exselsa Tilia cordata Mill, Evônymus verrucosus Scop., Corylus Avellana L., Quércus pedunculata Ehrh., Acer platanoides L., Fraxinus excelsior L., асіны, ліпы і елкі дасягаюць вялізных разьмераў. Лес густы і ў некаторых мясцох пераходзіць у бярозавыя гаі.

Паміж утокай р. Лютчанкі і вур. Вуглы знаходзіцца выселак Пялік. У ім налічваецца 106 душ, з іх — 46 мужчын і 60 жанчын. Займаюцца, апроч земляробства, рыбацтвам, пагрузкай дроў, вывазам і сплавам лесу, які ў зімовы час складваецца на Бурчаку, Валатоўскай грэблі, каля самай вёскі Пялік і пры ўтоцы р. Жартайкі, якая ўліваецца ў р. Бярозу. Азімае збожжа тут зусім ня сеецца. Ярына дае сярэднія ўраджаі. Ворная зямля займая ўсяго 12 дзесяцін. Бераг возера ў гэтым раёне роўны. Апроч пералічаных раней расьлін тут сустракаюцца: Gladiolus imbricatus L., Orchis maculata L., Sagina nodosa Fenzl, Capsélla Bursa pastoris Moench, Viola odorata L., Polygala vulgaris L., Spergularia segetalis Fenzl, Stellaria nemorum L., Alchemilla vulgaris L., Potentilla anserina L., Potentilla Tormentilla, Comarum palustre L., Galium Mollugo L., Bidens tripartitus L., Achillea Millefolium L., sencanthemum vulgare Lam., Cirsium oleraceum Scop., Menyanthes trifoliata L., Symphytum officinàle L., Myosotis palustris Lam., Gratiola officinalis, Galeopsis speciosa Mill, Scutellaria galericulata, Atriplex nitens, Rumex Acetosa L., Cannabis Sativa L., Briza média L., Rumex conglomeratus Murr., Typha augustifolia L., Lemna minor L., Lemna trisulca, Butomus umbelattus L., Hydrócharis Morsus ranae L., Paragmites communis Trin.

Паўночна-заходні бераг возера часткай пескавы, часткай лугавы. Возера тут паволі адступае, наступаючы затое на ўсходні бераг. Бераг тут пакрыты часткаю поплавам, часткаю лясным парасьнікам: Alnus incana Mnch, Salix pentandra L., Populus tremula L., Rhàmnus cathartica L. Апошні від можна назіраць і на паўднёва-заходнім беразе возера, дзе можна яшчэ сустрэць Betula verrucosa Ehrh.

Уся мясцовасьць навакол возера, як гэта ўжо было адзначана

вышэй, амаль што зусім недаступна. Да яго прылягаюць толькі два шляхі: Валатоўскі і Сялецкі (грэблі) і адна сьцежка з вёскі Ханава праз хут. Савіны ў в. Пялік.

Раён возера Пялік мае вельмі нягустое насяленьне і зьяўляцца глухім кутком. Вось гэтым і тутэйшым багацьцем прыроды тлумачыцца, чаму гэты куток зьявіўся прытулкам для такіх дзікіх жывёл як: мядзьведзь, куніца, барсук, выдра, бабёр, дзікая каза, ліс, шашок, белка, дзік, лось, воўк, рысь і птушак: рабец, глушэц, цецярук, чайка, качка, чапля, журавель, слонка, бакасы звычайны і дубальт і нават гагара.

---

Я. Сяргеенка, В. Галкоўскі,
Хв. Галкоўскі і В. Дзюбалаў.

# Бабынаўскае і Зеляноўскае вазёры.

Бабынаўскае і Зеляноўскае ці, згодна расійскага напісаньня, „Бабиновичское“ і „Зелененское“ азёры, злучаныя паміж сабою вузкай, 140 м. пратокай, ляжаць на мяжы Высачанскага і Лёзьненскага раёнаў Віцебскае акругі. Першае займае паўднёва-ўсходні куток Высачанскага, а другое паўднёва-заходні—Лёзьненскага раёну. Мяжа паміж гэтымі раёнамі праходзіць па р. р. Узьменках, з якіх адна ўпадае з пауночнага, а другая—з паўднёвага боку ў Бабынаўскае возера. На заходнім беразе Бабынаўскага возера ляжыць былое м-ка Бабынавічы, а на пауднёвым беразе Зеляноўскага—вёска Зелянуха і хутары Сялец. Агульная даўжыня гэтых азёр каля 2,4 клм. Па сваей форме яны напамінаюць пухір рыбы (гл. плян).




Берагавая лінія досыць простая, бяз значных завілін, апроч месца, дзе ляжаць два поўастравы, якія разьдзяляе пратока-злучнік абодвух азёр—перавузіна памясцоваму, і ўсходняга берагу Зеляноўскага возера, дзе знаходзіцца досыць значная затока ці завадзь „Сьвятыя Лукі“. Берагі ўзгаркаватыя і маюць узвышшы. Асабліва ўзгаркаватыя і стромкія берагі Бабынаўскага возера на поўначы і берагі Зеляноўскага, выключаючы некаторыя забалочаныя часткі.

Грунт берагоў у пераважнасьці пяшчаны. Дно адхона спадае і на адлегласьці блізка 40 мэтраў ад берагу яно ўжо роўнае і пакрыта глеем.

Глыбіня азёр бяз малага роўная. Самая вялікая глыбіня Зеляноўскага возера даходзіць да 3,6 м., а Бабынаўскага да 3,4 м. Сярэдняй

глыбінёй абодвух азёр можна лічыць 3 м. Перавузіна мае глыбіню ў сярэднім 1,7 м. Пласт глею на дне значны: калі ўторкнуць палку ў дно, то яна ўходзіць у глей яшчэ прыблізна на столькі, колькі мае глыбіня. Гэта дае магчымасьць дапусьціць, што азёры мелі раней значную глыбіню.

Толькі ў адным месцы Зеляноўскага возёра, недалёка ад хутароў Сялец дно зусім цьвёрдае і калі стукнуць па ім палкай ці вяслом яно гудзіць, як цагляная сьцяна. Сяляне апавядаюць, што калісьці на гэтым месцы было суха і тут знаходзілася соль, якую капалі сяляне яшчэ пры прыгоне. „Раз пан раззлаваўся на сялян і замураваў гэтую соль, а калі на Лучосе паставілі млын, дык вада закрыла гэтае месца. Яно невялічкае: у даўжыню будзе крокаў 20, тое самае і ў шырыню. Пласт складаецца з якойсьці цьвёрдай пароды ўнутры цёмна-бурага колеру, а зьверху пакрытай іржавым колерам.

Азёры праточныя, як зазначана раней, з поўначы ў Бабынаўскае возёра ўпадае рэчка Узьменка, а з поўдня—ручэй Бязымяны і другая рэчка Узьменка, да якой дадаецца яшчэ назва Зеляноўская. У Зеляноўскае возера ўпадае з усходу р. Вярхіта і з поўдню ручэй бяз назвы, які дужа грузкі і мае амаль што недаступныя берагі. Узьменкі і Вярхіта—рэчкі лясныя і ня надта многаводныя. У вялікую ваду яны нясуць, асабліва першыя, шмат глею і пяску і можна думаць, што поўастравы створаны ў значнай ступені імі, бо яны мяняюць паступова свае рэчышчы.

Апрача рэчак і ручаёў, даюць шмат вады азёрам падземныя крыніцы, якіх вельмі многа каля берагоў. Узімку яны не даюць азёрам замярзаць каля берагоў. Некаторыя з іх маюць, як відаць, жалеза, бо пясок каля іх пакрыты іржой.

Выцякае з азёр толькі адна рэчка, якую сяляне называюць таксама Вярхітай ад вытаку да злучэньня з р. Чарніцай. Даўжыня гэтага кавалку рэчкі каля 1,5 клм. Далей яна называецца Лучосай.

Ня гледзячы на тое, што азёры папаўняюцца вадой і з рэчак і з ручаёў і з крыніц, усё-ж такі вада ў сухое лета зьмяншаецца, што ўлетку гэтага году асабліва было заметна. Ваду, якая ўходзіць па Лучосе можна было скарыстаць для млына ці іншага прадпрыемства, бо месца пры выпадку вельмі выгоднае. Тут перад мастом стаяў калісьці млын. Мясцовыя дзяды аб ім ня помняць, а толькі рэшткі паляй ды грэблі ўказваюць на гэта.

Выключаючы паўднёва-заходнюю частку Бабынаўскага возера, усе берагі абодвух азёр пакрыты значнымі лясамі, якія зусім блізка падыходзяць да вады. Кяля самай вады густа растуць чорныя вольхі (Alnus glutinosa), далей ідуць на паўночным беразе абодвух азёр хвоя, бяроза, асіна. На паўднёвым беразе Зеляноўскага возёра пераважае елка. На берагох апошняга расьце асабліва густы лес, ад чаго, мабыць, яно і атрымала сваю назву. Каля самых берагоў у вадзе растуць розныя вадалюбы: хвашчы (Equisetum palustre), урэчнікі (Potamogeton), лапуха (Nymphaea alba і Nuphar lúteúm), стрэліцы (Sagittaria sagittifolia), разак (Stratiotes aloides), крапіва вадзяная або рагалісьцік (Ceratophyllum demersum L., чароты (Phragmites Trin.) і інш.

Асабліва высокія растуць сітнікі. Яны дасягаюць росту больш чым вышыня чалавека. Сяляне іх косяць у восень для подсьцілкі жывёле.

Дно ня мае расьліннасьці. Вадзяной расьліннасьцю вызначаецца асабліва Зеляноўскае возера.

А азёры дужа ня вызначаюцца рыбным багацьцем. Тут ловяцца: акунь (Perca fluviatilis), ёрш (Acerina cernua), мянтуз (Lota vulgaris), карась (Carassius vulgaris), лін (Tinca vulgaris), краснапёрка (Scardinius erythrophtalmus), язь (Idus melanotus), галавень (Squalius cephalus), ялец (Squalius leuciscus), плотка (Leuciscus rutilus), лешч (Abramis brama), шчупак (Esox lucius), .сіг (Nemachilus barbatulus), курмель (Gobio fluviatilis), піскун, каза, сьліжык і іншая дробная рыбка.

Для лову рыбы ўжываюць розныя прылады: брэдні, падвалочку, мярожы, нораты, сачкі, сеткі, невады, блясьню, шнуры, вуды. Апрача гэтага ўзімку глушаць рыбу „кукай“. Цана на рыбу невялікая: самая дробная каштуе 7 кап. фунт, а буйная даходзіць толькі да 25 кап. фунт. Раней лавілася рыбы многа і пападалася часта вельмі буйная. Цяпер, дзякуючы драпежнаму лову, буйная рыба значна зьменшылася. Раней пападаліся шчупакі ў 3—5—40 ф., ляшчы даходзілі вельмі часта да 10 ф., а язі да 5 ф. Ракаў таксама было шмат. Некаторыя з мяс-

СХЭМА РАЗМЕРКАВАНЬНЯ КУРГАНОЎ




цовых насельнікаў займаліся ловам ракаў на продаж. Цяпер пасьля нейкага паморку лік іх дужа зьменшыўся.

З сьлімакоў тут можна знайсьці: скрутку (Planorbis) балацяніка, вялікае мноства начовачак ці „чарапах“ памясцоваму; з іншых жывёлін трапляюцца п'яўкі конскія і лячэбныя, валасень і прэснаводная губка.

З птушак жывуць на возеры Зеляноўскім: качкі крыжнія і чыркі, вадзяная курка і інш.

Аб пахаджэньні гэтых азёр існуе думка, што азёры стварыліся з р. Вярхіты пасьля таго, як на ёй паставілі млын, аб якім мы ўспаміналі раней. Праўда, у мясцовага насельніцтва рэчка, што ўпадае—Вярхіта, і пачатак р. Лучосы таксама Вярхіта, але сказаць канчаткова, што думка аб такім пахаджэньні правільна, немагчыма, бо грэбля млына не магла-б утрымаць столькі вады, а потым вада не змагла размыць сабе такую катліну, у якой азёры ляжаць. Трэба думаць, што стварэньню азёр дапамагаў ледавік.

Самыя азёры, відаць, з незапомных часоў зьяўляюцца месцам пасяленьня чалавека. Пры вытаку р. Лучосы ляжыць пагорак, які мае рэшткі валоў, на паверхні яго часта знаходзяць скалкі. Таксама пры вусьці р. Вярхіты ляжыць пагорак, які нават называецца „Гарадзец“. Гэтае ўзвышша прадстаўляе сабой гарбыль, абкружаны з двух бакоў рэчкай і возерам, а з другіх двух грузкім мала даступным балотам. Апрача гэтага па берегох азёр былі знойдзены каменныя прылады: малаток, тапор, але дзе яны—невядома.

В. Самцэвіч.

# Помнікі кампаніі 1812 г. ў Барысаве.

Рака Бярэзіна і горад Барысаў, як вядома, адыгралі выдатную ролю ў кампаніі 1812 г. Стратэгічнае значэньне гэтай мясьцовасьці было ў належнай меры ацэнена расійскім камандваньнем яшчэ перад пачаткам кампаніі. Ужо ў 1811 г. на правым беразе Бярэзіны пры Маскоўскім тракце, перад мостам праз р. Бярэзіну будуецца прадмостнае ўкрапленьне—акопы (цяпер т. з. батарэі) для 20.000 расійскага войска (плошчай каля 1.700 мэтр. у даўжыню і шырыню). Скончаныя ўжо пасьля заканчэньня вайны акопы-„батарэі" існуюць і да цяперашняга часу. Уся плошча пакрыта цяпер рэдкім хваёвым лесам. Да вайны 1914 г. „батарэі" зьяўляліся месцам для гуляньня публікі. У час вайны з белапалякамі „батарэі" зьяўляліся апорным пунктам для польскай арміі, якая займала правы бераг Бярэзіны, у той час як Чырвоная армія займала левы бераг з г. Барысавам (май-чэрвень месяцы 1920 г.). З паўночнага боку па асноўным вале польская армія зрабіла акопы для перадавой лініі. Тут-жа знаходзілася і артылерыя, якая абстрэльвала Барысаў і пакінула пры адступленьні палякаў большую і лепш адбудаваную часьць гораду ў руінах і папялішчах.




У гэтым годзе дарожна-будаўнічы адрад хацеў зямлю аднаго пярэдняга валу зьвезьці для дарожна-будаўнічых патрэб, але, дзякуючы протэсту мясцовай краязнаўчай організацыі і АНА, намер гэты ажыцьцявіць ня прышлося. Цяпер у сярэдняй часьці „батарэй" у хваёвым лесе будуецца акругОвы шпіталь „батарэі" часткай ужо забудаваны і прыватнымі дамамі. Па хадайніцтву Праўленьня Т-ва Краязнаўства праз Камісію па ахове помнікаў пры Інбелкульце пастанова СНКБ ад 5-VII г. г. „батарэі" абвешчаны дзяржаўнай маемасьцю.

У Стара-Барысаве, у 4 клм. ад Барысава захаваўся старэнькі рэстаўраваны драўляны „дом Напалеона І". У гэтым доме Наполеон І знаходзіўся з сваім штабам з 13 да 16 лістапада 1812 і кіраваў пераправай сваёй арміі праз Бярэзіну ў в. Студзёна. Плян дому і распалажэньне пакояў засталіся бяз зьмены, калі ня лічыць пазьнейшай

прыбудовы—дамовай царквы. Дом знаходзіцца зараз у досыць запушчаным становішчы. Адна палова дома цяпер занята пад хімічную лябараторыю Варанецкага Сел.-Гаспадарчага Тэхнікуму, а другая—часова выкарыстоўваецца пад кватэры. Дом абавязкова трэба падрамантаваць з захаваньнем распалажэньня пакояў і стылю, у якім дом пабудаваны.



Помнік у в. Студзёнцы
на месцы пераправы французскага войска у 1812 г

У 2-х клм. ад Стара-Барысава, пры самай р. Бярэзіне ляжыць вёска Студзёнка (38 двар.), дзе на працягу 14, 15 і 16 лістапада 1812 г. адбывалася няшчасная пераправа Напалеонаўскай арміі па двух насьпех наведзеных мастох, дзеля чаго былі разабраны ўсе будынкі в. Студзёнкі. (Вуліца па беразе ракі забудавалася на працягу 15-20 апошніх гадоў). У часе пераправы загінула каля 30.000 салдат Напалеонаўскай арміі, абозы, маса рознай каштоўнай маемасьці, вывезенай з Расіі і Беларусі.



Дом Напалеона I з фасаднага боку. Стары-Барысаў.

У 1908—1910 г. г. на месцы пераправы ў Бярэзіне працавала зямлячарпалка. (Лічуць, што гэта работа вялася Барысаўскім памешчыкам Каладзеевым). Рака была адведзена ад левага берагу цэлай сыстэмай запруд, якія да гэтага часу захаваліся. Знойдзена нібы каля 70 пуд. рознага роду аружжа, знарадаў і інш., і ўсё гэта папала да Каладзеева ў Н.-Барысаве, дзе была і вельмі добрая бібліотэка, у якой налічвалася



**Плян дому Наполеона I. Пакоі: 1—2 бібліотэка сел.-гасп. Тэхнікуму. 3—7 хімічн. лябаратор. 8 уваход. 9 тэраса. 12—16 часовыя кватэры. 17 сенцы. Даўжыня дому 16 саж. шырыня 11 саж.**

дзесяткі тысяч томаў кніг аб кампаніі 1812 г., шмат гравюр, ваенных карт, плянаў і г. д.; усё гэта было перададзена ў Маскоўскі музэй 1812 г. На абодвых мясцох пераправы тым-жа Каладзеевым у 1910 г. у в. Студзёнка былі пабудаваны 2 помнікі: на каменным падмурку, плошчай у 2 кв. мэтр. чатырохкантовыя слупы (каля 3 мэтр. вышынёй). На асобных табліцах меліся належныя надпісы.

У сучасны момант у вадным з помнікаў разабраны вугал у падмурку (каменьне відаць прыгадзілася ў лазьню), у другім зьбіты верх помніка на 0,5 мэтр.; табліцы, з надпісамі зьняты і прапалі. Помнікі неабходна рэстаўраваць, абгарадзіць і аддаць мясцовай уладзе для аховы.



# Програмы, інструкцыі і анкеты.

## Програма першапачатковага азнаямленьня з краязнаўствам.

Краязнаўчая справа з кожным годам ахапляе ўсё большыя колы грамадзянства. У краязнаўчую працу пачынае ўцягвацца як вясковая інтэлігенцыя, таксама рабочыя, сяляне і працоўная моладзь. Дзеля таго, каб быць карысным у гэтай справе, неабходна ўсім пачынаючым краязнаўцам азнаёміцца як са значэньнем яе, так і зьместам. Для першапачатковай дапамогі ў гэтым кірунку зьмяшчаецца ніжэй програма азнаямленьня з краязнаўствам, да якой дадаецца паказаньне літаратуры. Вывучэньне краязнаўства паводле памянёнай програмы дасьць магчымасьць пачынаючым набыць правільны погляд і элемэнтарныя веды па гэтым пытаньні і будзе грунтам у іх далейшай працы па краязнаўству.

1. Краязнаўства, як энцыклёпэдыя мясцовага краю, як мэтод усебаковага вывучэньня пэўнай, адносна незялікай тэрыторыі з мэтай скарыстаць у інтарэсах гэтай тэрыторыі яе вытворчыя сілы.

Літаратура: Дзенс-Литовский и Абрамов. „Познание местного края“, стар. 15—19, Муратов. „Изучение местного края“, стар. 5—15.

2. Краязнаўчы рух і яго гісторыя.

Літаратура: Дзенс-Литовский и Абрамов. „Познание местного края“, стар. 20—24. Муратов. „Изучение местного края“, стар. 15—27 і часопіс „Наш Край“ № 2—3, стар. 3—13.

3. Краязнаўства ў СССР. Краязнаўства ў БССР.

Літаратура: Муратов. „Изучение местного края“, стар. 27—92. Часопіс „Наш Край“ № 1, стар. 6—10 і № 2—3 за 1926 год — Рэзолюцыі Першага Краязнаўчага Зьезду.

4. Краязнаўства ў школе: яго заданьні і гісторыя.

Літаратура: Дзенс-Литовский и Абрамов. „Познание местного края“, стар. 25—28. Часопіс „Наш Край“ № 1 за 1925 г., стар. 11—17 і Игнатьев „Школа и краеведение“, Касьпяровіч. „Краязнаўчая праца ўстаноў народнае асьветы“ і „Роля бібліотэк у краязнаўчай працы“, час. „Асьвета“ за 1926 г., № 3 стар. 142—147.

5. Праца краязнаўчых організацый у справе вывучэньня мясцовай прыроды: а) плян і карты мясцовага краю, б) орографія і геолёгія, в) воды мясцовага краю, г) клімат, д) глеба, е) расьліннасьць, ж) жывёлы з) насельніцтва.

Літаратура: Дзенс-Литовский и Абрамов. „Познание местного Края“, стар. 34—55; 159—165. Часопіс „Наш Край“ № 1, стар. 32—37.

6. Грамадзка-экономічнае вывучэньне мясцовага краю: а) паселішча мясцовага краю, б) адзеньне, в) харчы, г) тэхніка ў жыцьці, д) сямейны быт, е) народная мэдыцына, ж) зьбіраньне народнай творчасьці, з) вераваньні, і) зямляўладаньне і зямлякарыстаньне, к) сельска-гаспадарчая прамысловасьць, л) жывёлаводзтва, м) сялянская гаспадарка, н) колектыўныя гаспадаркі і саўхозы, о) пчалярства, п) рыбацтва, р) лесаразьвядзеньне, с) паляўніцтва, т) горная прамысловасьць, у) саматужна-рамесная прамысловасьць, ф) фабрычна-заводзкая прамысловасьць, х) гандаль, ц) коопэрацыя, ч) шляхі зносін і сродкі зносін.

Літаратура: Дзенс-Литовский и Абрамов. „Познание местного края“, стар. 56—120. Часопіс „Наш Край“ № 1, стар. 49—53, 56—58 і № 2—3, стар. 70—78.

7. Гісторыка-археолёгічнае вывучэньне краю: а) гісторыя мясцовага краю, б) стаянкі каменнага веку, г) гарадзішчы, д) курганы, е) магільнікі, ж) скарбы, з) рэшткі дагістарычных жывёл, е) географічныя назвы мясцовага краю, к) рэволюцыйны рух мясцовага краю і л) сучасныя грамадзкія організацыі.

Літаратура: Дзенс-Литовский и Абрамов. „Познание местного края“, стар. 122—148, 165—168. Часопіс „Наш Край“ № 2—3, стар. 62—69.

8. Організацыя краязнаўчых музэяў, бібліотэк і выставак.

Літаратура: Дзенс-Литовский и Абрамов. „Познание местного края“, стар. 151—158. Муратов. „Изучение местного края“, стар. 93—109 і Жадовская. „Музей местной природы“. Феноменов. „Музей местного края“. Вишневский. „Выставка как метод пропаганды идеи краеведения“ у зб. „Вопросы краеведения“.

9. Мэтоды організацыі краязнаўчае справы ў раёнах, сельсаветах і пры школах. Як закладаць краязнаўчыя організацыі. Увязка краязнаўчай працы ў межах раёну. Організацыя апісаньня раёну.

Літаратура: „Наш Край“ № 1 за 1925, г. стар. 38—44. Дзенс-Литовскй и Абрамов. „Познание местного края“, стар. 15—20, 170—179. Вирский, „План всестороннего обследования раена“.

10. Краязнаўчыя экскурсіі.

Літаратура: Шенберг. „Географические экскурсии“ і Маевский. „Весенняя и осенняя флора“. Никифоров. „Как засушивать растения для гербария“.

УВАГА: Уся памянёная ў гэтай програме літаратура ёсьць ў раённых краязнаўчых таварыствах.

# Інструкцыя

## для асноўных нагляданьняў над сьнегавым насьцілам, над мяцеліцамі і над узьніманьнем і замярзаньнем рэк.

Асноўныя нагляданьні над сьнегавым насьцілам маюць на мэце даць весткі аб тым, у якія дні паверхня зямлі бывае пад сьнегавым насьцілам і якой тоўшчы ён дасягае ў розныя часы.

Каб дасягнуць патрэбнае дакладнасьці ў нагляданьнях і забясьпечыць магчымасьць параўнаньня іх паміж сабой, неабходна рабіць вымеры таўшчыні сьнегавога насьцілу ня толькі ў аднолькавых адзінках даўжыні, але, па магчымасьці, і ў аднолькавых умовах, незалежных ад мясцовых уплываў. Вядома, што ўмовы месца маюць вялікі ўплыў на стан і таўшчыню сьнегавога насьцілу, і нярэдка ў мясцох, вельмі блізкіх адно да другога, сьнегавы насьціл мае зусім іншы выгляд: ля платоў, каля будынкаў, у ярох, лясох і г. д. можна часта заўважыць вялікую масу сьнегу, між тым як у той самы час на некаторых адкрытых месцах вецер зьдзьмувае ўвесь сьнег. Дзеля таго, каб уявіць сабе сярэднюю таўшчыню сьнегу ў данай мясцовасьці, трэба рабіць вымеры ў такім месцы, дзе вецер і іншыя пабочныя ўмовы, як у часе выпаданьня сьнегу, так і пасьля, ня вельмі моцна ўплываюць на ўтварэньне, стан і раставаньне сьнегавога насьцілу.

Згодна з гэтым, трэба знайсьці для вымераў роўнае месца, захаванае ад вятроў, але такое, у якое-б ня трапіў сьнег, які зьдзьмуваецца ветрам з дахаў, дрэў і дзе сьнег ня зьбіраўся-б у гурбы, а ляжаў-бы роўным пластам, аднолькавае таўшчыні паўсюды.

Самым адпаведным для гэтае мэты месцам можна лічыць, напр., роўную паляну ў садзе альбо гародзе, абкружаную кустамі альбо нявысокімі дрэвамі.

**Конструкцыя і ўстаноўка рэйкі.** Каб вымераць таўшчыню сьнегавога насьцілу карыстаюцца рэйкаю, падзеленаю на сантымэтры. Яе ня цяжка зрабіць і самому. Для гэтага бяруць брусок (каля 5 сантымэтраў у шырыню, 1½—2 сант. у таўшчыню і 200 сант. у даўжыню), адзін канец яго завострываюць і, адступіўшы ад гэтага канца, напрыклад, на 40—50 сант., пачынаюць якмага дакладней наносіць дзяленьні, як паказана на малюнку. Мы бачым, што на левым баку гэтае рэйкі павінны зьявіцца ў перамешку чорныя і белыя палоскі, з якіх кожная будзе мець у вышыню 1 сантымэтр; на правым баку праведзены адпаведныя рыскі, адзначаныя цыфрамі праз кожныя два сантымэтры (0, 2,



4, і г. д.). Цыфры разьмеркаваны гэтак дзеля таго, каб можна было выразна бачыць іх на некаторай адлегласьці і адлічваць дзяленьні, якія знаходзяцца паміж іх. У выпадку, калі-б нельга было ахварбаваць палоскі ў белую і чорную хварбу, можна абмежавацца нарэзкаю дзяленьняў на рэйцы.

Гэтую, падзеленую на сантымэтры рэйку трэба да прыходу зімы ўкапаць у зямлю на абраным вучастку простастаўна, і прытым каб нулявое дзяленьне было на ўзроўні паверхні зямлі [1]).

Калі адначасна робяць вымеры таўшчыні сьнегавога насьцілу ў розных месцах, напр., у захаваным месцы, у вадкрытым полі, у лесе і г. д., дык вынікі гэтых вымераў трэба запісваць па кожнай рэйцы на асобнай табліцы.

Аб спосабе, якім робяцца вымеры, а таксама і аб месцы вымеру таўшчыні сьнегавога насьцілу неабходна рабіць нататкі ўнізе кожнае месячнае табліцы [2]); месца вымеру трэба пры гэтым адзначаць словамі, напр.: на палянцы, у садзе, у захаваным месцы, у гародзе, у лесе і г. д.

Апроч таго, трэба абавязкова прысылаць у пачатку восені на асобным аркушы апісаньне і плян вучастку, абранага для нагляданьняў з зазначэньнем на гэтым пляне бліжэйшых будынкаў, дрэў, кустоў і інш., а таксама і іх вышыні.

**Як адбываецца нагляданьне і запіс яго.** Калі зьяўляецца сьнегавы насьціл, вышыня яго вымяраецца раз у дзень, магчыма бліжэй да 7 гадз. раніцы, але ўсё-ж такі ў такі час, калі сьвятла даволі, каб зрабіць адлічэньне.

Адлічэньне па рэйцы, укапанай у зямлю, трэба рабіць не падходзячы да рэйкі бліжэй, як на 5 крокаў, гледзячы, проці якога дзяленьня прыходзіцца агульная роўная паверхня сьнегу; адлічэньне адпаведнае рыскі, якая паказвае таўшчыню сьнегавога насьцілу ад паверхні зямлі ўносіцца ў вызначаную для гэтае мэты табліцу, у графе „таўшчыня сьнегавога насьцілу“, у радку таго самага дня, у які быў зроблены вымер; пры гэтым трэба строга прытрымлівацца наступных указаньняў:

1) Нагляданьні над сьнегавым насьцілам трэба рабіць з першага моманту яго зьяўленьня ў восень, без выключэньня кожны

[1]) У выніку, калі па думцы нагледача, на яго станцыі няма адпаведнага месца для ўстаноўкі сталае рэйкі, можна вымераць таўшчыню сьнегавога насьцілу пры дапамозе пераноснае рэйкі ў некалькіх пунктах абранага вучастку, дзе прыметна роўнае заляганьне сьнегу, і адзначаць сярэдні вынік вымераў. З тае прычыны, што пры гэтым другім спосабе вымеру, рэйка кожны раз павінна пагружацца ў сьнег да паверхні зямлі, дык дзяленьні на гэткай рэйцы павінны наносіцца так, каб нулявое дзяленьне супадала з ніжнім канцом рэйкі. Калі паасобныя вымеры даюць усё-ж такі занадта розныя вынікі, дык лепш зусім не рабіць гэтакіх вымераў.

[2]) У выпадку зьмены спосабу вымераў альбо зьмены месца вымераў на працягу зімы, трэба аб гэтым паведаміць у канцы месячнай табліцы ў „увагах“, зазначыўшы, з якога дня адбылася гэтая зьмена. Але, як агульнае правіла—рэйку трэба ставіць штогод, па магчымасьці, на адным і тым самым месцы, калі гэтаму ня будуць з часам перашкаджаць зьмены ў акольнай абстаноўцы: будынкі, дрэвы і г. д...

дзень, а таксама і запісваць вынікі вымераў штодзённа, хаця-б і не адбылося ніякіх зьмен у таўшчыні насьцілу.

2) Калі пры вымеры вышыня сьнегавога насьцілу будзе тая самая, што і ў папярэдні дзень, дык трэба ў адпаведнай графе выстаўляць ня рыску альбо знак („), а адлічаны лік дзяленьняў.

3) Ува ўсе тыя дні, калі ня было сьнегавога насьцілу, альбо калі таўшчыня яго не даходзіла да 1 сантымэтру, трэба ў графу „таўшчыня сьнегавога насьцілу“ абавязкова ставіць рыску (—).

4) Ні ў якім выпадку нельга пакідаць графу „таўшчыня сьнегавога насьцілу“ незапоўненаю, бо іначай можа ўзьнікнуць няпэўнасьць:

ці засталася таўшчыня сьнегавога насьцілу тая самая,
ці ня зьнік насьціл зусім, альбо, нарэшце,
ці адбываліся наагул нагляданьні, альбо не.

5) Калі на працягу зімы ў пэўным месцы ня было сьнегавога насьцілу, альбо наглядач на працягу некаторага часу ня мог рабіць нагляданьняў, дык, каб абмінуць непаразуменьні, трэба паведаміць аб гэтым у табліцы.

Побач з данымі аб таўшчыні насьцілу, у суседнім слупку, трэба ставіць знак [Ж] 1) ува ўсе тыя дні без выключэньняў, калі а 7 гадзіне раніцы ўся як відаць, аколіца альбо, прынамсі, больш як палова яе пакрыта сьнегам, а ў іншыя дні—ставіць рыску.

Калі насьціл не неперарыўны, дык трэба адзначаць прыблізна, якая частка бачнае аколіцы пакрыта сьнегам (напрыклад: $^3/_4$, $^2/_3$, $^1/_2$, $^1/_3$, аколіцы пакрыта сьнегам).

Апроч таго, пажаданы адзнакі аб стане насьцілу ў аколіцы, як напрыклад: насьціл вельмі ценкі, ценкі, глыбокі, няроўнамерны, насьціл з праталінамі, насьціл пакрыты лядзянаю карою і г. д.

У тым месяцы, калі ўтварыўся першы насьціл, трэба ўпісаць у графу адпаведнага дня: „зямля пакрылася сьнегам у першы раз“.

У вясну і ў восень, калі сьнегавы насьціл то зьяўляецца, то зьнікае, нагляданьні трэба рабіць асабліва ўважна і заносіць даныя ў табліцу бяз пропускаў, таму што ў праціўным выпадку зрабіць вывад аб агульным ходзе гэтае зьявы вельмі цяжка, а часта нават і зусім немагчыма. Тое самае трэба памятаць і ў адносінах да тых зімовых месяцаў (асабліва на поўдні і ў месцах, якія знаходзяцца пад уплывам моцных вятроў), калі насьціл вельмі ценкі, а таму часта зьнікае і нанова зьяўляецца.

Калі, пасьля зьнікненьня сьнегавога насьцілу ў вясну, нанова ўтвараецца часовы насьціл, дык весткі аб гэтым таксама трэба занесьці ў табліцу і паслаць у Інбелкульт.

Як дадатковыя і тэрміновыя паведамленьні, вельмі пажадана, апроч таго, атрымліваць зьвесткі аб дружным раставаньні сьнегу ў вясну, што выклікае часта моцныя паводкі.

---

1) Каб ня было непаразуменяў, зьвяртаецца ўвага на тое, што знак [Ж] служыць выключна для азначэньня ліку дзён, у якія ўся аколіца альбо больш як палова яе была пакрыта сьнегам; таму і нельга ўжываць яго для скарачэньня слоў „сьнегавы насьціл“ альбо для азначэньня выпаданьня новага сьнегу.

З тае прычыны, што не заўсёды магчыма надзейна і правільна вызначыць таўшчыню сьнегавога насьцілу, дзеля таго, што ў пэўных мясцовасьцях ён ня мае сталага характару,—то зьнікае, то нанова зьяўляецца, альбо наагул адбываюцца ў ім значныя зьмены,—дык неабходна і ў такіх выпадках не пакідаць усё-ж такі табліцы незапоўненымі, але ставіць у першым слупку пытальнік (?), а ў другім зазначыць аб стане насьцілу ў аколіцы, напрыклад, словамі: „вельмі зьменны, таму нельга вымераць", і выставіць апроч таго знак [Ж] ў тыя дні, калі больш як палова паверхні зямлі ўсё-ж будзе пакрыта, хаця-ж і няроўнамерным насьцілам.

Каб зрабіць больш відавочным спосаб вядзеньня і запісу нагляданьняў над сьнегавым насьцілам, паводле гэтае інструкцыі, пры гэтым дадаюцца два прыклады. Дзеля таго, што нагляданьні над сьнегавым насьцілам сярод зімы наагул не такія цяжкія, як у часе зьяўленьня і зьніканьня насьцілу, дык для прыкладаў абраны пераходныя месяцы. Прыведзеныя прыклады не зьяўляюцца запраўднымі нагляданьнямі, яны складзены так, каб прадставіць у іх па магчымасьці, усе выпадкі, якія могуць трапіцца.

Нагляданьні над мяцеліцамі. Побач з нагляданьнямі над сьнегавым насьцілам трэба заносіць у табліцу весткі аб такіх мяцеліцах, якія з прычыны сваёй сілы і доўгага часу наносяць гурбы, якія, у сваю чаргу, могуць спыніць альбо перашкодзіць зносінам як па чыгунках, так і па грунтовых шляхох.

Нязначныя-ж мяцеліцы, якія ня выклікаюць перашкод у зносінах, і ня маюць таму практычнага значэньня, запісваць у табліцы ня трэба.

На практыцы адрозьніваюць два роды мяцеліц: верхнія і ніжнія, гледзячы па тым, ці адбываюцца яны з тае прычыны, што сьнег падае пры сільным ветры з хмар, ці—узьнімаецца ветрам з паверхні зямлі. Зразумела, што могуць быць выпадкі, калі адначасна пачынаюцца мяцеліцы таго і другога роду, і часта нельга нават дакладна вызначыць, якая з іх пачалася раней, альбо абедзьве зьявы пачаліся адначасна.

Мяцеліцы азначаюцца знакам $\rightarrow$ у вадпаведным слупку, прычым адзначаецца прыблізна час пачатку і канца гэтае зьявы. Дзеля таго, каб адзначыць, пры магчымасьці, ці была гэта верхняя ці ніжняя мяцеліца, трэба ў першым выпадку рыску ставіць пад знакам мяцеліцы, у другім—рыску над тым-жа знакам, такім чынам:

$\underline{\rightarrow}$ азначае верхнюю мяцеліцу, $\overline{\rightarrow}$ азначае ніжнюю мяцеліцу,

$\overline{\underline{\rightarrow}}$ азначае ніжнюю і верхнюю мяцеліцу адначасна.

Для азначэньня інтэнсыўнасьці мяцеліц карыстаюцца лічбамі (як паказьнікамі)

| | | | |
|---|---|---|---|
| $\underline{\rightarrow}^0$ | слабая верхняя мяцеліца | $\overline{\rightarrow}^0$ | слабая ніжняя мяцеліца |
| $\underline{\rightarrow}$ | сярэдняе сілы „ | $\overline{\rightarrow}$ | сярэд. сілы „ „ |
| $\underline{\rightarrow}^2$ | моцная „ | $\overline{\rightarrow}^2$ | моцная „ „ |

У тых выпадках, калі над мяцеліцай не магло быць падрабязных нагляданьняў, трэба ўсё-ж такі не прапускаць знаку $\rightarrow$.

У графе „ўвагі“ неабходна, па магчымасьці, больш поўна і дакладна адзначаць (кіруючыся практыкай і нагляданьнямі як сваімі ўласнымі, так і тых тубыльцаў, якія цікавяцца гэтым і досыць уважны) наступнае:

1) Ці ў звычайную пару году ў мясцовасьці, дзе жыве наглядач, выпаў першы сьнег, усталявалася альбо зьнікла санная дарога, зьявіліся праталіны і зьнік у вясну сьнег, замерзла альбо ўзьнялася рака, ручэй альбо возера, і калі не, дык на колькі прыблізна дзён гэта адбылося раней альбо пазьней, чым звычайна.

2) Выпадкі вялікіх мяцеліц, колькі часу цягнуліся, якую мелі моц і якую шкоду яны каму прынесьлі.

3) Ці ляжыць сьнег на палёх роўным пластам, альбо гурбамі.

4) Утварэньне на самой паверхні зямлі (голай альбо пакрытай зьверху сьнегам лядзянай коркі, і як доўга яна трымалася).

5) Ці няма пагрозы азімым з боку марозаў, вымаканьня, выпарваньня і. г. д.

6) Усё тое, што, па вашай думцы, выходзіць за межы звычайнага стану надвор‘я, альбо так ці іначай уплывае ці можа зрабіць уплыў на стан народнае гаспадаркі, а асабліва сельскае, і прамысловасьці.

Нагляданьні над узьніманьнем і замярзаньнем вод. У сувязі з нагляданьнямі над сьнегавым насьцілам і над мяцеліцамі неабходна даваць на асобных табліцах альбо аркушох весткі аб узьніманьні і замярзаньні рэк, азёр, сажалак і каналаў, якія знаходзяцца блізу месца нагляданьняў. Адносна гэтых нагляданьняў пажадана, каб нагледачы прытрымліваліся наступных правіл:

Патрэбна запісаць назву ракі альбо возера і інш., узьніманьне альбо замярзаньне якіх адзначаюць. Калі станцыя знаходзіцца ня пры самай рацэ альбо возеры, дык трэба ўказаць адлегласьць. Нагляданьні заўсёды (кожны раз і кожны год) трэба рабіць на адным і тым самым месцы. Калі рака невялікая, мала вядомая, трэба ўказаць, у якую раку альбо возера яна ўпадае.

Дні ўзьніманьняў і замярзаньняў павінны быць запісаны нагледачом у самы дзень зьявы, з зазначэньнем, у які дзень тыдню гэта было.

Калі зьява запісана нагледачом паводле сваіх запісаных нататак, альбо са слоў другое асобы, трэба аб гэтым сказаць.

Днём узьніманьня трэба лічыць той дзень, калі лёд узламала проці месца нагляданьняў, альбо калі лёд пачаў рухацца. Апроч таго, трэба адзначаць таксама дзень, калі паверхня вод зусім ачысьцілася ад лёду.

Днём замярзаньня трэба лічыць той дзень, калі лёд, які ішоў па рацэ замёрз і спыніўся, альбо калі паверхня вады пакрываецца нярухомаю цэльнаю, хаця-б і ценкаю, лядзянаю коркаю ад аднаго берагу да другога.

Калі ў вясну альбо ў восень адбываецца некалькі раз узьніманьне і замярзаньне, дык трэба зазначаць кожнае ўзьніманьне і замярзаньне.

Калі пасьля замярзаньня астаецца альбо да ўзьніманьня ўтвараецца вялікая процеч, дык карысна памянуць і аб гэтым.

У тых выпадках, калі замярзаньня вод ня было да канца году, неабходна аб гэтым паведаміць Інбелкульт. Калі-ж і далей, пачынаючы са студзеня, замярзаньне не адбывалася, а дзеля таго ня было і ўзьніманьня, дык у вясну абавязкова трэба паведаміць аб гэтым.

Весткі аб узьніманьні і замярзаньні вод трэба запісваць у вызначаных для гэтае мэты асобных блянках альбо аркушох, бо ў працiўным выпадку апрацоўка гэтых нагляданьняў значна ўскладняецца.

Урэшце, трэба, каб табліцы з нагляданьнямі над сьнегавым насьцілам, мяцеліцамі, узьніманьнем і замярзаньнем вод, штомесяц рэгулярна і беззатрыманьня высылаць у Інбелкульт у вадным конвэрце з другімі нагляданьнямі, якія зроблены на станцыі. Той, хто спозьніцца з высылкаю нагляданьняў, пазбавіць мягчымасьці безадкладна і саячасна выкарыстаць нагляданьні для патрэб Белар. Дзярж. Установ.

Пры складаньні гэтых інструкцый поўнасьцю выкарыстаны інструкцыі выд. ГГО і Укрмэтам.

Усе нагляданьні трэба пасылаць бясплатна па гэткай, строга вызначанай форме адрасу.

ЦЭНТРАЛЬНАЕ БЮРО
КРАЯЗНАЎСТВА.

Менск. Рэволюцыйная, 21
Інбелкульт.

Таварышы краязнаўцы! Нагляданьні над сьнегавым насьцілам, над мяцеліцамі і над узьніманьнем і замярзаньнем рэк, каналаў, сажалак і азёр маюць вялікае навуковае і практычнае значэньне. Вынікі гэтых нагляданьняў вельмі важны і каштоўны для цэлага раду беларускіх дзяржаўных установ і грамадзкіх організацый, якія безадкладна і дасканала іх выкарыстоўваюць дзеля правільнага плянаваньня народнае гаспадаркі. Дзеля гэтага, заклікаючы вас да організацыі ў Беларусі густой сеткі пунктаў для вышэйпамянёных нагляданьняў, ЦБК і Мэтбюро, адначасна з тым, лічыць патрэбным вас папярэдзіць, што ўсе вашыя нагляданьні будуць карысны толькі ў тым выпадку, калі вы будзеце іх весьці і запісваць, прытрымліваючыся няўхільна інструкцыі. Няправільна і ненадзейна зробленыя і запісаныя нагляданьні хутчэй шкодны, чымся карысны і патрэбны.

## ПРЫКЛАД I.

### НАГЛЯДАНЬНІ НАД СЬНЕГАВЫМ НАСЬЦІЛАМ І МЯЦЕЛІЦАМІ.

Месца нагляданьняў: м. Янавічы
Акруга—Віцебская
Раён—Сураскі
Сельсавет—Янавіцкі

За красавік м-ц 1924 г.

| Дата | Дзень тыдню | Таўшчыня сьнег. насьцілу ў сант. | Агульны стан сьнегавога насьцілу ў аколіцах | Мяцеліцы |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Нядзеля | 28 | сьнег тае далей | |
| 2 | Панядз. | 24 | тое самае | |

| Дата | Дзень тыдню | Таўшчыня сьнег. насьцілу ў сант. | Агульны стан сьнегавога насьцілу ў аколіцах. | | Мяцеліцы |
|---|---|---|---|---|---|
| 3 | Аўторак | 23 | Ж | адліга | |
| 4 | Серада | 17 | Ж | наагул сьнегавы насьціл у ваколіцы цянейшы, чымся на месцы агляданьняў | |
| 5 | Чацьвер | 14 | Ж | сьнегавы насьціл растае, як і раней | |
| 6 | Пятніца | 13 | Ж | утварыліся праталіны; $^{3}/_{4}$ аколіцы пакрыты сьнегам | |
| 7 | Субота | 10 | Ж | $^{2}/_{3}$ аколіцы пакрыты сьнегам | |
| 8 | Нядзеля | 7 | — | праталіны значна павялічыліся; $^{1}/_{2}$ аколіцы пакрыта сьнег. | |
| 9 | Панядз. | 5 | — | | |
| 10 | Аўторак | 4 | — | $^{1}/_{3}$ аколіцы пакрыта сьнегам | |
| 11 | Серада | 2 | — | сьнег зьнік з палёў, але трымаецца ў лесе і ў ярох | |
| 12 | Чацьвер | — | — | | |
| 13 | Пятніца | — | — | выпаў сьнег, але адразу і растаў | |
| 14 | Субота | 3 | Ж | ценкі | |
| 15 | Нядзеля | 3 | Ж | тое самае | |
| 16 | Панядз. | 2 | Ж | праталіны | |
| 17 | Аўторак | 1 | — | $^{1}/_{2}$ аколіцы пакрыта сьнегам | |
| 18 | Серада | — | — | | |
| 19 | Чацьвер | — | — | сьнегавы насьціл з палёў зьнік; у лесе яшчэ трымаецца | |
| 20 | Пятніца | — | — | | |
| 21 | Субота | — | — | | |
| 22 | Нядзеля | — | — | | |
| 23 | Панядз. | — | — | сьнег у лесе растаў | |
| 24 | Аўторак | — | — | | |
| 25 | Серада | — | Ж | вельмі ценкі насьціл. | |
| 26 | Чацьвер | — | — | сьнег растаў | |
| 27 | Пятніца | — | — | | |
| 28 | Субота | — | — | | |
| 29 | Нядзеля | — | — | сьнег, што захаваўся ў ярох—зьнік. | |
| 30 | Панядз. | — | — | | |

Увагі:

1) Рэйка сталая альбо перенасная: сталая.

2) Дзе адбываліся вымеры: у садзе.

Подпіс нагледача: І Р. Пчолка.

Паштовы адрас: пашт. аддз. Янавічы, Сураскага раёну, Віцебскае акругі, м. Янавічы.

## ПРЫКЛАД II.

### НАГЛЯДАНЬНІ НАД УЗЬНІМАНЬНЕМ І ЗАМЯРЗАНЬНЕМ РЭК.

Месца нагляданьняў: м. Янавічы Год 1917.
Акруга: Віцебская
Раён: Сураскі
Сельсавет: Янавіцкі

Рака „Вымнянка“, якая працякае праз мястэчка Янавічы і ўпадае ў р. Касплю, узьнялася 1 красавіка (нядзеля), ачысьцілася ад лёду 10 красавіка (аўторак).

Подпіс нагледача І. Р. Пчолка.

### НАГЛЯДАНЬНІ НАД УЗЬНІМАНЬНЕМ І ЗАМЯРЗАНЬНЕМ АЗЁР, САЖАЛАК І КАНАЛАЎ.

Месца нагляданьняў: м. Янавічы Год 1917.
Акруга: Віцебская
Раён: Сураскі
Сельсавет: Янавіцкі

Возера „Янавіцкае“, якое знаходзіцца ў 1 кілёмэтры ад. м. Янавічы, узьнялося 4 красавіка (серада), ачысьцілася ад лёду 15 красавіка (нядзеля).

Подпіс нагледача І. Р. Пчолка

## ПРЫКЛАД III.

### НАГЛЯДАНЬНІ НАД СЬНЕГАВЫМ НАСЬЦІЛАМ І МЯЦЕЛІЦАМІ.

Месца нагляданьняў: м. Янавічы
Акруга: Віцебская
Раён: Сураскі
Сельсавет: Янавіцкі За лістапад м-ц 1917 г.

| Дата | Дзень тыдню | Таўшчыня сьнегав. насьцілу ў сантым. | Агульны стан сьнегавога насьцілу ў аколіцах | | Мяцеліцы |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Чацьвер | — | — | | |
| 2 | Пятніца | — | — | | |
| 3 | Субота | — | — | | |
| 4 | Нядзеля | 2 | Ж | вельмі ценкі; зямля пакрылася сьнегам у першы раз | |
| 5 | Панядз. | 4 | Ж | ценкі | |
| 6 | Аўторак | 6 | Ж | | |
| 7 | Серада | 6 | Ж | пухкі | |

| Дата | Дзень тыдню | Таўшчыня сьнегав. насьцілу ў сантым. | Агульны стан сьнегавога насьцілу ў аколіцах. | | Мяцеліцы |
|---|---|---|---|---|---|
| 8 | Чацьвер | 3 | Ж | праталіны; 2/3 аколіцы пакрыты сьнегам | ↑ 5 г.в—12 г. ночы. |
| 9 | Пятніца | 1 | — | з палёў амаль увесь сьнег зьдзьмула ветрам | ↑ 12 г. ночы—3 г. в. |
| 10 | Субота | — | — | | |
| 11 | Нядзеля | — | — | | ↑ 8г.30 м. в.—9 г. 15 м. в. |
| 12 | Панядз. | 1 | — | месцамі ценкі насьціл | |
| 13 | Аўторак | 12 | Ж | неперарыўны, роўны | |
| 14 | Серада | 12 | Ж | бяз зьмены | |
| 15 | Чацьвер | 12 | Ж | бяз зьмены | |
| 16 | Пятніца | 12 | Ж | бяз зьмены | |
| 17 | Субота | 10 | Ж | утварыліся праталіны | |
| 18 | Нядзеля | 7 | Ж | пакрыты лядзянаю карою | |
| 19 | Панядз | 7 | Ж | тое самае | ↑ 3 г. в.—7г.50 м. веч. |
| 20 | Аўторак | 19 | Ж | неперарыўны, вечарам адліга | |
| 21 | Серада | 10 | Ж | дождж | |
| 22 | Чацьвер | 5 | Ж | праталіны; 2/3 аколіцы пад сьнегам | |
| 23 | Пятніца | 2 | — | насьціл зьнікае; 1/2 аколіцы пакрыта сьнегам | |
| 24 | Субота | — | — | сьнегавога насьцілу бадай што няма | |
| 25 | Нядзеля | — | — | | |
| 26 | Панядз. | 5 | Ж | ценкі | |
| 27 | Аўторак | 9 | Ж | неперарыўны, роўны | |
| 28 | Серада | 16 | Ж | | ↑ 6г.10м. в.—8 г. веч. |
| 29 | Чацьвер | 19 | Ж | нярoўнамерны | |
| 30 | Пятніца | 18 | Ж | асеў | |

Увагі:

1) Рэйка сталая альбо перадзьвіжная: сталая.
2) Дзе адбываліся вымеры: у садзе.

Подпіс нагледача: І. Р. Пчолка.

Паштовы адрас: паш. аддз. Янавічы, Сураскага раёну, Віцебскае акругі, м. Янавічы.

## ПРЫКЛАД IV.

### НАГЛЯДАНЬНІ НАД УЗЬНІМАНЬНЕМ І ЗАМЯРЗАНЬНЕМ РЭК.

Год 1917.

Месца нагляданьняў: в. Краўцова
Акруга: Віцебская
Раён: Сураскі
Сельсавет: Краўцоўскі

Рака „Касьпля“, якая працякае ў 5 клм. ад в. Краўцова, упадае ў р. „Зах. Дзьвіну“, пакрылася лёдам 18 лістапада (нядзеля), узьнялася 21 лістап. (серада), ізноў замерзла 26 лістапада (панядзелак).

Подпіс нагледача: І. Р. Пчолка.

### НАГЛЯДАНЬНІ НАД УЗЬНІМАНЬНЕМ І ЗАМЯРЗАНЬНЕМ АЗЁР, САЖАЛАК І КАНАЛАЎ.

Год 1917.

Месца нагляданьняў: м. Янавічы
Акруга: Віцебская
Раён: Сураскі
Сельсавет: Янавіцкі

Возера „Янавіцкае“, якое знаходзіцца ў 1 клм. ад м. Янавічы, замерзла 15 лістапада (чацьвер), узьнялася 21 лістапада (серада), ізноў замерзла 25 лістапада (нядзеля).

Подпіс нагледача: І. Р. Пчолка.

# Ад Камісіі для ўкладаньня слоўніка жывой беларускай мовы.

У працягу гэтага году ў адказ на „Інструкцыю для зьбіраньня слоўніка-тэрмінолёгічнага матар'ялу ў беларускай мове", выдадзеную Камісіяй для ўкладаньня слоўніка жывой беларускай мовы, у Камісію пачалі паступать і пастпуаюць з розных канцоў Беларусі праз краязнаўчыя організацыі і ад паасобных корэспондэнтаў вельмі карысныя і шматлічныя матар'ялы з запісам слоў, што ўжываюцца ў вуснах народу.

Гэтая акалічнасьць дазваляе Слоўнікавай Камісіі ІБК выказаць удзячнасьць усім краязнаўчым організацыям БССР, а таксама паасобным корэспондэнтам за іх дапамогу ў справе зьбіраньня народнага слоўнікавага матар'ялу.

Спадзяючыся на гэтую дапамогу ў далейшым і маючы на ўвазе давесьці да дасканаласьці слоўнікавую працу дапішчыкаў, Слоўнікавая Камісія лічыць карысным для справы адзначыць у гэтым сваім лісьце недахопы, якія былі заўважаны пры дакладным разглядзе мясцовага карткавага матар'ялу членамі Камісіі, якія зьяўляюцца тыповымі для пэўнага проценту картак.

Да гэтай катэгорыі належаць:

а) Нявытрыманасьць разьмеру карткі, паказанага ў „Інструкцыі да зьбіраньня слоўніка-тэрмінолёгічнага матар'ялу" ў 1/16 долю аркуша звычайнае паперы для пісьма. Часам даюцца карткі большага, а часам меншага разьмераў. Большы разьмер картак ня выклікаецца неабходнасьцю і зьяўляецца проста неэкономным, а наагул нявытрыманасьць разьмеру карткі перашкаджае сыстэматызацыі карткавага матар'ялу.

б) Нячытэльны почарк, якім напісаны некаторыя карткі і недакладны подпіс запішчыка. Нячытэльна напісаныя карткі немагчыма разабраць і іх прыходзіцца адкідваць, а карткі, якія маюць недакладны подпіс (няпоўнае прозьвішча, завітушкі, хвасткі і г. д.) трацяць сваё значэньне пашпарту слова.

Нежаданыя таксама падвойныя подпісы, як прыкладам „Бр. І. і Б. Салановічы".

в) Няправільны запіс беларускага слова ў верхнім левым разу карткі. Супроць паказаньня „Інструкцыі", што іменьнікі і прыметнікі запісваюцца ў назоўным склоне адзіночнага ліку, а дзеясловы — у неазначальнай форме, на некаторых картках іменьнікі і прыметнікі запісаны ў іншых склонах, дзеясловы-ж — у іншых ладох і розных часох і ліках. Няправільны запіс беларускага слова значна абцяжарвае працу рэдактара і часам прымушае адкідаць картку.

г) Няпісьменнасьць запісу перакладаў у расійскую мову гэтак і тлумачэньняў пабеларуску. Часам расійскае слова запісваецца

ў беларускім яго вымаўленьні, а часам, наадварот, беларускае тлумачэньне даецца ў расійскім пісаньні. Зразумела, што бяздакорная граматнасьць запішчыка вымагаецца самай сутнасьцю навуковай слоўнікавай працы.

д) Недакладнасьць прыкладаў, якая выяўляецца ў значнай колькасьці картак. Даюцца прыклады банальныя, не запісаныя з вуснаў народу, часта прыдуманыя самім запішчыкам і прытым няўмела. На іменьнік даюцца прыклады, у якіх няма гэтага іменьніка, а ёсьць прыметнік ад яго, або дзеяслоў таго-ж кораню. На дзеяслоў нескладаны, просты, даецца прыклад з дзеясловам складаным, а трапляецца часам наадварот. Тыповым для значнага процанту картак зьяўляецца ўжываньне ў прыкладах замест іменьнікаў для азначэньня дзейніка займеньнікаў „я“, „ты“, „ён“ і г. д.

Наагул, прыклады павінны даваць не займеньнік, а іменьнік, калі-ж сэнс свой дзеяслоў набывае ад пэўнага злучэньня, дык і гэта злучэньне поўнасьцю. (Напр., кепскі прыклад: „яна відзела яго“, — трэба было-б даць перавагу сказу „Марына відзела свайго бацьку“).

е) Лішнія словы ў мясцовым азначэньні. Замест паказаньня акругі, раёну і вёскі, што вымагаецца „Інструкцыяй“ Камісіі, некаторыя запішчыкі даюць паказаньне сельсавету. Гэтае паказаньне толькі займае месца, нічога не гаворыць і звычайна выкрэсьліваецца Камісіяй.

Выказваючы гэтыя свае ўвагі адносна недахопаў, што былі заўважаны пры дакладным аналізе мясцовага карткавага матар‘ялу, Слоўнікавая Камісія просіць краязнаўчыя організацыі і паасобных корэспондэнтаў трымацца ўзору карткі, дадзенага ў „Інструкцыі“ Камісіі, не зважаючы ні на якія ўзоры, дадзеныя ў іншых выданьнях, і спадзяецца, што яе ўвагі за дапамогаю Цэнтральнага Бюро і мясцовых краязняўчых організацый паспрыяюць палепшаньню слоўнікавай працы на мясцох, якая цяпер разьвінулася ў розных канцох Беларусі.

Навуковы Сакратар Слоўнікавай Камісіі М. Байкоў.

---

# ХРОНІКА.

## Дзейнасьць Прэзыдыуму ЦБК.

(З протоколаў паседжаньняў).

Паседжаньне 21 верасьня. Т. Казак рабіў інформацыю аб Калінінскай Акруговай Конфэрэнцыі. Пры азнаямленьні з агульным становішчам краязнаўчай справы на Калініншчыне выявілася, што краязнаўчая справа пачалася ў лютым 1925 г., але не ўва ўсіх раёнах разгарнулася добра. Найвялікшы пасьпех справа мае ў Расьнянскім, Чэрыкаўскім і Касьцюковіцкім раёнах, у іншых раёнах акругі справа ідзе горш. На Кофэрэнцыі дадзены належныя ўказаньні наконт узмацненьня краязнаўчай справы.

Паседжаньне 29 верасьня. Абгаварваліся пытаньні аб наладжаньні краязнаўчай справы сярод яўрэйскай нацыянальнасьці і сярод студэнтаў БДУ. Па першым пытаньні даклад рабіў ад яўаддзелу ІБК т. Аляксандраў. Па дакладзе прыняты:

1. Утварыць пры ЦБК яўрэйскую краязнаўчую сэкцыю для кіраўніцтва краязнаўчай працай сярод яўрэйскага насельніцтва БССР, плян якой разглядаецца яўаддзелам ІБК і зацьвярджаецца ЦБК.

2. Організаваць яўсэкцыі пры мясцовых краязнаўчых таварыствах у вакруговых цэнтрах і ў іншых буйных пунктах БССР. У першую чаргу організаваць яўсэкцыю пры Менскім акруговым таварыстве краязнаўства.

3. Зьвярнуцца з адозвай да яўрэйскіх культурных працаўнікоў аб неабходнасьці ўзмацненьня працы па зьбіраньні краязнаўчых матар'ялаў, якія датычны яўрэйскага насельніцтва БССР; аб прыняцьці актыўнага ўдзелу ў агульна-краязнаўчай працы на мясцох.

4. Перакласьці на яўрэйскую мову і надрукаваць у часопісе „Наш Край" інструкцыі па зьбіраньні краязнаўчых матар'ялаў, прыстасаваўшы іх да асаблівасьцяй мовы, быту, экономікі і культуры яўрэйскага насельніцтва.

5. Вясьці далей працу па соцыяльна-экономічным абсьледваньні мястэчак Асіпавіцкага раёну, а таксама прыняць удзел у працы па абсьледваньні мястэчак у тых раёнах, якія вывучаюцца іншымі акруговымі таварыствамі.

6. Прыняць меры да распрацоўкі і апублікаваньня матар'ялаў па статыстыцы, дэмографіі і фольклёры яўрэйскага насельніцтва БССР, якія ёсьць у ІБК, шляхам выпуску спэцыяльнага выданьня ці надрукаваньня ў выданьні яўаддзелу „Цайтшрыфт".

7. Прыняць меры да організацыі санітарна-мэдычнага дасьледваньня местачковага насельніцтва.

8. Прыняць удзел у працы па агульным перапісе насельніцтва згодна з указаньнямі ЦБК.

9. Зьвярнуць увагу на неабходнасьць вывучэньня асаблівасьцяй прыроды, экономікі, быту яўрэйскіх земляробскіх паселішч БССР.

10. Прыняць меры да азнаямленьня шырокіх колаў БССР з дасягненьнямі ў галіне краязнаўчай сярод яўрэйскай насельнасьці шляхам надрукаваньня адпаведных матар'ялаў у часопісе „Наш Край" і ў газэтах.

Па другім пытаньні аб краязнаўчай працы сярод студэнцтва БДУ

рабіў справаздачу сакратар Т-ва— т. Улашчык. Па дакладзе адзначана, што краязнаўчая справа сярод студэнцтва не разгарнулася належным чынам: у краязнаўчую працу мала ўцягнута студэнтаў, адсутнічае ўвязка краязнаўчай працы з вучэбнымі програмамі і няма сувязі з ЦБК. У мэтах наладжаньня справы прынята: 1) правясьці кампанію па популярызацыі краязнаучай справы і ўцягненьні ў яе шырокіх колаў студэнцтва; 2) устанавіць сьціслую сувязь т-ва з ЦБК, прымацаваўшы для накіраваньня справы прадстаўніка ЦБК т. Касьпяровіча; 3) наладзіць увязку краязнаўчай працы з вучэбнымі програмамі; 4) перавесьці краязнаўчую працу на плянавы напрамак, зьвярнуўшы ўвагу на ўнясеньне ў плян пытаньняў па дасьледчай працы; 5) у справе вывучэньня г. Менску ўвязацца з Менскім Акр. Таварыствам Краязнауства; 6) высьвятляць краязнаўчую працу сярод студэнцтва ў часопісе „Наш Край".

## Праца Менскага Акр. Т-ва.

У даны момант Менская Акруговая Краязнаўчая організацыя налічвае 598 членаў па акрузе. Па партыйным складзе організацыя мае 17 членаў КПБ і ЛКСМ, а ўсе беспартыйныя—сябры профсаюзаў і, галоўным чынам, саюзу Працаўнікоў Асьветы.

Краязнаўчая праца па Меншчыне пачынае разгортвацца, асабліва, у вапошні час, пачынаючы з верасьня месяца.

Першае пасяджэньне ініцыятыўнай групы адбылося яшчэ ў траўні 1925 г. На гэтым пасяджэньні было абабрана Акруговае Праўленьне з гарадзкіх сяброў Т-ва, ня маючы ніякага прадстаўніцтва ад раёнаў. Абранае Праўленьне паставіла перад сабой задачу выдаць зборнік „Меншчына". Але практычна справа не пашыралася далей. Праўленьне таксама адчувала сябе не „Акруговым" і пастанавіла склікаць Акруговую Краязнаўчую Конфэрэнцыю, але справа далей не пашыралася. На сваім пасяджэньні 6 верасьня г. г. Праўленьне сябе распусьціла і пад кіраўніцтвам Інбелкульту організавала часовае Праўленьне, перад якім паўстала задача стварэньня Акруговай Менскай Краязнаўчай організацыі. Для гэтага часовае Праўленьне зрабіла наступнае:

З 12 верасьня па 1 кастрычніка амаль што ва ўсіх раёнах (за выключэньнем 2) ,былі праведзены Раённыя Краязнаўчыя Конфэрэнцыі з мэтай высьвятленьня задач краязнаўства і організацыйнага афармленьня раённых таварystваў. Гэта задача была выканана: на 10 кастрычніка мы мелі амаль што ўсюды афармленыя краязнаўчыя організацыі. На 10 кастрычніка часовым Праўленьнем была склікана Акруговая Конфэрэнцыя. На Акруговай Конфэрэнцыі былі прадстаўлены ўсе раёны Меншчыны. На Конфэрэнцыі адчувалася, што маса ў раёне вырасла стыхійна, а Конфэрэнцыя павінна была організаваць гэту стыхійнасьць і накіраваць па правільнай плыні.

На Акруговай Конфэрэнцыі разглядаліся такія пытаньні:

1) Справаздача Часовага Праўленьня і судаклад Узьдзенскага Раённага Таварыства.

2) Чарговыя задачы краязнаўчай працы.

3) Плян працы на зімовы пэрыод.

4) Школа і краязнаўчая праца.

5) Выбары Праўленьня і Рэвізыйнай Камісіі.

Як даклады, так і спрэчкі прайшлі вельмі жыва. Асаблівая зацікаўленасьць з боку Конфэрэнцыі была выяўлена да дакладу „Школа і Краязнаўчая праца". Дакладчык па гэтым пытаньні тав. Шапялевіч вельмі яскрава і практычна растлумачыў краязнаўчую працу ў школе, прывёўшы цэлы шэраг прыкладаў з дасягненьняў Менскай дасьледчай школы. Зацьверджаны плян працы

мае на ўвазе, галоўным чынам, практычны ўхіл і таксама ўцягненьне ў краязнаўчую працу ня толькі інтэлігенцыі, а і шырокіх колаў сялянства. Конфэрэнцыя таксама адзначыла слабасьць працы ў горадзе Менску, а ў далейшым дала напрамак уцягнуць у краязнаўчую працу шырокія колы рабочых.

У спрэчках дэлегаты з месц адзначылі слабы ўдзел партыйцаў і комсамольцаў у краязнаўчай працы, таксама было зазначана, што Койданаўскі комсамол зьяўляецца перадавым актывам у краязнаўчай арганізацыі.

Бяручы, як спробу, Узьдзенскую краязнаўчую організацыю, Конфэрэнцыя лічыць патрэбным арганізаваць Раённыя Краязнаўчыя Музэі, а люстрам усёй акругі павінен быць Акруговы Музэй, які Конфэрэнцыя лічыць неабходным організаваць пры Цэнтральным Музэі, вылучыўшы адпаведныя экспонаты і памяшканьне.

Конфэрэнцыя abабрала сталае Акруговае Праўленьне з 11 сяброў і 4 кандыдатаў. У склад Праўленьня ўвайшлі таксама і члены Інбелкульту, што дасьць магчымасьць трымаць блізкую сувязь як з ЦБК, так і наогул з Інбелкультам. Конфэрэнцыя паказала, што ўмовы для краязнаўчай працы ёсьць, актыў для гэтай працы таксама ёсьць, а гэта сьведчыць, што пастанову ЦБК аб тым, каб Менскае Краязнаўчае Таварыства было ўзорным, Т-ва выканае.

Новае Праўленьне прыступіла да канчатковага афармленьня некаторых раённых таварыстваў, якія яшчэ не аформіліся, а таксама і да выкананьня практычных заданьняў усімі раённымі таварыствамі. Праўленьне вядзе падрыхтоўчую працу да выданьня зборніка „Меншчына“.

У гэтай працы трэба прыняць удзел усім савецкім і профэсыянальн. органам Меншчыны. Тут патрэбна ня толькі прадстаўленьне таго ці іншага матар'ялу, а і грашовая дапамога. В. Серафімаў.

## Праца Калінінскага Акруговага Т-ва Краязнаўства.

Краязнаўчая праца ў Калініншчыне пачалася ў сьнежні м-цы 1924 г. Ад 1924 году да другое Акруговае Краязнаўчае Конфэрэнцыі, якая адбылася 15-16 верасьня 1926 г., часу прайшло ня многа, а ў працы можна адзначыць некаторыя этапы яе.

У сьнежні месяцы 1924 г. была вызначана тройка ў складзе т. т.: Аніхоўскага, Садоўскага і Бакшылава, якім даручана было заняцца організацыяй краязнаўчай справы і прыступіць да практычнае працы. У пэрыодзе падрыхтоўкі былі выяўлены сілы, асабліва ў раёнах, на якіх можна было ўскласьці распачатак краязнаўчае працы, і падлічаны сілы гораду. Уся гэтая справа зацягнулася да лютага месяца 1925 г.

10-га лютага 1925 г. быў склікан сход усіх культурных сіл гор. Клімавіч, на які зьявілася 118 асоб розных профэсій. На гэтым сходзе тав. Аніхоўскі зрабіў даклад—„Краязнаўчая праца, яе значэньне і вартасьць“. Пасьля дакладу праведзена рэгістрацыя жадаючых уступіць у краязнаўчую організацыю. Усяго ўступіла 65 асоб. Усе настаўнікі, частка дактароў і аграномаў.

Гэты лік сяброў і быў першай ініцыятыўнай групай па пашырэньні краязнаўчых організацый і працы. Там-жа было абрана Акруговае Праўленьне Калінінскага Краязнаўчага Таварыства ў ліку 7 асоб і 2-х кандыдатаў.

У склад часовага праўленьня ўвайшлі: Аніхоўскі А. Ю., Садоўскі Ф., Бакшылаў, Кузьма, Хоцкі, Ільлін і кандыдатамі Нікіценка і Матусевіч, а таксама абрана была рэвізійная камісія ў ліку 3-х асоб і 2 кандыдатаў—пэрсанальна: Макарэвіч М., Пярштэйн і Місьнікаў і кандыдатамі Ляўкевіч Мацей і Піскун Г.

Дырэктыўнае кіраўніцтва. Абгаварыўшы ўсебакова далейшы напрамак краязнаўчае працы, Праўленьне склала на першае паў-

годзьдзе 1925 году наступны плян працы:

1) Прыняць меры да аховы помнікаў старасьветчыны, будынкаў, замчышч, правесьці вучот курганоў і дабіцца іх поўнай аховы, спыніўшы самавольныя раскопкі без спэцыялістых і асобага дазволу Інбелкульту.

2) Прыняць меры да організацыі па ўсіх раёнах краязнаўчых таварыстваў, дзеля чаго высунуць ўпаўнаважаных Акруговага Таварыства, па адным на кожны раён і ўцягнуць у гэту працу ўсе культурныя сілы раёну.

3) Правесьці раскопкі пад будынкам турмы, узгадніўшы гэтую справу з ЦБК.

4) Увайсьці ў зносіны з ЦБК аб забясьпечаньні сяброў краязнаўчых таварystваў патрэбнай краязнаўчай літаратурай, хоць-бы за асобныя сродкі кожнага сябра таварыства.

5) Зрабіць поўны вучот усіх культурных сіл акругі для прыцягненьня ў працу краязнаўчых організацый.

6) Для большай пляновасьці і ўвязкі ў працы наладзіць сувязь з другімі акруговымі краязнаўчымі таварыствамі.

7) Пасьля заснаваньня раённых краязнаўчых таварыстваў і выяўленьня культурных сіл, склікаць акруговую крязнаўчую конфэрэнцыю.

8) Дабіцца перад Прэзыдыумам АВК водпуску сродкаў на розныя патрэбы, а пры складаньні каштарысу на будучы год уключыць у мясцовы бюджэт выдаткі на краязнаўчую працу.

У выкананьне гэтага пляну § 2 Акр. Праўленьне Краязнаўчага Таварыства ўвайшло ў згоду з усімі загадчыкамі Раённых Аддзелаў Народнае Асьветы, і апошнія былі ўведзены ў склад Акр. Краязнаўчага Таварыства і былі ўпаўанаважанымі па організацыі раённых таварыстваў.

Склад упаўнаважаных па некаторых раёнах быў павялічан да 2-х асоб. Па раёнах пэрсанальна былі замацаваны наступныя таварышы: 1) Бялынкавіцкага — Сярэбранікаў, 2) Хоцімскага — Ягораў і Глінскі, 3) Касьцюковіцкага—Сьцяпура і Мікалаеў, 4) Краснапольскага—Ламнеў і Шашалевіч, 5) Чэрыкаўскага—Пшанічны, 6) Крычаўскага—Юшкевіч і Ўрублеўскі, 7) Клімавіцкага—Бурак, 8) Мілаславіцкага—Маслакоў і Фралоў, 9) Расьнянскага—Шыманскі, 10) Мсьціслаўскага—Бабарэка і Фурсэвіч. Гэта—першыя асобы, якія пачалі варушыць краязнаўчую працу.

### Заснаваньне раённых краязнаўчых організацый.

Ня ўсе раёны акругі аднолькова прыняліся за працу і ўтварэньне краязнаўчых організацый у сваім раёне. Некаторыя раёны адразу ўзяліся за гэту справу шчыра і старанна, як Расьнянскі, Чэрыкаўскі, Хоцімскі, Краснапольскі, Касьцюковіцкі, Крычаўскі, Мілаславіцкі, а пасьля організацыйнага афармленьня некаторыя з іх працы ўперад не пасоўвалі. Адным з выдатнейшых раёнаў па акрузе зьяўляецца Расьнянскі. Выдатнасьць яго, галоўным чынам, выяўляецца ў тым, што краязнаўчаю працаю зацікавіліся ня толькі настаўніцтва і сямігодкі, а ўсе працаўнікі раёну. Нельга не ўпамянуць аб актывістых гэтага раёну—гэта сакратар Райкому КПБ т. Міцькоў, Старшыня Райвыканкому—Князеў, Заг. РАНА—Шыманскі, усё настаўніцтва сямігодкі і асабліва т. Пакроўскі, якія, стаўшы організатарамі, змаглі ўцягнуць усе культурныя сілы раёну. У другіх раёнах гэтага ня было, там была доўгі час індывідуальная адрозьненасьць і адказнасьць толькі раённага ўпаўнаважанага па краязнаўчай працы, актывістымі якой зьяўляліся загадчыкі або настаўнікі сямігодак. Другія раёны рабілі патугі разгарнуць працу, але ў іх справа ішла вельмі павольна.

Спачатку вярбоўка сяброў у краязнаўчыя таварыствы праходзіла мэханічна. Заслухоўваўся даклад на

раённай настаўніцкай конфэрэнцыі, пасьля, хто хацеў запісваўся ў члены раённага краязнаўчага таварыства.

Па ўсёй акрузе на 1/X—25 г. налічвалася 684 члены, якія па раёнах разьмяркоўваліся наступным чынам: Бялынкавіцкі—60 чл., Расьнянскі—50, Касьцюковіцкі—85, Клімавіцкі—58, Мсьціслаўскі—160, Крычаўскі — 47, Краснапольскі—24, Чэрыкаўскі—33, Мілаславіцкі—63, Хоцімскі—30 і гор. Клімавічы—65 членаў.

1) Узяты на вучот і ахову ўсе помнікі старасьветчыны, курганы, замчышчы і г. д.

2) Высачаны гнёзды баброў на рэчках Сожу і Лабжанцы і ўстаноўлена пэўная ахова іх.

3) Складзены 3-х версныя карты ў 6 раёнах з адзнакамі глебы, лясістасьці, забалочанасьці і інш.

4) Заснаваны сэкцыі пры раённых кр. т-вах для вывучэньня мястэчак.

5) Пачалося ўсебаковае вывучэньне Расьнянскага раёну.




**Практычная праца краязнаўчых організацый.**

Практычная праца ўсіх раённых краязнаўчых організацый разгортвалася па трох галоўных напрамках, згодна існуючым сэкцыям: гістарычна-археолёгічнай, мовазнаўчай і прыродазнаўча-экономічнай. Шырака разгарнулася і вялася праца па гісторыка-археолёгічнай і мовазнаўчай сэкцыі і толькі ў некаторых раёнах пачата прыродазнаўча-экономічнае вывучэньне свайго раёну.

Раённыя таварыствы краязнаўства за ўвесь час працы зрабілі наступнае:

6) Па фольклёры сабрана шмат матар'ялаў, хаця ня ўсе раёны іх даставілі цалкам, але іх можна характарызаваць наступным:

1) песен — 2.489, 2) прыпевак—2023, 3) казак—138, 4) загадак—207, 5) замоў—147, 6) слоў жывой мовы—6.256, 7) старасьвецкіх монэт—1.484, 8) тканіны—576, 9) гэрбарыяў мясц. лекавых расьлін—268, 10) запісаў гістарычных падзей—31.

У вакруговым цэнтры—г. Клімавічах заснаваны акруговы музэй, які адчынены з 30 ліпня 1926 г.

Апроч акруговага музэю, ёсьць музэі ў Мсьціслаўскім і Расьнянскім раёнах. Мсьціслаўскаму перададзена царква, якая мае гістарычную вартасьць па сваёй архітэктуры і росьпісах.

Лік сяброў краязнаўчых таварystваў.

| №№ | НАЗВА ТАВАРЫСТВА | Агульны лік сяброў | З іх | | | Беларус. | Я ў р. | Інш. нац. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | парт. | комс. | беспарт. | | | |
| 1 | Расьнянскае . . . . | 42 | 3 | 7 | 32 | 40 | 2 | — |
| 2 | Мсьціслаўскае . . . | 140 | 4 | 1 | 135 | 132 | 7 | 1 |
| 3 | Мілаславіцкае. . . . | 40 | 2 | — | 38 | 37 | 2 | 1 |
| 4 | Клімавіцкае . . . . | 58 | 5 | 5 | 48 | 54 | 4 | — |
| 5 | Крычаўскае . . . . . | 77 | 3 | — | 74 | 75 | 2 | — |
| 6 | Бялынкавіцкае . . . | 22 | 1 | 1 | 20 | 22 | — | — |
| 7 | Чэрыкаўскае . . . . | 62 | 5 | 2 | 55 | 49 | 4 | 9 |
| 8 | Хоцімскае . . . . . | 46 | 6 | 5 | 35 | 40 | 6 | — |
| 9 | Краснапольскае . . . | 44 | — | — | 44 | 42 | 2 | — |
| 10 | Касьцюковіцкае . . . | 87 | 4 | — | 83 | 85 | 2 | — |
| 11 | г. Клімавічы . . . . | 98 | 29 | 15 | 54 | 78 | 15 | 5 |
| | Ува ўсіх т-вах разам. . | 716 | 62 | 36 | 618 | 654 | 46 | 16 |

Па акрузе існуе яшчэ 12 краязнаўчых гурткоў пры сельсаветах, якія аб'ядноўваюць 130 сяброў і 12 гурткоў пры школах-сямігодках з лікам 540 сяброў, а ўсіх наагул сяброў на акрузе 1392.

### Сувязь Акруговага Краязнаўчага Таварыстба з краязнаўчымі організацыямі другіх акруг і з мясцовымі ўстановамі.

З часу пашырэньня краязнаўчай працы ў Калініншчыне і ўтварэньня Акруговага Праўленьня ў плян працы ўнесен быў пункт наладзіць сувязь з іншымі краязнаўчымі організацыямі для абмену практыкай працы. Удалося зьвязацца і абмяняцца плянамі працы і протоколамі пасяджэньня з Магілеўскай, Аршанскай, Віцебскай краязнаўчымі організацыямі, але гэта сувязь была нядоўгатэрміновай і ў апошні час зусім адсутнічае, апроч Горацкае С.-Г. Акадэміі. У сучасны момант прыслан прадстаўнік з С.-Г. Акадэміі для экономічнага дасьледваньня становішча сялянскіх гаспадарак і зараз накіроваан у Расьнянскі раён. З боку акруговых установ адчуваюцца спрыяючыя адносіны да краязнаўчай працы і выдаецца аднавчасовае матар'яльнае падтрыманьне Акруговым Выканаўчым Камітэтам.

### Інструктаж і Кіраўніцтва Раённымі Краязнаўчымі Таварыствамі.

У мэтах ажыўленьня краязнаўчае працы па раёнах на працягу гэтага часу адбыліся дзьве інструкцыйныя нарады старшынь раённых краязнаўчых таварыстваў 28/I—26 г. і 26/VII—26 г., а 15 верасьня г. г. адбылася Акруговая Краязнаўчая Конфэрэнцыя, на якой быў прысутным прадстаўнік ЦБК Нам. Старшыні т. Казак і прадстаўнік Горацкага краязнаўчага Таварыства С.-Г. Акадэміі т. Гудзіліна. Акруговым Праўленьнем абгледжаны ўсе раённыя таварыствы і дасканала абсьледваны Расьнянскае і Касьцюковіцкае таварыствы. На Акруговых настаўніцкіх курсах было адведзена 8 гадзін лекцыйных і в практычных заняткаў па краязнаўству.

З боку Акругкому КПБ у вапошні час даны належныя дырэктывы па ўсіх Райкомах КПБ аб актыўным удзеле партыйцаў у краязнаўчай працы.

Трэба спадзявацца, што пры тэй зацікаўленасьці краязнаўствам, якая назіраецца ў апошні час ва ўсёй Калініншчыне, справа гэта будзе палепшана ва ўсіх раёнах.

## Праца Расьнянскага Раённага Краязнаўчага Т-ва.

Т-ва стварылася 17 красавіка 1925 г. З самага пачатку большасьць організацый (як і цяпер) складалася з настаўніцтва. Першым старшынёй праўленьня быў абраны настаўнік сямігодкі, але ўжо тады партыйнае кіраўніцтва было: сакратар Райкому т. Міцькоў быў у складзе праўленьня.

Т-ва паставіла сваёй мэтай популярызацыю краязнаўчай працы сярод профсаюзаў і сялянства, дзеля чаго на агульных сходах рабіліся спэцыяльныя даклады аб Краязнаўчым Т-ве. У далейшай працы прышлося ўцягнуць комсамольцаў, дзеля чаго была зроблена пастанова аб вызваленьні комсамольцаў сялян, якія ўступаюць у Т-ва, ад сяброўскіх узносаў. Але да гэтага часу лік комсамольцаў у Т-ве нязначны: усяго 6% комсамольскай райорганізацыі.

У сваёй працы Т-ва не магло абмінуць і школ, для чаго быў вызначаны напрамак: утварыць пры школах гурткі прыхільнікаў Т-ва, для вучняў-сяброў Т-ва пакінуць толькі ўступныя ўзносы, але грошы заставіць пры школе для разгортваньня краязнаўчае працы.

Зараз склад Т-ва наступны: настаўнікаў—41, сяброў іншых саюзаў—4, сялян—18. Па партыйнасьці: сяброў і кандыдатаў КПБ—5, комсамольцаў—19. Апроч таго, пры большай частцы 2-х комплектавых школ існуюць гурткі прыхільнікаў Т-ва.

### Мэтод працы.

Праўленьне Т-ва для высьвятленьня жыцьця раёну давала невялікія, але зусім пэўныя заданьні сябром Т-ва і асобным ячэйкам. Заданьні, выходзячы з агульнага раённага пляну, ня зусім прыстасоўваліся да асаблівасьцяй сельсаветаў і, як вынік гэтага, некаторыя сябры ня выконвалі заданьняў, бо лічылі іх мала карыснымі. З другога боку, пэўнасьць заданьняў звужвала магчымасьць для таго ці іншага сябра вывучаць спэцыфічныя ўмовы свайго сельсавету, вёскі і. г. д. Такім чынам, Праўленьню прыходзілася лічыцца з неабходнасьцю пагодзіць агульны плян працы з магчымасьцямі і здольнасьцямі аддзельных сяброў Т-ва.

### Актыўнасьць і плянавасьць.

Практычная праца выхавала пэўны, хоць і невялікі актыў—10-15 чалавек. Гэта не азначае, што іншыя сябры не вядуць працу. Усе сябры ўцягнуты ў працу. Праўленьне выпрацоўвала пляны, якія цалкам праводзіліся ў жыцьцё.

### Літаратура, сувязь і кіраўніцтва.

За выключэньнем тэй літаратуры, якая атрымоўвалася ад Акруговага Т-ва і ЦБК, сябры Т-ва куплялі кніжкі, неабходныя для краязнаўчай працы. Бібліотэка Раённага Т-ва зусім бедная. Інструкцый і анкет не хапае і дзеля гэтага значная частка іх ня была праведзена ў жыцьцё. Кіраўніцтва з боку Акруговага Т-ва (пісьмовае) было, а жывая сувязь амаль што адсутнічала. Прадстаўнік ЦБК заглядаў 2 разы. Райпраўленьне зрабіла Акрпраўленьню 2 справаздачы.

### Вучот працы і высьвятленьне яе ў друку.

Вучот кульгаў, хоць Праўленьне вымагала, каб сэкцыі і асобныя таварышы выконвалі заданьні к пэўнаму часу і вынікі сваёй працы ў пісьмовай форме давалі на разгляд райпраўленьня, якое альбо прызнае заданьне выкананым альбо аддае яго на пераапрацоўку. Наогул, пісьмовы вучот працы кепскі. Спэцыяльных корэспондэнтаў ня было вызначана і праца ў друку мала высьвятлялася.

### Бюджэт

Усяго за час існаваньня Т-ва на прыход паступіла 91 р. 65 к., з якіх сяброўскіх і ўступных узносаў—46 р., астатнія грошы—дапамога РВК і копэрацыі. Выдаткі рабіліся выключна на гаспадарчыя патрэбы.

### Што зроблена Т-вам.

Адбылося 4 конфэрэнцыі сяброў Т-ва і шмат пасяджэньняў Праўленьня. Існуюць наступныя сэкцыі: 1) экономічна - прыродазнаўчая, 2) гісторыка-археолёгічная, 3) мовазнаўчая і 4) яўрэйская.

Па экономічнай сэкцыі зроблена: 1) насьценная этнографічная карта Беларусі, 2) схэматычная карта Расьнянскага раёну—вярстоўка, 3) карта лясоў раёну, 4) карта глеб, 5) карта саматужных вырабаў раёну, 6) плян м. Расны, 7) карта плотнасьці насельніцтва Калінінскай акругі, 8) дыяграмы, высьвятляючыя становішча сельскай гаспадаркі па раёне (колькасьць зямельных плошчаў, разьмеркаваньне зямлі па асобных гаспадарках, скарыстоўваньне зямлі, становішча садоў, гародоў, пчалярства і г. д.), 9) узоры лёну і канапель, 10) мэтэоролёгічныя назіраньні, пачынаючы з 17 лістапада 1925 г., 11) ботанічная колекцыя (250 відаў), 12) колекцыя лекавых расьлін.

Па гісторыка-археолёгічнай сэкцыі: 1) сабраны веды адносна курганоў, складаецца карта курганоў па раёне, 2) колекцыя монэт, пачынаючы з часоў Пятра I і канчаючы монэтамі Савецкай улады, 3) колекцыя беларуска-літоўскіх монэт (скарб, які знойдзен у вёсцы Юшкавічы), якая перададзена Дзяржаўнаму Музэю, 4) колекцыя чужаземных монэт і монэт белагвардзейскіх урадаў, 5) 400 узораў сялянскай тканіны. Узоры былі пасланы на Ўсебеларускую мастацкую выстаўку і дагэтуль ня зьвернуты.

Па мовазнаўчай сэкцыі сабрана каля 400 сьпеваў, 84 замовы. Праўда, навуковая вартасьць іх невялікая, бо яны запісаны ня так, як гавораць, а як патрабуе правапіс, альбо як здавалася запішчыкам.

Яўрэйская сэкцыя толькі нядаўна створана і праца толькі распачынаецца.

Усе матар'ялы, сабраныя сэкцыямі, знаходзяцца ў Раённым Краязнаўчым Музэі, які адчынены 28 верасьня 1925 г.

## 3-я Расьнянская Раённая Конфэрэнцыя.

28 верасьня г. г. у м. Расьне адбылася Раённая Краязнаўчая Конфэрэнцыя. У час гэтай Конфэрэнцыі пры ўдзеле ўсіх сяброў Т-ва, прадстаўнікоў партыі, комсамолу і савецкіх устаноў урачыста быў адчынены Раённы Краязнаўчы Музэй. Гісторыя стварэньня Музэю цікава тым, што ён з'організаваўся колектыўнай працай савецка-грамадзянскіх устаноў раёну: Райвыканком адвёў будынак пад Музэй і даў грашовую дапамогу, такую-ж дапамогу далі РайКСУ і Спажывецкае Т-ва; настаўніцтва, вучні і актыў Т-ва напоўнілі Музэй экспонатамі.

Конфэрэнцыя абрала загадчыка Музэю. Асноўным пытаньнем, якім займалася Конфэрэнцыя, было абмеркаваньне пляну працы Т-ва на асеньні і зімовы пэрыод 1926-27 г. Плян, які зацьвердзіла Конфэрэнцыя, абхоплівае наступныя бакі краязнаўчай працы: 1) організацыйную працу, 2) працу па вывучэньні жыцьця раёну, 3) працу ў ячэйках пры сельсаветах і 4) індывідуальную працу сяброў Т-ва.

Плян організацыйнай працы мае такія заданьні: 1) стварэньне краязнаўчага гуртка пры кожным сельсавеце, 2) павялічэньне складу Т-ва шляхам уцягненьня ў краязнаўчую працу вясковага актыву і жаночын дэлегатак і 3) сталую пастаноўку краязнаўчай працы ў кожнай 2-х комплектавай школе.

Плян працы па вывучэньні жыцьця раёну разьмяркоўвае працу па сэкцыях: 1) экономічнай (скла-

даньне анкеты бюджэту часу селяніна, вывучэньне тэхнікі сельскай гаспадаркі), 2) мовазнаўчай (складаньне слоўніка жывой мовы), 3) географічнай (прыродазнаўчай), 4) гістарычна-архэолёгічнай (гісторыя 3-х вёсак кожнага сельсавету) 5) яўрэйскай.

Праца ў ячэйках, згодна пляну, павінна праводзіцца на грунце асаблівасьцяй кожнай ячэйкі. Па пляне дадзены заданьні 6 ячэйкам. Аднэй ячэйцы — вывучыць саматужніцтва на яе тэрыторыі, другой—малочнае Т-ва, трэцяй—Цёмна-Лескі завод і г. д.

Урэшце, па пляне намечаны заданьні па вывучэньні раёну паасобнымі сябрамі Т-ва. Так, напр., 12 сяброў Т-ва павінны вывучыць: 1) быт насельніцтва, 2) гісторыю вёскі Умырак, 3) Лясы Расьняншчыны, 4) піонэррух, 5) 1905 год на Расьняншчыне і г. д.

Згодна гэтаму орыентовачнаму пляну Конфэрэнцыя даручыла Райбюро скласьці каляндарны плян працы ў бюро і ячэйках.

## Клімавіцкі Акруговы Музэй.

30-га ліпня г. г., пасьля сямімесячнай працы, Клімавіцкі Акруговы Музэй быў адчынены для шырокіх мас. Да 1919 г. у Клімавічах існаваў нейкі музэй, але ад яго нічога не засталося і няма жадных дакумантаў, куды ён падзеўся, толькі некаторыя экспонаты сьведчаць аб тым, што музэй некалі існаваў. Гэтыя экспонаты прышлося часткамі зьбіраць для стварэньня музэю ў Клімавічах.

У сучасны момант Музэй адчынены з 5 аддзеламі: Зоолёгічным, Архэолёгічн., Гістарычным, Нумізматычным і Мастацкім. Маюць быць адчынены яшчэ рэлігійны і краязнаўчы, калі дазволяць сродкі і калі будзе прадстаўлена новае памяшканьне пад музэй.

Зоолёгічны аддзел складаецца з колекцый чучал, птушак і зьвяроў мясцовага краю і інш.

Архэолёгічны аддзел мае сярэднявяковыя кальчугі, панцыры, рознага роду зброю, прадметы з раскопак курганоў—як раённых, так і Клімавіцкіх — бусы, сергі, кольцы, луньніцы, бляшкі, вісочныя кольцы, шыйныя абручы, скрабкі крамнёвыя, долаты, тапары і інш. прадметы грунтовага славянскага пахаваньня нябожчыкаў. У гэтым аддзеле ёсьць клык маманта, зубы маманта, акамянеласьці морскага дна з водціскам морскіх ракушак і жывёл, потым бронзавыя статуэткі культу Эгіпту, Азірыса, Лунуса, Апіса і інш. і колекцыя мінэраляў усіх парод.

Гістарычны Аддзел: Бронзавыя бюсты правіцеляў і дыктатараў Рыму, польскіх палкаводцаў і інш.

Нумізматычны Аддзел: колекцыя монэт як расійскіх, так і чужаземных дзяржаў і рэспублік, а таксама колекцыя папяровых грошай.

У Мастацкім Аддзеле ёсьць старыя францускія гравюры з малюнкаў маст. Вернэта банальнага зьместу, старажытныя портрэты і віды, а таксама малюнкі біблійнага зьместу, фототыпы з карцін маст. Семірадзкага і інш. Апроч гэтага аддзел дэкараваны мастацкімі фарфаравымі саксонскімі вазамі, такімі-ж лямпамі і бронзавымі старажытнымі кандэлябрамі і гіпсавымі бюстамі.

Апроч вышэйпамянёнага, ёсьць рукапісы на польска-беларускай мове, на польскай мове, альбомы з фотографічнымі карткамі 30, 40, 50, 60 гадоў і невялічкая бібліотэчка кніжак.

Усіх музэйных экспонатаў да 1000, але музэй павялічваецца новымі экспонатамі, якія паступаюць ад грамадзян і сялян—асабліва старажытныя монэты і мэдалі.

Музэй знаходзіцца ў цэнтры гораду, па Савецкай вул. Будынак вельмі стары, без падвойных рам і з папсаванымі печамі, у якіх нельга зімой паліць, дзеля чаго памяшканьне сырое і халоднае.

Музэй адчынен для насельніцтва бясплатна.

Ад 1-га жніўня па 1-ае кастрычніка ў Музэй наведалася 3.909 асоб. Апроч гэтых наведваньняў вядзецца асобная рэгістрацыя экскурсій комсамолу, піонэраў і вучняў.

## Праца Хоцімскага Раённага Т-ва.

Раённае Таварыства ўтварылася ў сакавіку месяцы 1925 г. У склад Таварыства ўвайшлі ўсе настаўнікі Хоцімскага раёну, краязнаўчы гурток (вучнёўскі) пры бел. сямігодцы.

За год працы Т-ва актыўна працаваў гурток сямігодкі, які і даваў матар'ялы па краязнаўству, а рэшта сяброў, за невялікім выключэньнем, ніякай актыўнасьці ня выявілі. У зьвязку з гэтым, у сакавіку месяцы 1926 г. была зроблена перарэгістрацыя сяброў Т-ва, з мэтай уцягненьня ў склад яго больш актыўных сяброў.

Пасьля перарэгістрацыі ў Т-ве налічваецца 44 сябры. Апрача гэтага, Раённае Т-ва ахоплівае 3 гурткі: 1) пры сямігодцы —59 сяброў, 2) пры яўрэскай сямігодцы і лясьніцтве—6 сяброў, а ўсяго ў Т-ве 109 асоб. Праўленьне складаецца з 7 асоб. Ёсьць наступныя сэкцыі: 1) моваэнаўчая, 2) гісторыка-архэолёгічная, 3) прыродазнаўчая і 4) яўрэйская падсэкцыя.

За ўвесь час сабрана песен—1.341, прыпевак—1.952, казак—27, загадак—183, загавораў—108, слоў жывой мовы—840. Колекцыя тканін—115 узораў.

Было зроблена апісаньне мясцовай саматужнай прамысловасьці.

Сабрана нумізматычная колекцыя, якая складаецца з 125сярэбраных монэт XVI, XIX ст. ст. і 74медных—XVII, XVIII ст. ст., каменныя тапары і інш.

Апрач гэтага, краязнаўчым гуртком пры беларускай сямігодцы ў сакавіку месяцы 1925г. выдан краязнаўчы часопіс, ахвяраваны 400-лецьцю бел. друку. Дублікат часопісу знаходзіцца ў Дзяржаўнай Бібліотэцы ў Менску. У часопісу сабраны цікавыя веды аб Хоцімшчыне.

Апошні час пачалі зьбіраць чучалы мясцовай жывёлы.

Усе матар'ялы накіроўваліся раней часткай у Інбелкульт, часткай у акруговае таварыства.

У сучасны момант усе матар'ялы васылаюцца толькі ў Акруговае краязнаўчае таварыства.

## Краязнаўчая Конфэрэнцыя на Калініншчыне.

Згодна пастаноў пашыранага пленуму Цэнтральнага Бюро Краязнаўства і пляну Прэзыдыуму, на працягу асеньняга пэрыоду павінны адбыцца краязнаўч. Конфэрэнцыі па ўсіх акругах з мэтай намечаньня шляхоў далейшай працы ў справе краязнаўства. Першая такая конфэрэнцыя адбылася 15-16 верасьня ў Калініншчыне. Для правядзеньня яе быў накірован прадстаўнік ЦБК. На Конфэрэнцыю зьявіліся прадстаўнікі раённых краязнаўчых таварыстваў па адным ад кожнага раёну, за выключэньнем Чырвонапольля і Чэрыкава, і прадстаўнікі ад розных організацый акруговага цэнтру. Усяго прымала ўдзел у Конфэрэнцыі каля 30 чалавек. На павестцы стаялі дзьве справаздачы раённых таварыстваў—Касьцюковіцкага і Расьнянскага, справаздача аднаго гуртка, справаздача акруговага таварыства і пытаньне аб чарговых задачах краязнаўства і пляне далейшай працы. Конфэрэнцыя праходзіла вельмі актыўна: у спрэчках прымалі ўдзел амаль ня ўсе сябры яе; кожнаму хацелася выказацца і дапамагчы наладжаньню справы. У рэзолюцыях была падкрэсьлена важнасьць і патрэба ўцягненьня ў краязн. працу шырокіх працоўных мас, пашырэньне сеткі краязнаўчых організацый, палепшаньне якасьці іх і пераводу працы на плянавы напрамак.

Трэба адзначыць зацікаўленасьць у працы Конфэрэнцыі і наагул у краязнаўчай справе з боку Акруж-

кому КПБ, які за апошні час прарабіў вялікую працу ў сэнсе падняцьця аўторытэту краязнаўчай справы на Калінішчыне. У канцы абрана новае праўленьне Таварыства ў складзе 9-х членаў і 4 кандыдатаў. У склад праўленьня ўведзены прадстаўнікі ад розных мясцовых арганізацый. Пасьля Конфэрэнцыі прадстаўнік ЦБК адправіўся ў Расьнянскае Раённае Таварыства гэтае акругі з мэтай абглядзець раённы краязнаўчы музэй і азнаёміцца з дасягненьнямі гэтага таварыства. На месцы выявілася, што ў Расьнянскім Краязнаўчым Таварыстве ёсьць значныя дасягненьні як з боку кіраўніцтва, так і з боку практычнага.

Вынікам гэтай працы зьявіўся раённы краязнаўчы музэй, і хоць ён яшчэ невялічкі, але ў яго стварэньні ўзяты правільны кірунак: дыяграмы па сельскай гаспадарцы, мясцовыя саматужныя вырабы і інш. На вялікі жаль, гэтыя дасягненьні яшчэ да гэтага часу ня высьветлены ў друку. На пасяджэньні праўленьня Раённага Таварыства краязнаўцы выказалі абяцаньне спыніць у будучым „абет маўчаньня“.

А. К.

## На Віцебшчыне.

Праца Віцебскага Акруговага Таварыства летам была прыціхла ў Віцебску і некаторых раённых цэнтрах, але значна ажывілася на вёсцы. У Акруговае Праўленьне паступала многа запатрабаваньняў на дакладчыкаў і лектароў, якіх часамі яно не магло задаволіць. Адначасна атрымлівалася вялікая колькасьць розных матар'ялаў: картак—слоў, народнага орнамэнту, фольклёру, музычных рэчаў, матар'ялу ў слоўнік дзеячоў Віцебшчыны і інш.

На жаль, плянавую і сыстэматычную клясыфікацыю і распрацоўку ўсіх матар'ялаў Праўленьне не магло організаваць і яна была зроблена толькі ў стасунку да матар'ялу ў Віцебскі Краёвы Слоўнік, які ўжо друкуецца, і Слоўнічак дзеячоў Віцебшчыны, які падрыхтаваны да друку, іншыя матар'ялы часткова перададзены ў адпаведныя сэкцыі Інбелкульту, а часткова чакаюць свае апрацоўкі на месцы.

Каля двох дзесяткаў прац—рукапісаў мясцовых краязнаўцаў перададзена ў ЦБК і частка іх надрукавана ў „Нашым Краі“. Іншыя, часамі больш дробныя працы, друкаваліся ў мясцовай газэце „Заря Запада“, а таксама ў „Асьвеце“, „Маладняку“, „Известиях ЦБК РСФСР“ і інш. Трэба ўсё-ж сказаць, што ў кірунку рэалізацыі творчасьці краязнаўчае сеткі Віцебчыны яшчэ ня ўсё зроблена, як і ў кірунку распрацоўкі атрыманых матар'ялаў. Зараз распрацоўваюцца зарысоўкі народнага орнамэнту, пераважна яўрэйскага, а таксама колекцыянаваньне экалібрысу.

Шэраг краязнаўцаў канчаюць свае чарговыя працы па Віцебшчыне, але абмежавацца працаю адных мясцовых працаўнікоў было-б нямэтазгодна, а затым Праўленьне запрасіла да працы і іншых вучоных. Ужо атрыманы цікавыя працы: „Зьбіраньне вуснай народнай творчасьці на Усходняй Беларусі“—Шлюбскага (Менск), „Міхельсон у сваім маёнтку“—Шавельскага (Невельшчына) і інш., згодна ўмове, хутка чакаецца атрыманьне „Археолёгічнага абгляду Віцебшчыны“—Сьпіцына (Ленінград), „Беларускай архітэктуры XII сталецьця“—Шыраева (Крым, Алупка), „Геолёгіі Віцебшчыны“—Лунгерсгаўзэна (Горкі) і інш.

Акруговае Праўленьне праз членаў Т-ва давала шмат даведак мясцовым установам, як Акрвыканкому, Аддзелу Аховы Здароўя і іншым, а таксама і шэрагу вучоных з Смаленску, Ленінграду і г. д., якія, паміж іншым, карысталіся і навуковымі матар'ямі Таварыства, як прадстаўнік Акадэміі Гісторыі Матар'яльнай Культуры.

Некаторыя члены Т-ва прымалі ўдзел у працы адпаведных сэкцый Інбелкульту.

Праўленьне рыхтуецца да ўсесаюзнага перапісу.

Сэкцыямі было праведзена некалькі экспэдыцый, а таксама былі заслуханы на сходах розныя даклады. Даклады навуковага характару заслухваліся і на некаторых раённых конфэрэнцыях.

Сакратар Праўленьня меў перапіску з мясцовымі працаўнікамі на сяле па мэтодычных пытаньнях, прычым было паслана больш 300 лістоў на запытаньні месц.

У патрэбных выпадках рабіўся агляд помнікаў старасьветчыны (Храпавіцкая царква і інш.), таксама кнігасховаў (Маркавага манастыра і інш.) і рабіліся адпаведныя крокі да аховы іх.

Зроблена апісаньне бібліотэк і музэяў і апавешчана ў друку; апісаньне мэтэоролёгічных станцый перададзена ў ЦБК. Асобная камісія пры „Доме Кнігі“ вядзе далей працу па бібліографіі Віцебшчыны.

Таварыская сувязь з ЦБК па навуковых пытаньнях, а таксама з замежнымі навуковым організацыямі і ўстановамі спрыяла працы, якая з восені значна ажывілася.

М. К—ч.

## Піонэры—краязнаўцы.

### (Высачанскі раён Віцебск. акр.)

Не пасьпеў гурток краязнаўства ў Бабынавічах разгарнуць працу па вывучэньні сваёй мясцовасьці, а піонэры мясцовага атраду зрабілі ўжо практычна першыя крокі па гэтай справе.

8 жніўня г. г. пад кіраўніцтвам свайго важатага і настаўніка—краязнаўца частка атраду задумала зрабіць невялічкую працу: рэгістраваньне кургоноў, якія ляжаць абапал дарогі з Бабынавіч на в. Сітна.

Падрыхтаваліся і бадзёра са сьпевамі накіраваліся на работу.

Дасьледвана, г. з. вымерана вышыня, абхват навокала, каля падставы і даўжыня цераз верх 25 курганоў.

Вынікі вымеру наступныя:

| №№ па чарзе. | Вышыня. | Абхват каля падставы. | Даўжыня цераз верх. | Увага. |
|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 ар. | 18 саж. | 5 с. 2 ар. | Мае ямку наверсе. |
| 2 | 3 1/4 „ | 20 1/2 с. | 6 с. 1 ар. | Цэлы. |
| 3 | 3 „ | 23 с. | 7 с. 1 ар. | „ |
| 4 | 2 1/4 „ | 17 с. | 5 с. 1 ар. | „ |
| 5 | 1 3/4 „ | 17 с. | 5 с. | Раскапаны зьверху. |
| 6 | 1 2/4 „ | 16 с. | 5 с. | Таксама. |
| 7 | 1 2/4 „ | 16 с. 2 ар. | 4 с. 2 ар. | Цэлы. |
| 8 | 3 „ | 18 с. 2 ар. | 5 с. | „ |
| 9 | 1 1/2 „ | 13 с. 2 ар. | 5 с. | Мае ямку зьверху. |
| 10 | 2 „ | 18 с. 1 ар. | 4 с. 2 ар. | Цэлы. |
| 11 | 2 1/2 „ | 21 с. | 8 с. | „ |
| 12 | 2 1/2 „ | 21 с. 2 ар. | 5 1/2 с. | Раскап. зьвер |
| 13 | 2 3/4 „ | 23 с. | 6 с. | Цэлы. |
| 14 | 2 1/4 „ | 21 с. | 5 с. | „ |
| 15 | 2 „ | 12 с. | 5 с. | „ |
| 16 | 2 „ | 13 с. 2 ар. | 4 1/4 ар. | „ |
| 17 | 1 3/4 „ | 14 с. | 4 с. | „ |
| 18 | 1 3/4 „ | 13 с. 2 ар. | 3 с. 2 ар. | „ |
| 19 | 2 „ | 16 с. | 5 с. 1 ар. | „ |
| 20 | 1 1/4 „ | 14 с. | 4 с. 2 ар. | „ |
| 21 | 1 3/4 „ | 17 с. | 5 с. 1 ар. | „ |
| 22 | 1 1/2 „ | 12 с. | 4 с. | „ |
| 23 | 2 1/2 „ | 25 с. | 7 с. | „ |
| 24 | 2 „ | 15 с. 2 ар. | 5 с. | „ |
| 25 | 2 1/2 „ | 26 с. | 10 с. | Глыбокая ямка наверсе. |

Увага: Усе курганы, апрача раскапаных, маюць навокала падставы няглыбокую канаўку.

Дасьледваны курганы ня ўсе. Але тыя, што засталіся, дужа зруйнаваны ўласьнікам смалакурні, які ў іх капаў ямы для бульбы. Можна спадзявацца, што добры прыклад першага атраду піонэраў абудзіць ахвоту і ў другога, які дакончыць гэтую працу, бо навокала Бабынавіч знаходзіцца шмат курганоў.

Я. Сяргеенка.

## Цікавая знаходка.

**(Аршанская акруга).**

Каля в. Ліцьвінава, Ляднянскага раёну, Аршанскае акр., на хутары В. Законьнікава сяляне, капаючы студню, на глыбіні 4 саж., наткнуліся на нейкае „бервяно“, якое перашкаджала ім капаць глыбей. Яны хацелі выкінуць „бервяно“, але сашчарбілі 4 тапары і толькі частку „бервяна“ адсеклі.

Пры вывучэньні кавалкі гэтага „бервяна“ аказаліся часткамі біўня маманта. У зямлі яшчэ засталіся косьці маманта. Магчыма думаць, што і цэлы касьцяк мамантаў дасца выцягнуць з зямлі.

Аршанскае Акруговае Т-ва часткі біўня маманта, якія знойдзены каля в. Ліцьвінава, перадае ў Акруговы с.-г. музэй і даручае проф. Лунгерсгаўзэну ўзяць на сябе кіраўніцтва па адкапваньні касьцей маманта.

## Вцебская дасьледачая с. г. станцыя.

Віцебская с.-г. станцыя мае два аддзелы: гародніцтва і паляводзтва і дзьве дапамагальныя ўстановы: агро-хімічную лябораторыю і мэтэоролёгічную станцыю.

Аддзел гародніцтва вядзе працу па вывучэньні гатункаў гародных расьлін, устанаўляе стандартныя гатункі гародніны для БССР, продукуе і пашырае гэтыя гатункі і, урэшце, вывучае энэргетычныя фактары прарастаньня—сьвет і цяплыню.

Аддзел паляводзтва вывучае пытаньні аднаўленьня ўраджайнасьці нашых глеб у парадку ўплыву на іх фізычных і хімічных уласьцівасьцяй, а таксама стандартызуе гатункі палявых расьлін.

Праца станцыі падрабязна высьветлена ў брошуры „Краткий очерк деятельности Витебской с.-х. опытной станции за 1923-24 г.“

## Краязнаўчая праца Віцебскага Акруговага аддзяленьня Саюзу Працаўнікоў зямлі і лесу.

У жніўні г. г. канчаткова афармілася навукова-тэхнічная сэкцыя Акруговага аддзяленьня Саюзу прац. зямлі і лесу.

За гэты пэрыод сэкцыя вывучала ўмовы працы і быту спэцыялістых, разглядала організацыйна-вытворчыя пляны, пытаньні культурна-асьветнай працы.

У сэкцыі былі заслуханы навуковыя даклады: 1) навуковая організацыя працы ў сельскай гаспадарцы, 2) шляхі адраджэньня сельскай гаспадаркі, 3) шляхі разьвіцьця жывёлагадоўлі, 4) кормаздабываньне, 5) пэрспэктывы зямлябудаўніцтва, 6) грамадзянская агрономія, 7) лесабудаўніцтва і 8) організацыя інстытуту сялян-дасьледцаў.

## Дасягненьні Слуцкага таварыства.

Больш-менш плянава і энэргічна праца пасунулася наперад з пачатку бягучага году. За гэты час Таварыства зрабіла наступнае:

1. У галіне гісторыка-культурнай зроблены досьледы аб мінулым гораду Слуцку. Знойдзены і перамалёваны плян Слуцку XVII ст. Сабраны матар‘ял па вёсках Случчыны аб рэволюцыйным руху 1905 году.

2. Этнографічна-экономічная сэкцыя сабрала каля двухсот песен з розных раёнаў Случчыны, шмат загадак і пагаворак, ёсьць шмат матар‘ялу аб прамысловасьці Слуцкае акругі.

3. Прыродазнаўчая сэкцыя злажыла апісаньне відаў расьлін і жывёл Случчыны. Зьбірае матар‘ял аб лекавых расьлінах і г. д.

4. Музэйная сэкцыя шмат энэргіі патраціла, каб здабыць памяшканьне пад музэй. Памяшканьне удалося набыць у Доме Культуры. Тут сэкцыя памалу абсталёўваецца і прыводзіць у парадак як бібліотэку, якая мае ўжо каля 500 паасобнікаў,

так сама і музэйныя рэчы, сярод якіх ёсьць шмат каштоўнага. Між іншымі рэчамі, музэй мае так званую Берасьцейскую біблію, надрукаваную Мікалаем Радзівілам Чорным у XVI сталецьці. Гэтае выданьне бібліі было скуплена каталікамі і спалена ў Вільні. Біблія гэта лічыцца цяпер вялікай рэдкасьцю.

5. Слоўнікавая камісія атрымала заданьне ад Інбелкульту да пачатку 1927 году сабраць слоўны матар'ял для выданьня слоўніка Случчыны, да гэтага часу частка працы ўжо выканана.

Зразумела, што праца нашага Таварыства пашла-б больш шпаркімі крокамі тады, калі-б у ёй прынялі ўдзел шырокія колы грамадзянства, партыйныя і савецкія працаўнікі, але да гэтага часу працуюць бадай што адны настаўнікі, а між тым такія галіны жыцьця, як сельская гаспадарка, прамысловасьць, могуць быць выяўлены пры дапамозе працаўнікоў зямлі і лесу. Становішча народнага здароў'я—пры дапамозе працаўнікоў мэдыцыны на мясцох. Дзеля гэтага Краязнаўчае Таварыства запрашае ўсіх прыняць удзел у яго працы.

## Вывучэньне Народных танцаў

### (Экспэдыцыя па Магілеўшчыне).

На пасяджэньні Тэападсэкцыі Інбелкульту рэжысэрам і балетмэйстарам ІБДТ Б. Шчарбініным быў зроблены даклад аб выніках яго камандыроўкі ў Магілеўскую акругу з мэтай вывучэньня народнай музыкі і скокаў.

Шчарбінін у сваім дакладзе правёў асноўную думку, што, ня гледзячы на моцны гарадзкі ўплыў, народны танец на Беларусі захаваўся ў жывой, нагляднай, непасрэднай чыстай этнографічнай суцэльнасьці. Гэта суцэльнасьць народнага танцу, робіць яго, на пагляд дакладчыка, важным помнікам мінулага і жывой ілюстрацыяй народнага быту Беларусі. Апрача спэцыяльна-навуковага значэньня, якое дасягаецца шляхам этнографічных экспэдыцый, вывучэньне народных танцаў на Беларусі будзе мець і практычнае значэньне —дасьць глебу, апору для мастацкай чыннасьці БДТэатру, ад якога глядач вымагае выяўленьня на сцэне жыцьця і пабыту свайго краю.

Даклад Шчарбініна выклікаў ажыўлёны абмен думкамі. Выступаўшыя падкрэсьлілі неабходнасьць папулярызаваць і апублікаваць усе сабраныя матар'ялы.

Даклад Шчарбініна аб народных скоках на Беларусі, як спроба вывучэньня шырокай галіны народнага мастацтва, будзе надрукованы ў адным з чарговых нумароў „Нашага Краю".

## Юбілей 5-й гадавіны Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту.

30 кастрычніка БДУ сьвяткаваў 5 гадавіну свайго існаваньня. Гэты дзень быў урачыстасьцю ня толькі для профэсуры і студэнцтва У-ту, ён быў вядомым усім рабочым і сялянскім масам Савецкай Беларусі, на абшарах якой узрос і на карысьць якой працуе Унівэрсытэт.

Год адчыненьня Унівэрсытэту, як вядома, зьяўляўся годам гаспадарчага заняпаду ў нашым Саюзе. Натуральна, што пабудова такой вялікай установы, як унівэрсытэт, у той час зьяўлялася справай надзвычайна цяжкай, магчымай толькі ў умовах дыктатуры працоўных, якія адчувалі неабходнасьць нацыянальна-культурнага адраджэньня прыгнечанай царскай уладай Савецкай Беларусі. Унівэрсытэт у першыя дні свайго існаваньня павінен быў з вялікімі затрыманьнямі знайсьці адпаведныя памяшканьні, абсталяваць іх, здабыць падручнікі, адчыніць лябораторыі, габінэты, запрасіць навуковыя сілы. Адно пералічэньне гэтых запатрабаваньняў дае мягчымасьць вызначыць, да чаго цяжка была пабудова У-ту.

Цяжкі, вельмі цяжкі былі абставіны працы студэнцтва і профэсуры.

Але усё гэта засталося ззаду. Унівэрсытэт амаль што скончыў арганізацыйны пэрыод. Не застанаўліваючыся доўга на мінулым Унівэрсытэту, аб чым жадаючы будзе мець магчымасьць азнаёміцца ў спэцыяльна прысьвечанай гадавіне У-ту яго гісторыі, спынімся на яго сучасным становішчы.

Унівэрсытэцкія будынкі канчаткова адрамантаваны. Абсталяваны студэнцкія інтэрнаты, сталоўкі. Габінэты маюць падручнікі. Шырока разгарнулі працу унівэрсытэцкія клінікі.

Профэсарскі склад налічвае значную колькасьць вядомых навуковых працаўнікоў.

На чатырох факультэтах: рабочым, пэдагогічным, мэдычным і ф-це права і гаспадаркі налічваецца 3.368 студэнтаў.

Профорганізаванага студ.—1.533 чал., аб'яднаных Выканбюро Профсэкцый.

Поўныя стыпэндыі атрымоўвае 936 студэнтаў грунтоўных факультэтаў і 104 чал. атрымоўвае палову стыпэндыі.

Пэдагогічны факультэт за час свайго існаваньня даў 2 выпускі, мэдфак—1, быўшы ФГН—1. У лістападзе і адбыўся другі выпуск мэдфаку.

Побач з чыста акадэмічнай працай, дзе ёсьць вялікія дасягненьні ў сэнсе беларусізацыі, Унівэрсытэт вёў і вядзе палітасьветпрацу як у мурох У-ту, так і сярод працоўных мас гораду і вёсак.

Пад кіраўніцтвам Выканбюро Профсэкцый У-ту існуюць наступныя агульнаунівэрсытэцкія арганізацыі: ячэйка ПН, лектарскі колектыў, яч. МОПР, колектыў Нав. Орг. Працы, яч. Авіяхім, Т-ва Краязнаўства, Т-ва Дап. Абароне, гурток Прыхільнікаў Радыё, гурток „Бязбожнік", „Экспэранто", духавы і струнны аркестры, хор, драматычны, спортыўны і шахматна-шашачны гурткі. Усе пералічаныя організацыі ахапляюць да 63% студэнцтва.

Унівэрсытэт зьяўляецца культшэфам N кав. дывізыі і Аб'ядн. школы комскладу РСЧА. Да той ці іншай вайсковай адзінкі прымацаваны факультэт. Працай шэфкамісіі кіруе асобная камісія на чале з Рэктарам БДУ, проф. Пічэта.

Яч. ДН і Лектарскі Колектыў вядуць шырокую працу сярод працоўных мас гораду. У мінулым годзе адзначаныя організацыі абслугоўвалі 216 лікпунктаў і далі 35 кіраўнікоў розных гурткоў.

Факультэты шэфствуюць над некалькімі сельсаветамі Менскай акругі.

У час канікулаў студэнцтва атрымоўвае заданьні ад Выканбюро, вядзе працу сярод сялянскіх мас Беларусі. У гэтай галіне працы Выканбюро Профсэкцыі мае шмат дасягненьняў, дзякуючы таму, што праца гэта няўхільна вядзецца ад першых гадоў існаваньня Ун-ту.

У вапошні час Праўленьнем Ун-ту былі скліканы Прыродазнаўчая і Літэратурная Конфэрэнцыі, на якіх прысутнічала значная колькасьць настаўніцтва Беларусі. Конфэрэнцыя азнаёмілася з навейшымі навуковымі проблемамі і разглядзела пытаньні мэтодычнага характару. Гэтым Ун-т залажыў грунт культурнай сувязі з пролетарскай інтэлігенцыяй Беларусі.

Такім чынам Ун-т зьяўляецца ў сучасны момант вялікім і культурным асяродкам Беларусі, які ня толькі падрыхтоўвае кваліфікаваных працаўнікоў для культурна-гаспадарчага адраджэньня. Сав. Беларусі, але і вядзе шырокую навуковую працу.

Ун-т з працягам часу стаў настолькі популярным, што зьбірае ў сваіх мурох ня толькі моладзь Сав. Беларусі, але прыцягвае да сябе і закардоньнікаў беларусаў, якія, ўцякаючы з прыгнечанай Заходняй Беларусі, уліваюцца ў шэрагі студэнцтва нашага Ун-ту.

М. В—ч.

## Гісторыя краязнаўчага руху на Беларусі.

Цэнтральнае Бюро Краязнаўства распачало зьбіраньне матар'ялаў па гісторыі краязнаўчага руху на Беларусі.

Краязнаўчыя організацыі і ўстановы, паасобныя краяведы заклікаюцца прысылаць малюнкі, фотографіі і г. д. паасобных краяведаў, організацый, сходаў, экскурсій і інш., а таксама архіўны матар'ял гурткоў, таварыстваў і іх гісторыі.

## 5-ці гадовы юбілей часопісу „Полымя".

У сьнежні месяцы г. г. часопіс літаратуры, політыкі, экономікі, гісторыі „Полымя" сьвяткуе свой пяцігадовы юбілей.

# Бібліографія

**І. П. ФУРМАН. Віцебск у гравюрах С. Юдовіна.** Выданьне Віцебскага Акруговага Краязнаўчага Т-ва. Віцебск 1926 г. Мастацкая рэдакцыя Е. С. Мініна. Вокладка і кніжныя аздобы С. Б. Юдовіна, in 16⁰, 48 ст. цана неазначана. З сэрыі „Мастацтва на Беларусі“. Рэдакцыя М. Касьпяровіча. Кніжка мае ня толькі вузкае краязнаўчае значэньне, але бязумоўна дае і значны ўклад у гісторыю беларускага мастацтва.

Юдовін—вядомы яўрэйскі мастак-графік, гравюры якога былі на ўсебеларускай мастацкай выстаўцы (№№ 682-703). Вывучэньне яго творчасьці мае вялікае значэньне, бо яна вырасла на Беларусі і адбівае жыцьцё аднаго з буйных асяродкаў яе—Віцебску. Мастацтва Юдовіна—яўрэйскае мастацтва, але яно выяўляе беларускую самабытнасьць. Тэмы Юдовіна, ня гледзячы на стылізацыю, рэальны па зьмесьце: штодзенная жыцьце дробных рамесьнікаў і гандляроў і архітэктура Віцебску. Юдовін злучыў у вадно яўрэйскія народныя мотывы з сучаснымі мастацкімі формамі.

Выдадзена кніжка прыгожа і дасканала. Да тэксту далучана каля 30 гравюр Юдовіна, частка якіх ня была экспанавана на Ўсебеларускай мастацкай выстаўцы.

Кніжка складаецца з прадмовы рэдактара кнігі М. Касьпяровіча і трох невялікіх нарысаў. У прадмове да кніжкі адзначана неабходнасьць вывучэньня мастацтва нацыянальных меншасьцяй на Беларусі. У першым нарысе абмаляваны росквіт Віцебскага мастацтва ў першыя гады пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі. Гэты росквіт характарызуецца перавагаю графічна-дэкорацыйнага мастацтва, прадстаўнікамі яго былі Малевіч, Ярмалаева, Дабужынскі і Юдовін. У другім нарысе зьмешчана кароткая біографія Юдовіна і яго мастацкая чыннасьць. У трэцім нарысе зроблена спроба разглядзець тыпізацыю Віцебску паводле гравюр Юдовіна. Апошні нарыс надрукованы і на нямецкай мове, што яшчэ больш робіць кніжку каштоўнай.

А. Ш.

**А. ШЛЮБСКІ. Крашаніна (набіванка).** Пад рэдакцыяй і з прадмовай М. Касьпяровіча in. 32⁰, 32 ст. з малюнкамі, 1.000 экз. Віцебск. 1926 г. Кніжка адказвае на пільную патрэбу зьбіраньня ўзораў беларускае матар'яльнае культуры. Невялічкі нарыс А. Шлюбскага ёсьць спробай дасьледваньня зусім незачэпленай галіны народнага мастацтва, якую аўтар называе „друкаваньнем тканіны“. Вывучэньне гэтай галіны мае ня толькі агульна—культурнае і навуковае значэньне, але дае магчымасьць улаўліваць мотывы народнай творчасьці, меркаваць аб іх запазычанасьці альбо самастойнасьці.

Нарыс А. Шлюбскага цікавы яшчэ тым, што ў ім азначаны шляхі разьвіцьця ручнога друкаваньня ў старадаўніх народаў, у Заходняй Эўропе і на Беларусі. Да кніжкі далучана 13 малюнкаў.

А. Ш.

**Полотчина.** Издание Полоцкого Окружного Исполнительного Комитета. Полоцк 1925 года. in 16⁰, 222 стар. 2.000 экз. Цана не паказана.

**Справаваздача Расьнянскага Райвыканкому Калінінскай акругі** за тэрмін сакавік-кастрычнік 1925 г. Віцебск 1925 г., in. 16⁰, 50 стар., 500 экз. цана не паказана.

Другая кніжка ўкладзена і выдадзена значна лепш першай, не гаво-

рачы ўжо пра тое, што Райвыканком робіць справаздачу на мове той насельнасьці, сярод якой працуе, а Полацкі Акрвыканком—на мове насельнасьці суседняй дзяржавы. Прыкра залішняя множ друкарскіх памылак.

Такога роду, так званыя, ведамсьцьвенныя выданьні вельмі цікавы для краязнаўчых організацый і школ, дзе яны зьяўляюцца проста неабходнымі падручнікамі (ня вучэбнікамі). Затым, краязнаўчыя організацыі павінны заўсёды прымаць удзел у такіх выданьнях, каб ухіліць іх чыноўнічы характар („Полотчина“) і даваць лепшую ўводную характарыстыку свае мясцовасьці.

Наогул абедзьве кніжкі багаты каштоўным краязнаўчым матар'ялам, і ўстановы іншых мясцоў павінны ўзяць прыклад з Расны і Полацку ў выданьні сваіх справаздач.

К.

**Уздым.** Літаратурны зборнік Бабруйскай філіі Маладняка. Выданьне Бабруйскай філіі „Маладняка“, Бабруйск 1926 г., in 16⁰, 100 стар., 1.000 экз. Цана 50 кап.

**Маладняк Калінiншчыны.** Орган Калінінскага Акр. Кам. ЛКСМБ і акруговай філіі Ўсебеларускага Аб'яднаньня поэтаў і пісьменьнікаў „Маладняк“ № 3-4. Выданьне філіі „Маладняка“, Клімавічы 1926. İn 16⁰, 96 стар. 2.000 экз. Кошт 30 кап.

**Аршанскі Маладняк.** Орган Аршанскае філіі Ўсебеларускага Аб'яднаньня поэтаў і пісьменьнікаў „Маладняк“ № 2 (4). Выданьне Аршанскай філіі Маладняка. Ворша 1926. İn. 16⁰, 52 стар. 1.350 экз. Цана 40 кап.

Черговаю задачаю краяведчых організацый зьяўляецца вывучэньне і дасьледваньне сваіх краёвых літаратур, мясцовых культурных гнёзд, як у гістарычнай пэрспэктыве, так і сучаснага стану іх. Усебаковы разгляд творчасьці данага культурнага гнязда—Віцебскага, Слуцкага і інш. пакажа нам ролю тых ці іншых аўтараў у культурным росьце краю і што ўнесена апошнімі ў агульнанацыянальную літаратуру з пэўнае мясцовасьці.

Затым, мясцовыя літаратурныя выданьні зьяўляюцца ўдзячным матар'ялам для краяведа.

Паказаныя выданьні яшчэ маюць шмат недахопаў, ускладняючых працу краяведа, напрыклад, перадрукі ў Калінінскім выданьні нічым не апраўданы. У „Ўздыме“ не паказана адкуль узяты фотографіі, а адна з іх (стар. 42) бязьлітасна пакалечана патугаю на нешта надзвычайнае. Клішэ работы „Огонька“ ў Калінінскім выданьні варта было вярнуць назад, не псуючы імі выданьня. Больш просты і ўдалы аздобы ў Аршанскім выданьні, але таксама, як і ў Бабруйскім, не азначна што гэта за аздобы. Гэта з надворнага боку.

Наагул, трэба сказаць, што непасрэднага краёвага, так кажучы, матар'ялу мала („Уздым“ ст. 3, 7, 12 і інш.). Аўтары амаль не нясуць сваёй мовай провінцыялізмаў, што павінны яшчэ ўзбагаціць літаратурную мову, а часамі даюць іх няправільна, як у „Ўздыме“ ст. 13 — „Цяжкія кляўцы“, тады як клявецмалаток пераважна для кляпаньня кос, а молат-малаток так і будуць нават, і ва Ўсходняй Беларусі, адкуль гэта слова паходзіць.

М. К—ч.

**Каталёг 1-й Усебеларускай Мастацкай Выстаўкі. Менск 1925. In 32⁰, 46 стар. 2.000 экз. Цана не паказана.**

1-я Ўсебеларуская мастацкая выстаўка. **Каталёг аддзелу старажытнага мастацтва.** Апрацаваў М. Шчакаціхін. Менск 1926. in 32⁰, 230 стар. Цана не паказана.

Абедзьве гэтыя кніжачкі цікавы для навукова-краязнаўчых устаноў і організацый паказаньнем на тыя краёвыя мастацкія рэчы, якія ім неабходна ў першую чаргу здабыць для сваіх краёвых музэяў, як №№ 88, 340 і інш. першай кніжачкі. Яны таксама цікавы паказаньнем на ўласьцівасьці

старога беларускага мастацтва, знаёмства з чым палегчыць орыентацыю мясцовых працаўнікоў пры знахадцы розных рэчай мастацтва ў глухіх куткох Беларусі.

На жаль, назвы малюнкаў у першай кніжцы ў большасьці не даюць пэўнасьці аб прыналежнасьці тых ці іншых твораў да данага краю, таксама амаль нічога не гаворыцца пра мастакоў. Год і месца нараджэньня вельмі замалы для разуменьня творчасьці мастака, якая ў большасьці аўтобіографічна, як і ўсякая іншая творчасьць.

К.

**М. КАСЬПЯРОВІЧ. Беларуская Архітэктура. Нарыс з прадмоваю М. Шчакаціхіна. Віцебск 1925 г. 52 стар.**

Аўтар у кароткіх рысках разглядае разьвіцьцё беларускай архітэктуры з XII сталецьця да апошніх часоў. Коратка даюцца прадстаўленьні аб усіх формах, якія існавалі на Беларусі; спачатку культавая архітэктура з бізантыцкімі формамі XII сталецьця ў Смаленску, Полацку і Віцебску; далей, замкавая вайскова-стратэгічная архітэктура XII сталецьця, выкліканая тагачаснымі вайсковымі падзеямі (Наваградзкі, Крэўскі, Лідзкі замак і г. д.), далей, у сувязі з разьвіцьцём на Беларусі фэўдальнага ладу, аўтар разглядае прыватнае беларускае замкавае будаўніцтва, найвыдатным помнікам якога лічыцца Мірскі замак у Наваградчыне; адначасна разглядаецца і шэраг выдатнейшых культавых будынкаў гэтай эпохі, цікавейшым выяўленьнем якой была беларуская готыка. І нарэшце, культавая архітэктура апошніх сталецьцяў, з якой найбольш характэрнай для беларусоў зьяўляецца драўляная архітэктура.

Ня гледзячы на невялікі формат кніжкі, аўтар дае цэльнае прадстаўленьне разьвіцьця беларускай архітэктуры з беларускага пункту погляду, дзякуючы чаму гэтая праца і набывае асаблівую каштоўнасьць.

А. Г.

**Аршанскае Акруговае Т-ва Краязнаўства. Аршаншчына. Частка I. Ворша, Выдавецтва газэты „Комуністычны шлях“. Друкарня імя Ф. Скарыны. 1926 г., in 16°, 34 стар. 1550 экз. Цана не паказана.**

Развой краязнаўчай справы на ўсходзе Беларусі, што мае свае карэньні ў далёкім мінулым, даў урэшце свой вынік у шэрагу Віцебскіх выданьняў і ў працы Аршанскага Акруговага Таварыства Краязнаўства. Разьлічаная паводле свайго зьместу і разьмеру на распаўсюджаньне сярод шырокіх мас насельнасьці гэта першая кніжка непэрыодычнага органу Т-ва вельмі каштоўная. Д. М. Васілеўскі, душа краязнаўчай справы Аршаншчыны, зьмясьціў нарыс: „Краязнаўчая справа на ўсходзе Беларусі“, у якім разглядае працу ранейшых краязнаўцаў Усходняй Беларусі, знаёмства з якой бясспрэчна неабходна ўсякаму пачынаючаму краязнаўцу.

Профэсары Ф. В. Лунгерсгаўзэн і Салаўёў зьмясьцілі нарысы: першы—„Нарыс геолёгічнае пабудовы Аршаншчыны“, другі—„Фаўна Аршаншчыны“, а ў канцы — цікавая праца К. Кіпрыянца — „Балотныя абшары Аршаншчыны“ і П. П. Фірсава—„Галоўныя шкоднікі саду ў 1925 годзе“.

Апрача гэтага дадзена „Жыцьцё і праца Аршанскага Акруговага Таварыства Краязнаўства“ і бібліографія „Прыроды Аршаншчыны“.

Зразумела, што ў пачатку дасьледчай працы нельга даць вычэрпваючых матар'ялаў і вывадаў, дзеля чаго праз усё выданьне чырвонаю ніткаю праходзіць падкрэсьліваньне чарговых задач і заклік да працы нават у кірунку зьмешчаных артыкулаў.

З надворнага боку выданьне трэба палепшыць, аб чым павінны паклапаціцца мясцовыя мастакі. Ёсьць друкарскія памылкі, але гэта пакуль што, на жаль, няўхільна ў умовах провінцыяльнага друку.

Чакаючы наступных частак выданьня, іншыя краязнаўчыя органі-

заццы — Магілеўскія, Бабруйскія, Менскія і г. д., дзе магчымасьці большыя, павінны паклапаціцца аб арганізацыі выданьня сваіх прац.

М. К—ч.

---

# Бібліографія Віцебшчыны.

## Флёра, фаўна.

[....

1901,3.—(Сортименты яблонь для Витебской губ.).

Плодоводство, СПБ. 1901. Стр. 701. (Вопрос 143). 1903. Стр. 541. (Вопрос 160), 967. (Вопрос 247), 969. (Вопрос 455).

РЫЛОВ, В. М.

1915.—К планктону некоторых озер Витебской губ. Фауна Copepoda Cladocera.

Труды Петр. Общ. Естествознанія. П. 1915. Т. XVII, вып. 4. Стр. 111-162-франц. рез. стр. 163—3 рис.

АНТОНОВ, А. А.

1888.—О врачебных растеніях, дико растущих в Витебской губерніи и употребляемых населеніем ея в домашней народной медицине.

Витебск. Губернск. тип. 8.° IV+42 стр.

[....

1901-3.—(Сортименты груш для Витебской губ.).

Плодоводство. СПБ. 1901. Стр. 701. (Вопрос 143). 1903. Стр. 541. (Вопрос 160). Стр. 969. (Вопрос 255).

[....

1897.—(Сортименты груш для Могилевской губ., Сеннинскаго у.)

Плодоводство. СПБ. 1897, стр. 707. (Вопрос 97).

[....

1903.—(Сортименты слив для Витебской губерніи).

Плодоводство. СПБ. 1903, стр. 969. (Вопрос 255).

[....

1901-3.—(Сортименты вишень и черешень для Витебской губ.).

Плодоводство. СПБ. 1901. Стр. 765. (Вопрос 168). 1901. Стр. 969. (Вопрос 255).

[....

1897.—(Сортименты яблонь для Могилевской губ., Сеннинскаго у.).

Плодоводство. СПБ. 1897. Стр. 707 (Вопрос 97).

[....

1899.—(Карликовые подвои для яблонь, пригодность его для Витебской губ.). Плодоводство. С.-Петербург. 1899. Стр. 977. (Вопрос 194).

[....

1876.—Горностаи в Витебском у. Русское Богатство. 1876. № 1.

АДАМОВ.

1924.—Alisma sumbersum. (Новое открытое в Витебске растение).

Запіскі Беларускага Дзяржаўнага Інстытуту Сельскае Гаспадаркі.

Менск. 1924. Ст. 3 ст. 450—456.

## Азёры.

[....

1870.—Статистическія сведенія о переправах на реках и озерах Витебской губерніи.

Витебскія Губернскія Ведомости 1870. № 10.

ДОМРАЧЕВ, П. Ф.

1921.—Работы Витебской Озерной Экспедиции.

Бюллетень Российского Гидрологического Института. Петроград. 1921. Декабрь. № 15. Статьи и доклады. Стр. 8—9.

К.

1912.—Озеро Черное Верховской волости, Витебскаго уезда. (Из Вит. Вестн. 1912 г. № 34).

Записки Сев.-Зап. Отд. Имп. Русскаго Географическаго О-ва. Вильно. 1912. Книжка 3. Хроника. Стр. 347.

КЕРМАН, А.
1916.—Озера сев.-восточной части Витебской губ.
Землеведенiе. 1916. № 1—2.

ЗАРЖЕЦКIЙ, В.
1903.—Озера Сенненскаго уезда, Могилевской губернiи.
Землеведенiе. Москва. 1903 г. томъ X (вып. 2—3). Стр. 74-82-4 табл.

ЛЕСНЕВСКIЙ, В. А.
1904.—Озера Витебской губернiи (Невельскiй уезд).
Землеведенiе. Москва. 1904 г. т. II (вып. 1—2). Стр. 157-182-6 карт.

ДОМРАЧЕВ, П. Ф.
1917.—Предварительный отчет по исследованiю озер Лепельскаго у. (Витебской губ.).
(Витебскъ). Изд. Витеб. Губ. Зем.

ШАДУРСКIЙ, I.
1893.—Очерк Витебской губернiи в географическом, гидрографическомъ и в почвенном отношенiи.
Отчет о действiях Общества Витебских Сельских Хозяев за 1 892, г. Витебск. 1893—стр. 68—106.

LESNIEWSKI, W.
1910.—Jeziora w gubernii Witebskiej. (pow. Newelski).
Pamiętnik fizyograficzny. Warszawa. 1910 r. 20. str. 5-13.

АРНОЛЬД, И. Н.
1914.—Отчет об исследованiи озер Невельскаго у. (Витебской г.).
Доклад Губ. Зем. Упр. за 1914 г. Витебск.

## Народная Асьвета.

[....
1871. — Художественно-археологическая Выставка 1871 года в г. Витебске.
Витебскiя Губ. Вед., 1871, № 16-19

ВОЙНАКУРИНСКIЙ, А.
1835.—Об открытiи в Полоцке кадетскаго корпуса.
Северная Пчела. СПБ. 1835, № 236.

[....
1909.—В учительских обществах Белоруси [1] Витебск.
Белорусский Учитель. Изд. группы учителей Витебской губ. 1909, в. I стр. 48—50.

[....
1868.—О лютеранских школах в Витебской губ.
Виленскiй Вестник. 1868. № 146.

[....
1879.—Полоцкая учительская семинарiя в 1878 году.
Журнал Министерства Народнаго Просвещенiя, СПБ. 1869. Часть 204, Август, отд. IV, стр. 142-158.

СЕМЕВСКIЙ, М. И.
1885.—Полоцкiй кадетскiй корпус. 1835 -1885.—Изъ воспоминанiй.
Русская Старина. 1885. Т. 48.

[....
1863.—О народных школах в Витебской губернiи.
Северная Пчела. СПБ. 1863, № 284. Стр. 1211—1212.

СЕРНО-СОЛОВЬЕВИЧ.
1868.—Состоянiе народных училищ в Витебской губ. с 1865 г. по 1 янв. 1868 г.
Витебскiя Губ. Вед. 1868. № 16.

СЕРНО-СОЛОВЬЕВИЧ.
1868.—Состоянiе народных училищ в Витебской губ. с 1865 по 1 янв. 1868 г.
Журн.Мин.Нар.Просв. 1868. № 3. Ч. 137. Соврем. Летопись. Стр. 335—347.

БЕЛОРУС.
1863.—О сельских училищах в Гродненской губернiи и Витебской.
День, Москва, 1863, № 21.

ТЫРТОВ, А.
1883.—Полотскiй кадетскiй корпус, 1835—1885 г. г. 6-го декабря.
Письмо директора корпуса А. Тыртова ред. „Русской Старины".
Русская Старина, СПБ. 1883 г. т. XII стр. 700.

КОРНИЛОВ, И.

1862.—Мысли о преобразованіи дворянских уездных училищ Могилевской и Витебской дирекціи в прогимназіи и об открытіи при гимназіях и прогимназіях приготовительных отделеній.

Журнал Министерства Народнаго просвещенія, СПБ. 1862 г. ч. CXVI (№ 12) Стр. 361—372.

ЕЛЕНЕВСКІЙ, И.

1872. — О Народных училищах Витебской губ. между 1840—64 г. г. до учредженія дирекціи народных училищ в г. Витебске.

Народная школа. 1872, № 10, стр. 35—43.

[....

1864. — Матеріалы для исторіи просвещенія Витебской губ.

Витебскія Губ. Вед. 1864. № 5.

Извлечено из книг Полоцкаго магистрата А. Созоновым.

НОВОСЕЛОВ, А.

1869.—Высшее піарское училище в Полоцке, в 1826 г.

Виленскій Вестник, 1869, № 65-66.

[....

1872.—Открытіе учительской семинаріи въ г. Полоцке.

Журнал Министерства Народнаго Просвещенія. СПБ. 1872. Часть 164. Ноябрь, Отд. IV, стр. 34—43.

[....

1873.—Сведенія о фундушевых стипендіяхъ при Витебской гимназіи.

Витебскія Губернскія Ведомости. 1873. № 45.

САПУНОВ, Ю.

1881.—Заметки о коллегіи и академіи іезуитов в Полоцке. Витебск.

[....

1884—Notatka o Akademii i o szkołach jezuitów w Połocku.

Poznań, Nakł. druk. I. Leitgebra. 8⁰, 28 str.

[....

1841.—Urządzenie konwinktu szlachetnej młodzi przy szkole wyższej połockiej xx Pijarów na Rusi Białej.

Wizeranki i roztrząsania naukowe. Wilno, 1841, Poczet nowy drugi. Tomik 20. Str 134.

НОВОСЕЛОВ, А.

1869.—Высшее піарское училище в Полоцке, в 1826 г.

Витебскія Губ. Вед. 1869, № 26, 27.

ЗУБКОВСКІЙ, И.

1876.—Санитарное состояніе Полоцкой военной гимназіи и гигіеническая ея обстановка.

Педагогическій сборник. 1876. № 1, стр. 14—44, № 3, стр. 250—274, № 7, стр. 705—739, № 8, стр. 786—819, № 10, стр. 988—1024, № 11, стр. 1074—1092.

ПОЛОЧАНИН, Н.

1911.—Полотскій кадетскій корпус (краткій историческій очерк—по поводу исполнившейся 75-тилетней годовщины его основанія 1835—1910).

Русскій Паломник, 1911, № 3, стр. 39—45.

[....

1886.—Празднованіе пятидесятилетняго юбилея Полоцкаго кадетскаго корпуса.

Полоцк. 8⁰. 62 стр.

SAPUNOW, A.

1887—Historyczna notatka z powodu 75 letniej egzystencyi Witebskiego gimnazjum 1808—1883 Witebsk. 8⁰ 167—CLXXV str. 3 tabl.

GOZDAWA, Marek.

1910.—Wspomnienie o Pijarach Witebskich. Kwartalnik Litewski, 1910, str. 89—116.

[....

1905—Materyały do dziejów Akademii Połockiej i szkół od niej zależnych. Zebrał I. g.

Kraków. 8⁰ 288 st.

Z „Materyałów i opracowań dotyczących historyi wyższych zakładów naukowych w Polsce". 1905 t. IX.

POGODIN. A.
1903—Uniwersytet Wileński i akademja jezuicka w Połocku. Ognisko. 1903. № 10.

GOZDAWA, Marek.

1910.—Szkoły w województwie połockiem w XVIII wieku po pierszym rozbiorze Kraju. Kwartalnik Litewski, 1910, II, str. 67—81.

МАТУСЕВИЧ, М. К.

1907.—Матеріальное положеніе сельских учителей вообще и в Витебской губерніи в частности.

Труды I Всероссійскаго С'езда представителей обществ вспомоществованія лицам учительскаго званія. 1902 3 уч. г. в Москве. Т. I. Москва.

---

Выдавец—**Інстытут Беларускае Культуры.**
Рэдактар—**С. Плаўнік (З. Бядуля).**

# ЗЬМЕСТ.